Алесь Пісьмянкоў

# Думаць

## вершы...

*Вершы,*
*эсэ,*
*успаміны*

Мінск
«Мастацкая літаратура»
2005

## СУЦЯШЭННЕ

*Зямлёй,*
*травой,*
*кустамі*
*З табою некалі*
*мы станем.*
*І будзе дождж ісці*
*над намі,*
*І будзе снег ісці*
*над намі,*
*І будуць воблакі*
*над намі,*
*І будуць зоркі*
*спець начамі,*
*Як над зямлёй,*
*як над травой,*
*як над кустамі...*

## БЯЛЫНКАВІЧЫ

Малюю –
Мілую
Радзіму малую:
Закутую рэчку,
Лясное мястэчка.
Малюю старанна
Сярэбраны ранак,
Сасоннік, алешнік,
Рабіну, канешне ж,
З адвечнай самотай
На сінім сумёце.
Вось дом
Пад бярозай,
Вось дым
На марозе,
Вось след
Каля брамы:
МАМА...

## АЛЁНА І АНІССЯ

Мроіцца час блаславёны
Шчасны і ясны калісьці.
З казкаю
Бабы Алёны,
З ласкаю
Бабы Аніссі.
Свецяць мне вашы імёны —
Грэюць ад самай калыскі,
Мудрая
Баба Алёна,
Добрая
Баба Аніска.
Вашы прасветлыя лікі
Варты рублёўскіх іконаў:
Сэрца любові вялікай
Вучаць
Анісся з Алёнай.

## УЗДЫХ

Усё меней і меней радні.
Зноў прысмак у часу сірочы...
О, якія кароткія дні
І якія даўжэзныя ночы!

Што да гэтага ўздыху дадаць,
Апроч новага цяжкага ўздыху?
Моўчкі ранак крамяны згадаць
Ды небу паскардзіцца ціха.

## РАЗМОВА З АРХЕОЛАГАМ

— Рупны знаўца, Пётра Русаў,
Што чуваць пра беларусаў
У вяках сівых славутых,
Пра якія ты начуты,
Дзе ты гутарыш падоўгу
З Гедымінам і Міндоўгам?
Пласт за пластам, слой за слоем
Ты капаеш нашу Трою...
— Наша кожная знаходка
Пра характар сведчыць продкаў.
Зараз я любоўна лашчу
Тое ж самае, што й прашчур,
І мяне не паліць сорам:

Завушніцы,
Меч
І шолам.

## БЯЗЗОРНАЯ НОЧ

Я цябе яшчэ светла кахаю,
Хоць даўно ты зацята маўчыш.
Я кладуся з апошнім трамваем,
Што знікае ў бяззорнай начы.

Ды былое з нябыту не вернеш,
Калі шчасце праходзіць наўзбоч,
Як мая непатрэбная вернасць,
Як твая адзінокая ноч.

## ЗГАДКА ПРА БАРКАЛАБАВА, АБО ВЕЧАР СА СВЯТЛЕЙШЫМ І. Г. ЧЫГРЫНАВЫМ

*(Амаль вольны верш)*

Я не быў ані дня ў Баркалабаве,
Ані дня,
ні адзінага,
Хоць збіраўся і я ў Баркалабава
З'ездзіць
з Іванам Чыгрынавым.
Вечарам, помню, завейным
Мы чыталі літоўскія карты
І Святлейшы хваліў Бутрамеева:
— Узяць Бутрамеева варта б,
Летапісца наведаць старога...
Хоць глухія ў гісторыі згадкі,
Мне твар уяўляецца строгі
І рука ў мазалях...
ад асадкі.
Думаю, быў бы ён рады,
Пабурчэўшы крыху для прыліку,
З аднаго распазнаў бы пагляду
Поспехі нашы
і нашы пралікі.
Ну спытаў бы, вядома, пра творы,
Заварыў бы гарбату на зёлках.
Уяві:
мы сядзім і гаворым,
І гартаем
мой «Плач перапёлкі».
Ён сказаў бы, што талент ад Бога,
І згадаў бы, чые мы нашчадкі...
Мне лік уяўляецца строгі
І рука ў мазалях
ад асадкі.

## УСПОМНІЎСЯ ЦЁЗКА...

Ад лёсу нікуды не дзецца:
Яго трэба годна прыняць.
Нябачная нітка прадзецца —
Ссівелыя паркі не спяць.

Багіні ніколі не скажуць,
Хоць ноч на каленях прастой,
Якія вузлы яны вяжуць
На нітачцы тоненькай той.

— Зноў міфаў старых адгалоскі
Бярэш ты ў камп'ютэрны век..
— Ды проста мне ўспомніўся цёзка:
Ён гордзіеў вузел рассек.

## НАСТРОЙ

Адзімую —
Адсумую,
Размінуся з бедамі,
І калі перазімую,
Бог дасць, пералетую.
Ды чамусьці верыцца,
Што яшчэ наперадзе
Баравік у верасе,
Вогнішча на беразе,
Песня лебядзіная
Пра цябе,
Адзіная.

## АКАДЭМІЯ НАВУК

*Навуму Гальпяровічу*

Позні вечар поўны дум.
Клопат плот гародзіць.
Акадэмія,
Навум,
Нам пара выходзіць.
Акадэмія навук —
Бронза ў кожным гуку!
Толькі ў нас з табой,
Навум,
Іншая навука.
Вершаваць,
Як чараваць,
З холаду — ў агонію,
Ачуняўшы, вывяраць
Алгебрай гармонію.

## АСАЦЫЯЦЫЯ

Мароз і сонца...

*А. С. Пушкін*

Зноў снег без марозу,
Зноў снег без марозу —
Зноў дзён аднастайных гурма,
Як постмадэрнісцкая
Нудная проза,
Дзе выйсця ў героя няма.
То слотна, то сыра,
То сыра, то слотна —
Маркотна канчаецца год.
Ды гэта ўжо, зрэшты,
Зусім неістотна
Для стомленых нашых істот.
Няўжо гэтак будзе бясконца?
Сюжэт безнадзейна завіс...
З марозам і сонцам
З марозам і сонцам
Вярнуцца хачу ў рэалізм.

## ЮДЗІФ І АЛАФЕРН

Паводле Старога Запавету,
Юдзіф забіла Алаферна,
помсцячы за спалены горад
і забітага мужа.

Помсты ранены звер
Не засне ні на міг.
О не вер, Алаферн,
Пацалункам Юдзіф.

Задушы пачуццё,
Хоць да жарсцяў ахвоч,
Аддасі ты жыццё
За кароткую ноч.

Ты ж у сечы — арол,
А ў пасцелі — ягня.
Твой пакіне шацёр
На дасвецці яна.

І пад здзеклівы смех
Вартавых ля кастра
Горда кош пранясе
З галавой ваяра.

У пасцелі насціг
Цябе праведны гнеў...
Асудзіць жа Юдзіф
Аніхто не паспеў.

## ПЯТРЫЛАВА

Чакай Пятра — сыр з'ясі.

*Прыказка*

Певень залопаў крыламі,
Лясныя будзячы нетры.
Рана ўстае Пятрылава:
Пятрылаву
Трэба
Петрыць.
Петрыць і рупіцца шчыра.
За косы і граблі пара:
Нельга застацца без сыру
Пятрылаўцу
Да
Пятра.

## ПРАДЧУВАННЕ

Адно спадзяванне — на снег.
Яго зачакаліся ў Менску,
А ён супыніў свой разбег
І ціха прылёг ля Смаленска.

Глухія кароткія дні
Нам трэба, як грып, перанесці,
...Марозна лістота звініць
На бруку ў Траецкім прадмесці.

Жыву спадзяваннем на снег.

## РАЗВІТАННЕ З БАЦЬКАВЫМ КАНЁМ

Ці жывы ты, мілы косю,
А калі яшчэ жывы,
Ці ты сніш у буйных росах
Сакаўныя паплавы?

Я таксама сню іх часам,
Не забудзецца сваё,
Яны сноў маіх акраса,
І адхланне ў іх маё.

Знаю, сумна ты ўздыхаеш
Сярод новага двара.
Мусіць, цяжка прывыкаеш
Да свайго гаспадара.

Палюбі яго, як зможаш,
Хоць душой і не адтаў,
Пэўна, хлопец ён харошы,
Я благому б не прадаў.

Што табе яшчэ парадзіць,
Ды і што з маіх парад?..
Мне было балюча здрадзіць —
Гэта першая са здрад.

Мог бы й я застацца дома,
Несці вернасць баразне,
Бо выбітных і вядомых
Тут хапае без мяне.

Не пра гэтае размова,
Не пра гэта, косю, сказ:
Проста ў Сашкі Пісьмянкова
Мог бы іншы быць Пегас.

## МАСТАК

Гегель, Гогаль і Ван Гог.

*Леанід Мартынаў*

Ён халтуру, як абразу,
Успрымаць ніяк не мог.
Можа, ў ім памерлі разам
    Гегель,
    Гогаль
    І Ван Гог.
Дый ці быў ён тут шчаслівы,
Калі побач з намі жыў,
З дыялектыкай наіву
У разгубленай душы?
Мы, бывала, чарку бралі
І сядзелі аж да трох.
З намі моўчкі піравалі
    Гегель,
    Гогаль
    І Ван Гог.
Ты яго не знойдзеш зорку —
Ён ступіў за Той парог.
Зараз з ім вядуць гаворку
    Гегель,
    Гогаль
    І Ван Гог.

## СУМНАЕ ПРЫЗНАННЕ

Гусцее
Змрок,
Чуйнее
Ціш,
Цішэе
Крок,
Цяжэе
Крыж.

## ДОТЫК

Вясна. Чаромха. Весніцы.
Зямля з-пад ног сплыла:
Далонь маёй равесніцы
Мне сэрца апякла.

Чаромха зноў нявесціцца.
Нявесцяцца сады.
Свякроўка ўжо равесніца
І я — не малады.

Не спіць мая бяссонніца,
І думкі з ёй не спяць...
І дотык той мне помніцца,
І весніцы рыпяць.

## ПАМЯЦЬ

Ліставейнай замеццю
Зноў услед за памяццю
Да цябе іду.

Гарадамі, сёламі,
Дзе сябе вясёлага
Болей не знайду.

Вось ужо і Чэрыкаў...
Памяць невычэрпная,
Прыпыні хаду:

З кожнаю былінаю
Да саміх Бялынкавіч
Гаману вяду.

Светла мне пад месяцам
Між Дняпром і Бесяддзю.

## ПАПАРАЦЬ-КВЕТКА

Белым бярозам
на сцюжы калець.
Разам з Купалам
хварэць на ангіну.
Крохкую
папараць-кветку на шкле
ранак марозны
на шчасце пакінуў.
Колькі мяцеліц
пасля адгуло,
колькі з марозамі
крозаў растала!
...Срэбнае шкло
ўсе Каляды цвіло —
папараць-кветка
з яго не знікала.

## ПРОСЬБА

Што ты, лёс, галёкаеш?
Не прасі надаць.
Пенсія — далёкая,
Смерці — не відаць.

Не ўздыхнеш з палёгкаю —
Хісткія масткі:
Позна нам у лёкаі,
Рана ў жабракі...

## ВЕРШ, НАПІСАНЫ Ў ТУРМЕ

Навасады. Зіма.
Год 2003-і.
Месца дзеі – турма;
Запрасілі сустрэцца.

Ад турмы і сумы
Адракацца не будзем,
Добра ведаем мы,
Што й за кратамі – людзі.

Іх зямная юдоль
Не найлепшая ў свеце,
Іх затоены боль
Нельга нам не прыкмеціць.

Ну не звер ён, не звер,
Той вунь стрыжаны хлопча.
Мо ягоны давер
Заўтра зона растопча.

Анічым не праб'еш
Яе панцыр лядовы.
Спадзяванне на верш,
На гаючае слова.

## МОЙ РАБ

Ты раіш:
«Выцісні раба!»
І я згаджаюся, што варта б...
Ды толькі раб мой не слабак,
Мой раб,
як чорт, упарты.
Мой раб баіцца як агню
Святога слова «воля».
Я кожны дзень яго ганю,
А ён упарціцца:
«Ніколі!»
Я, можа б, з ім паладзіць змог,
Каб не душа яго чужая.
...Яшчэ ніхто не перамог,
Але мяне ён
паважае.

## ТУГА

На кругі свая,
На свае кругі...
Вось дайшоў і я
Да сівой тугі.

Не заві, вярста,
У радзінны кут:
Сірата я там,
Сірата і... тут.

## НАЧЛЕГ У ПАКІНУТАЙ ХАЦЕ

Зноў рыпнулі дзверы,
прапела масніца.
То босая памяць
выходзіць напіцца.
Засмяглыя вусны,
збалелае сэрца.
У конаўцы пуста,
і пуста ў вядзерцы.
На вуліцы замець
гуляе з марозам,
А босая памяць
стаіць на парозе.

## ПЕРАЛОМ

Яшчэ мароз сабе не здрадзіў,
Агнём халодным паласнуў.
Яшчэ ў аснежаных прысадаў
Няма і думкі пра вясну.

Яшчэ спрабуюць снегапады
Махнуць натомленым крылом,
Ды гэта марная бравада —
Ужо адбыўся пералом.

Усё яшчэ ва ўмоўным ладзе:
Жаданням жарсці не стае,
І ўсё ж у мройлівым паглядзе
Ільдзінка ціха растае.

## ЗНОЎ ПРА САННЫ СЛЕД

Скрозь шляхі замяло.
Белым-белы ўвесь свет.
У сталічным метро
Санны ўспомніўся след.

Хоць няўмольны прагрэс
Карэктывы ўжо ўнёс,
Ён ляціць цераз лес,
Абмінаючы лёс.

Мне пад свіст палазоў
Родны чуецца смех.
Эх, шкада, што вазок
Час на дровы пасек!

## ЗАМЕСТ ЛІТКАНСУЛЬТАЦЫІ

Патыліцу доўга не чухай,
Ты ісціну ведаеш сам:
З абухам
Не бегай
За мухай,
Як некалі Клышка пісаў.
Жыві і пішы без прымусу,
Сцяжыну сваю церабі.
Ты кажаш: «Капрызная Муза...»
З каханкі
Служанку
Зрабі!

## ДАРАВАЛЬНАЯ НЯДЗЕЛЯ

Даруйце, даруйце,
І вораг, і брат.
Даруйце, не злуйце,
Кажу: вінават.

Сам-насам з грахамі
Ў прасветлены час
Іду я да храма
Маліцца за вас

І каяцца з вамі
Ў адноўленым храме.

## НА СПАСА

Апошняя ласка
Кароткага лета.
Зноў Спас нас частуе
Ружовым ранетам.
Ружовым ранетам
Духмяна-крамяным,
Асвечаны яблык
У храме драўляным.
Прасвечаны сонцам
Да самага зерня,
Як толькі надкусіш —
Мінулае вернеш.
Мінулае вернеш
З няўмольнага часу...
О, грэшныя думкі
Ля храма на Спаса!
Ля храма на Спаса,
Дзе вабяць спакусна
Асвечаны яблык
І грэшныя вусны.

## НАДПІС НА КНІЗЕ

Я б землю покінув
і в небо злітав!

*З украінскай народнай песні*

Белы аркуш і сціло.
З ласкі неба
Мне паставіць на крыло
Верш свой трэба.

Вось ён ціўкнуў птушанём
Зноў над вухам.
Пазмагацца з вышынёй
Мала духу.

Аж дыханне заняло —
Свет высозны!
Белы аркуш і сціло.
Я і космас.

## УСПАМІН ПРА ДАВЕР

Мы раслі — не тужылі
Ў ззянні сонца і рос.
І матулі
Кашулі
Шылі нам навырост.
Нас у зорнае неба
Клікаў светлы намер,
Мы і хлеб
І да хлеба
Маглі ўзяць напавер.
Бог казаў нам дзяліцца:
Чалавек жа не звер...
О, каб сёння сталіцы
Той вясковы давер!

## ПАКРОВЫ

Самотныя дрэвы
Ў прастуджаным парку.
Дзе чуліся спевы,
Там воран пракаркаў.

Гарыць пазалота
На ворыве чорным:
Зграбае лістоту
Зажураны дворнік.

Смяротная стома
У чыстым паглядзе,
Хоць ледзьве знаёмы,
На лаўку прысядзем.

З адной запальнічкі
Абодва прыпалім.
Танцуе сінічка
На клёне апалым.

Знаёмец мой глуха
Прамовіў: «Пакровы...»
Маленствам і скрухай
Азвалася слова.

— Сягоння каровы
Не выгналі ў поле...
— Хіба ты вясковы?
— Узрос я на волі...

Ўздыхаем прывычна.
Зажурана палім.
Танцуе сінічка
На лісці апалым.

## ШКАДАВАННЕ

Я кнігу ўсё-ткі напісаў,
Сыноў двух ясных нарадзіў,
Але, народжаны ў лясах,
Дасюль свой сад не пасадзіў.
Ды што там лес, ну хоць бы сад!
Як бацька некалі,
Як брат...
І толькі часам па вясне,
Калі туманіцца пагляд,
Тады і мне ў ружовым сне
Шуміць мой лес,
Цвіце мой сад.

## ЗЯМНАЯ АСНОВА

*Леаніду Левановічу*

Зямная аснова
Трывалай была:
Прыручана слова.
Раіцца пчала.

Такая планіда
Ў майго земляка:
Пяро Леаніда
Натхняе рака.

Ніщто не замуціць
У Бесядзі дно.
На ёй каламуці
Дасюль не відно.

Хоць свет і суровы,
Стае ў ім святла.
Прыручана слова.
Раіцца пчала.

## КРАЯВІД

Малюнак някідкі
Уздрыгнуць прымусіў:
Над рэчкай — ракітнік.
На поплаве — бусел.

І — хата ў бярозах
На самым узгор'і...
І слёзы, і слёзы
Казычуць у горле.

## ЖАДАННЕ

Хорошо бы собаку купить.

*Іван Бунін*

Я стаміўся хадзіць каля страшнага,
Да чорнага
мой прызвычаіўся зрок.
Хоць бы каліва
светлага,
яснага,
О, як надакучылі
цемра і змрок!
Вунь і бярозавы ліст дагарае —
Душа адзінока
ў сусвеце трымціць...
Можа, і праўда,
як класік параіў,
Узяць дый сабаку ў суседа купіць.

## МАЛАДОЕ ЛЕТА

Маладое лета.
Ў красках паплавы.
Закасала лета
Зранку рукавы.

Змыла сон сцюдзёнкай,
Бразнула даёнкай,
І цяпер на пляцы
Бранзавее ў працы.

## НА ЗЯМЛІ РАДЗІМІЧАЎ

Шчаслівы настрой падарожны,
Зноў я палоннік красы.
Празрыстыя рэкі
Пасожжа
І думныя
Ўвосень лясы.
Глытнуўшы радзіннага дыму,
З дабра не шукаю дабра.
І я гэтаксама б
На месцы Радзімы
Пасожжа б
Радзімай абраў.
І Ветка,
І Хоцімск,
І Родня —
Адхланне маё і спачын...
О, кроўная повязь!
О, роднасць!
І слова шчымлівае
«Сын».

## ЛОЎЛЯ РЫБЫ Ў ДЗЕНЬ СВЯТОГА ПЯТРА

Ісдач. І слодыч, і слова, і слава,
І водар гаючай жывіцы-смалы.
Спелае сонца сягоння ласкава
На золаку вохрай залоціць ствалы.

Зараз я вуду на стронку закіну,
Забуду пра скрутны і здрадлівы час.
Можа, якраз мне вось гэту хвіліну
Гасподзь не запіша ў пражыты мной стаж.

Кажуць, што Пётра быў рыбарам знаным
І быў адмыслоўцам у справе сваёй...
Ліпеньскі ранак, і міг неспазнаны,
І сонца на кончыку вуды маёй.

## ПРА ВЕЧНАЕ

Кажуць, быў я аблашчаны доляй,
Хоць мой дом не мінала бяда:
Я па мёртвых паплакаў даволі,
А жывых яшчэ болей шкада.

Бо мы ўсе на зямлі гэтай госці,
Не забавімся мы на зямлі,
І калі я пакрыўдзіў кагосьці,
То і мне тая рана баліць.

Нам усім не хапае спагады,
І любові жывым не стае...
Нам адпушчана так небагата,
Што й грахі не замоліш свае.

## КРЫНІЦА

У радзінным краі,
У зялёным гаі
Буду раны гаіць.

Там крыніца адна
Нават ноччу відна
Аж да самага дна.

Туды прадзед хадзіў,
Дзед душу маладзіў,
Бацька сум саладзіў.

Яна ж мкне ўсё, імкне,
Срэбра свеціць на дне —
Яго хопіць і мне.

## НА ПЛОШЧЫ ЯКУБА КОЛАСА

Марудзяць нашы трамваі
На плошчы Якуба Коласа.
І як ты мяне трываеш
Сумнага,
Невясёлага?
Я даўно не смяяўся молада,
Я даўно не кахаў нястрымна.
Уяўляю, як табе
Холадна,
Як побач са мною
Зімна.
А ты ўся цнатліва-чыстая
І ў чысціні сваёй кволая.
Ты пацярпі:
Я выстаю,
Я навучуся ў Коласа.

## ТРАВЕНЬ

Ласкаю травень расчуліў.
Слухай,
Душа,
Не чарсцвей:
Ранкам
З табою зязюля,
Вечарам —
Салавей.

## НАСТАЛЬГІЯ ПА ІДЫЛІІ

Якая позняя вясна,
Якое доўгае чаканне!
Мне ноччу сніцца баразна,
Шпаком разбуджанае ранне
І бацькам выбелены сад.
Пад белай яблынькаю — грады.
У маці ясніцца пагляд:
Яна высаджвае расаду.
Якое простае жыццё
Для выпадковага пагляду!
А тут не побыт, тут — быццё,
Яго высокая улада.

Мне сніцца выбелены сад,
О, каб вярнуць той кадр назад!

# ЗАБЯСЕДДЗЕ Ў РАСЕ

*Памяці бацькі*

Трэці год не кашу
Я з табою лугі.
Там мянташыць касу
Зараз нехта другі.

Хоць і хвацкі касец,
Ды табе не раўня,
Ў вёсцы ведалі ўсе:
Ты асілкам радня.

Забяседдзе ў расе.
Над ракой туманок.
Па сваёй паласе
Не ідзе Пісьмянок.

Уздыхае твой конь
На чужыне ў журбе.
Паслабела далонь
У мяне без цябе.

Паслабела далонь.
Легла срэбра на скронь.

## ВАСЕМНАЦЦАТАЕ ЛЕТА. УСПАМІН

Пахне мёдам і ранетам
Васемнаццатае лета.

Конь ласуецца ў атаве,
Жабы ў Бесядзі картавяць.

Рыбакоў заціхлі крокі,
Спіць мястэчка сном глыбокім:

Нарабілася да стомы,
Натапталася па дому.

Нават стомленая поўня
Задрамала ў лёгкім чоўне.

Нам не сорамна да золку
У стажку шукаць заколку.

## АД'ЕЗД

Яшчэ нічога не было:
Адна няясная трывога,
Ды бацька з маці ля парога,
Ды зоркі дрогкае святло
Над затуманенай дарогай.
Яшчэ не куплены білет
На ціхай станцыі вясковай,
Яшчэ суровы белы свет
Святлом надсвечаны ружовым.



Здымак на памяць
з бацькамі і сябрамі
ў час вяселля.
4 лістапада 1978 г.



На свяце паэзіі
ў Вязынцы.
1993 г.



У. Марук,
А. Пісьмянкоў,
М. Мятліцкі,
У. Ягоўдзік
і У. Мазго.
1985 г.





З жонкай Аленай
і сынамі Максімам
і Аляксеем.
Ліпень 1988 г.



Ён кнігі любіў,
як птушка любіць неб

## ПАПРОК

Я стаў баяцца белых зім.
Я разлюбіў цябе,
Мой люты,
Такога гора і пакуты
Шчэ не было ў жыцці маім.
Я не прывык прасіць спагады —
Дасюль мне лёс не быў айчым.
Ты, люты,
Даў жыццё мне свята
І люта
З мамай разлучыў:
Я стаў баяцца белых зім.

## ШАРАЮ ГАДЗІНАЙ

Далёкае
і блізкае,
Высокае
і нізкае,
Спакойнае
і тлумнае.
Вясёлае
і думнае,
Пяшчотнае
і грубае,
Нялюбае
і любае...
Усё гадзінай шараю
Злілося і змяшалася
І шэрае,
і зорнае,
І белае,
і чорнае.

## ЗА ВОРШАЮ

І ложак нам — зелень.

*Песня песняў*

Да апошняга
Ўсё разлічана
І пралічана
У Тварца.
Песня песням
Амаль не чытана,
Не прачытана
Да канца.
Ах, як пахнуць лугі
За Воршаю!
Ах, які ў салаўя
Зачын!
Мы з табою, павер,
Не горшыя,
Мы не горшыя
Чытачы.

## АРЫТМІЧНЫ ВЕРШ

*Віктару Патапенку*

«Ах, якая вада ў Калодзезкай,
Хоць бяры ды на продаж вязі!
Калі вып'еш —
Душа амалодзіцца,
Калі вып'еш —
Яшчэ папрасі!»
Гэта з маленства
мне помніцца,
Гэта адтуль
прыплылі галасы,
Гэта ходзіць мая бяссонніца
Ля чарнобыльскай паласы,
Дзе не сеецца,
не малоціцца,
Дзе ніколі ніхто не народзіцца,
Што ж ты,
Сэрца,
Калоцішся
Ля пустога калодзежа?

## НОЧ НАПЯРЭДАДНІ РАЖСТВА

— Ах, які маладзік,
Ах, які маладзік,
Бы з аповесці Гогаля!
— А дзе ж смех маладзіц,
Што нам кроў маладзіць,
І ці ёсць яна ўвогуле?
Дзе вы, бровы ўразлёт,
Што я мроіў шмат год?
Дзе сумёты пад плот?
Дзе крамяны народ?
— У аповесці Гогаля...
— Мо да Кума зайсці
Распытаць аб жыцці?
— На Каляды той год
Кум замёрз ля варот...
— Дзе ж Вакула-каваль,
Што яго не чуваць?
— У замежжа каваль
З'ехаў грошы каваць...

## НОЧ, ПОЎНЯ

Эх, маці, маці,
Як пуста ў хаце!
Куды ні глянеш —
Душу параніш.
Як адзінока
Пад поўні вокам,
Як невыносна!
Я знаю: позна...
Ты больш не скажаш:
«Кладзіся, Саша,
І спі як людзі...»
Ты больш не скажаш,
Больш не разбудзіш.

## ЛЮБІМ-ТРАВА

Любім-трава сілу вялікую мае!

*Яраслаў Пархута*

Любім-траву шукае зрок,
Я пра яе даўно начуты.
Сам Яраслаў Сільвестравіч
Пархута
Мне даў батанікі урок.
На ветры веку нажавым
Ягоны ўрок я не забуду,
Бо і цяпер жыву пачутым
Пра моц таемнае травы.
— Шукай,
Шукай яе, браток,
Калі захочаш — пабажуся:
Яна расце паўсюль на Беларусі,
А знойдзеш там, дзе твой
выток.
Выток!—
Сказаў прасветлена хадок,—
Ён прывядзе душу да вусця,
Любім-трава век не адпусціць,
Любім-траву шукай, браток!

## СТАРАЯ ІСЦІНА

На міг дыханне затаіць
І растварыць сябе ў прыродзе.
Адчуць,
што час стаіць,
А мы?
А мы — праходзім.
Старая ісціна, як свет,
Табою створаны, Гасподзе.
...Вось бацькаў след...
Вось матчын след...
Праходзім мы,
праходзім...

## ЯДВІСЯ

«Прысніся,
Прысніся,
Прысніся!» —
Прасіў і маліў
Я ў юнацтве Ядвісю.
«З'явіся,
З'явіся,
З'явіся!»—
Шукаў і гукаў
Я паненку Ядвісю.
Я чуў яе крокі,
Я чуў яе голас,
Як Бог, малады,
Яе выдумаў Колас.
Выдумаў Колас,
Каб я напрадвесні
У снах яе лашчыў
І песціў у песні.

## САМАІРОНІЯ

Снег
        на
            кронах,
Снег
        на
            скронях —
Срэбрам свет зазіхацеў.
З кронаў
            каркаюць
                        вароны,
Што і я разбагацеў.

## СУСТРЭЧА

— Вітаю!
— Вітаю!
— Спяшаеш?
— Спяшаю!..
Такая гаворка.
Такая сустрэча.
Дарога пад горку.
Бярэцца на вечар.
А можна ж іначай
Вітацца, зямляча:
— Вітаю!
— Вітаю!
— Лятаеш?
— Лятаю!
...Бяскрыла жартуем,
Што крылаў не чуем.
— Не чуем,
Не маем?
— Спяшаем,
Спяшаем...

## ПЕРАДЗЕЛКІНСКАЯ РЭМІНІСЦЭНЦЫЯ

Якое, мілыя, у нас
Тысячагоддзе на двары?

*Барыс Пастарнак*

Зноў асфальт прабіваюць расткі
І да неба імкнуцца вяснова.
Не даецца пейзаж гарадскі,
І таму пачынаю нанова:
Самадайкі малёваны твар,
Сутэнёра нахабнае вока...
Я аптэку пішу і ліхтар —
Паўтараю самотнага Блока.
Век які ў нас цяпер на двары
І які яго знак і адзнака?
О, як добра, што свечка гарыць
У бяссонным акне Пастарнака!

## ПРЫСНІЛІСЯ СЛОВЫ

Пад тым дубам крыніца стаяла.

*З народнай песні*

Прысніліся словы
І голас матулі.
І чыстым, вясковым
Маленствам дыхнулі:

Аерам і мятай,
Гародам у росах,
Квітнеючым садам,
Духмяным пакосам,

Палянай сунічнай,
Ракой і азерцам,
Той самай крыніцай
З тым самым вядзерцам.

## ДОМ І ДЫМ

Слязінку змахну крадком
У родным кутку святым:
Тут быў і ў мяне свой
Дом,
І над домам плыў
Дым.
Якi б ні бываў садом
У гэтым жыцці крутым,
Я знаў: у мяне ёсць
Дом
І над домам ёсць
Дым.

## БАЯРЫН

*Анатолю Майсеенку*

Тугі развеяць хмары,
Ў бярозах скінуць боль
Заве мяне ў Баяры
Баярын Анатоль.

Ківае пальцам строга
Між дрэваў-спарышоў:
— Нашто цвяліць старога?
Баярына знайшоў!

Вучоны мой таварыш,
Дый мы не прастакі:
— Ў Баярах скрозь баяры,
А ў Мінску — мінчукі.

На зайздрасць некаторым
Над срэбным ручаём
Пад зоры ўзвёў ты хорам
Ў суседстве з салаўём.

Дазволь мне тут памарыць,
Адтаць душой дазволь,
Спагадны мой таварыш,
Баярын Анатоль.

## РАЗВІТАННЕ

Пакланіўся роднай хаце.
Што яшчэ зрабіць я мог?
Няма бацькі,
Няма маці,
І суддзя мне толькі Бог.
Толькі Бог ды тыя людзі,
Да якіх душой прырос...
Толькі студзень
Рану студзіць,
Слёзы высушыў мароз.

## МАМА

Мама заўсёды чакала,
Мама свой час не лічыла,
Мама жывым спачувала —
Мама лячыла.
Мама душою трымцела.
Мама дабра ўсім хацела,
Мама ні ў чым не лаўчыла —
Мама вучыла.
Мама заўсёды трывала,
Мама да скону рабіла,
Мама сябе забывала —
Мама любіла.

## ВЕЛІКОДНЫ ЎСПАМІН

Я сёння, відаць, не засну —
Мой одум сірочы не знікне:
І мама чакала вясну,
І мама любіла Вялікдзень.
Звечара ў печы паліла,
Смажыла
Ды варыла.
Не гатавала,
А — чаравала,
Пры агні шчыравала.
Як сонца свяцілася ласкай
І грэла ўсіх любасць-спакой,
Якія ў Сямёнаўны пасхі!
Якія ў Сямёнаўны краскі.
Якую струну ні крану,
Зноў памяць балючая ўскрыкне:
Без мамы страчаю вясну,
Без мамы святкую Вялікдзень.

# ПРЫЯЗДЖАЙ

Цераз луг, цераз лес,
                    цераз гай
Крочыць думная восень.
«Двору, любенькі, прыязджай!» —
Больш ніхто не папросіць.
Крута рыжык слязою салю,
У зямлі пазычаючы сілу.
Я ўсё помню, і ўсё я люблю,
Што і мама любіла:
Гэты луг, гэты лес, гэты край,
Гэту думную восень.
«Прыязджай...
                    Прыязджай...
                                        Прыязджай...»—
Рэха ў соснах галосіць.

Алесь Пісьмянкоў

# З нізкі «Партрэты»

## КАІН І АВЕЛЬ

Зноў туга засцілае пагляд:
Чалавек чалавеку не рад.
Хіба Авель не Каінаў брат?
Хіба Каін не Авелеў кат?

Разбівае надзеі ўсе ў прах
Тлумных дзён неразумны разбег.
Ох, і лёгкі ж у Каіна ўзмах,
Ох, і цяжкі ж у Каіна грэх!

Як малітву святую ні доўж,
Спатыкнешся аб д'ябальскі смех.
Кроў ніякі не вымые дождж
І ніякі не выбеліць снег.

## НАТАЛЬКА

> На грэх пусціўся праз дзяўчыну
> І мусіў праз яе сканаць...
>
> *Янка Купала. Магіла льва*

Магіла льва каля Днярпа
Усім вядомая спрадвеку.
Ды раптам выйшла з-пад пяра:
Наталька здрадзіла Машэку.

Не ўпала неба на Дняпро,
І не спынілі бег свой рэкі.
Няўжо ёй рухала дабро,
Калі руку ўздымала на Машэку?

Няўжо цана каханню грош,
Наіўным кінуты для здзеку?
Ах, вы пярэчыце! І ўсё ж
Наталька здрадзіла Машэку.

## КАСТУСЬ І МАРЫСЯ

Не сумуй,
не сумуй,
Беларусь,
Па-над крыўдай сваёй узніміся.
Імя слаўнае ўспомні Кастусь
І адданыя
Вочы Марысі.
Белавежжа паслухай лясы.
У іх пошуме ратныя былі.
Гэта вояў тваіх галасы.
Іх забілі,
Але не забылі.
Брукаванкаю Вільні іду,
Там,
Дзе нашыя сны не збыліся.
І аб вечным гамонку вяду
З Кастусём і Марысяй,
З Кастусём і Марысяй...

# З юнацкіх вершаў

## СЕМНАЦЦАТАЯ ВОСЕНЬ

Я ноч не сплю, я ноч не сплю...
Я нечым устрывожан.
Вось і пакінула зямлю
Семнаццатая восень.
І будзе дождж, і будзе град.
А я усё не веру:
Няўжо не вернецца назад,
Не стукне больш у дзверы?
Няўжо не стрэну я нідзе
Яе у нашым краі?
Яна прыйдзе, яна прыйдзе,
Ды толькі не такая...
Вітаюць людзі ў добрых снах,
Згубіў сад пазалоту.
А быў такі там дзіўны пах
Антонавак і мёду.

* * *

Адгарыць вось-вось зялёны
Наш з табою зорны май.
Пагадай мне на далоні,
Калі ласка,
пагадай.

Не глядзі так з недаверам
І, прашу, не дакарай...
Слову кожнаму паверу.
Пагадай мне,
пагадай.

У тваіх вачах-азёрах
Я убачыў дзіўны край.
Пагадай мне на далоні,
Калі ласка,
пагадай...

## ТРЫЯЛЕТ

Прабач, за ўсё мяне прабач,
Хоць я ні ў чым не вінаваты.
На шчасце лёс быў скупаваты —
Прабач, за ўсё мяне прабач,
Як мар размах крылаты,
Застыў у горле горкі плач...
Прабач, за ўсё мяне прабач,
Хоць я ні ў чым не вінаваты.

* * *

Чую побач голас ночы.
Вёска ў бэзавым вянку.
Глянь, бярозаньцы на плечы
Цемнавокі летні вечар
Апусціў сваю руку.
Дагарэў пажар заходу.
Спяць туманы над вадой.
Пераплёўся з пахам мёду
Водар мяты маладой...

## З НАРОДНАГА

Выйшаў летнім ранкам
Сустракаць заранку.
Ды ў тумане белым
Стаў я анямелы,
Нібы сам не свой.
Хтосьці плача ў полі
Аб нялёгкай долі.
Можа, аб маёй?..

Алесь Паўлянкоў

# Настрой харошы даражэй за грошы

## ГЕНІЯЛЬНАЯ ЗДАГАДКА

Час гусінага пяра
Шмат пакінуў нам дабра.
Хоць рыпелі тыя пёры,
Сталі класікаю творы.
А цяпер ляціш на хутар
І адразу – за камп'ютэр.
А ў тых пёрах у гусіных,
Кажуць, процьма вітамінаў,
І, відаць, не без карысці
Іх любіў сам Пушкін грызці.

## ВАРОНА І СЫР

*(Амаль паводле І. А. Крылова)*

Холадна і сыра.
Эх, каб скрылік сыру!
Ды між «рускіх новых»
Не відаць Крыловых,
А ў бядоты-люду
Што я раздабуду?
Холадна і сыра.
Ні душы, ні сыру,
Ні дзядка Крылова,
Каб замовіў слова.





На свяце паэзіі
ля помніка Янку Купалу



Аўтограф
на памяць.
1986 г.

## ПАЭТ І РЫБНІЦА

Зноў мароз — вясёлы зух —
На праспект абрынуўся.
Эх, каб меў бы я кажух,
Бегаў бы да рыбніцы.
    Ды сяджу — не рыпнуся,
    Думаю пра рыбніцу.
Там і стронга, і ласось,
Россып беларыбіцы...
«Новы рускі», быццам лось,
Топчацца ля рыбніцы.
Не, зусім не селядца
Хочацца багатаму:
Шанец ёсць у малайца —
Вечар іх сасватае.
    Я ж сяджу — не рыпнуся,
    Верш пішу пра рыбніцу.

## СУЧАСНАЯ ЛЕКСІКА

Экзотыка.
Эротыка.
Сексшопы
І наркотыкі.
Бестселеры
І трылеры...
А што рабіць,
Блін,
З крыламі?
Амерыка?
Амерыка!
А мы жылі
І верылі...

3 Зак. 4002

## МЕТАМАРФОЗЫ

— Вучыся, сынок, вучыся...
— Круціся, браток, круціся...
Такія метамарфозы
Нашай суровай прозы.
Я навучыўся вучыцца,
А як навучыцца круціцца?

## ЦЁТКА — ЦЁТКАМ...

Дзядзька —
Дзядзьку,
Цётка —
Цёткам...
І, глядзіш,
Гуляе плётка.
У той плётцы
Я з малодкай,
Хоць няпраўда,
А — салодка.

## НАРАБІЎСЯ

— Нарабіўся, ледзь жыў,
Ледзь канцы не аддаў!
— Што ж рабіў ты, скажы?
— Што рабіў, што рабіў...
Я купіў і прадаў,
Я прадаў і купіў.

## ВЕТРАНЫ ПАЭТ

У залежнасці ад ветру
Склаў я вершаў кіламетры.
Мне зайздросціць паўсаюза:
— Бач,
Сабачы нюх у Музы.

## ВОЎК-БІЗНЕСМЕН

*Байка*

Красці ўмеў ён дужа лоўка,
Меў і спрыт, і загартоўку
І таму браў мёртвай хваткай
То цялятка, то ягнятка.
Капітал уклаўшы ў справу,
Ён зажыў сабе на славу
І цяпер на «Мерседэсе»
Хіжа гойсае па лесе.

---

У народзе ёсць памоўка:
Воўк цягаў — пацягнуць воўка.

## Я НА МОРА НЕ ПАЕДУ

Я на мора
Не паеду,
А паеду
Лепш да дзеда.
Лепш
У дзеда Усёведа
Прагасцюю
Гэта лета.
Там
Любімы мой бярэзнік,
Там
Чакае Боб-гарэзнік,
Там
Кузьма —
мой кот вучоны —
Лічыць
Лапкаю вагоны.

# АДАМ І ЕВА

*Іранічная балада*

Мы —
дзеці ўсе аднога дрэва,
Часцінка дзей забытых драм.
Адна пакуты несла Ева,
Адзін пакуты нёс Адам.
З іх кожны жыў асобным ладам,
Але душой не млеў Адам:
Віно ён ціснуў з вінаграду
І не глядзеў на той «Агдам».
Бог бараду самотна гладзіў
З журботнай думкаю пра іх.
А ў гэты час
у райскім садзе
З'язджалі з глузду салаўі.
«Ідэя рухне —
прахам,
пухам!
Відаць, жыццю
не прарасці...»
Ды раптам д'ябл шапнуў на вуха:
— Адных
у райскі сад
пусці...
І ён дарэмна час не траціў,
Пакуль Усявышні піў чаі,—
У гэту ноч у райскім садзе
З'язджалі з глузду салаўі!
Ах, гэта ночка, гэта ночка!
Яна з'яднала іх навек.
Не сніў Адам, што пасля ночкі
Сыны народзяцца і дочкі,
Што будзе ён
хадзіць упрочкі
І больш не жыць —
як чалавек.
...А мы ідзём
у засень дрэваў,
І галава —
як чамадан.

І ты —
        мудрэйшая за Еву,
І я —
      наіўны,
            як Адам.

## ДЗЕНЬ ЦЕШЧЫ

Хоць і стомлены ад свят,
А скажу нарэшце:
Вінаваты наш урад,
Што няма Дня цешчы.

Мы, зяці, як ні круці,
Ўсе — адно саслоўе.
Мы павінны клапаціць
Пра яе здароўе.

Як, пытаеш, клапаціць?
За здароўе цешчы піць!

# Думаць *вершы...*

*З літаратурна-сентыментальнага падарожжа*

# ЗАЛАТЫ ЗАПАС ПЫСІНА

Кожны раз, калі еду на Мінск з родных мне Бялынкавіч праз яго гаротную, пасыпаную чарнобыльскім попелам Краснапольшчыну, дзе, нягледзячы на сумныя метамарфозы апошніх дзесяцігоддзяў, працягваюць бруіцца і звінець маляўнічыя рачулкі Травінка і Сенна, я ўспамінаю светлы воблік паэта, яго строфы, радкі, словы. Успамінаю не толькі таму, што ён першы звярнуў увагу на мае наіўныя вершаняты, але яшчэ і таму (і найперш таму), што з гадамі разумею, якога Паэта мы страцілі... Успамінаю, як пры нашай апошняй сустрэчы ён скупа пасвяціў (частае слова ў ягонай паэтычнай лексіцы) сваёй усмешкай: «Будуць хваліць – не вер і будуць ганіць – таксама не вер... У нас адзін суддзя – час».

Так, у паэта толькі адзін суддзя. Суддзя строгі і бязлітасны, ад якога нельга адкупіцца ні званнямі, ні ўзнагародамі, ні прэміямі. Для яго яны, у адрозненне ад людзей, не маюць ніякага значэння. Яго Вялікасць Час бярэ ў сваю дарожную кайстру толькі тое, што яму патрэбна, у чым ён адчувае пільную неабходнасць. У выніку ягонай аб'ектыўнай рэвізіі з салідных тамоў застаюцца тоненькія кніжачкі, з кніжачак – строфы, са строфаў – радкі... І гэта абсалютна натуральны працэс, дакладней – натуральны адбор. Праўда, бывае і наадварот. Бывае, што сам час раптам пачынае працаваць на паэта. І тады адкідаецца ўсё лішняе, выпадковае і застаецца толькі залаты запас, намыты штодзённай працай душы. Залаты запас, які забяспечвае жыццё Слова ў вечнасці.

Наўрад ці думаў пра свае рахункі з вечнасцю Аляксей Пысін, пішучы вось гэтыя, сёння ўжо класічныя радкі:

Забыта многае ў жыцці,
З дарогі змецена і змыта.
Мне ў жыта хочацца ўвайсці,
Мне вечнасцю здаецца жыта.

Ён проста быў сумленным перад часам і словам. Слова і жыта былі для яго, як бачыце, паняцці адэкватныя, бо акурат у гэтым заключаўся сэнс ягонага быцця ў зямным жыцці, у якім вобразы паэта і чалавека гарманічна супадалі. Яму верыш. І, можа, якраз таму яго лірыку хочацца перачытваць, да яе хочацца вяртацца, над ёй хочацца думаць, бо Аляксей Пысін – паэт глыбокі. І ягоная глыбіня чыстая. Думаецца, з часам яна стане яшчэ глыбейшай. Надзелены ад Бога найвышэйшым моцартаўскім пачаткам, ён пісаў сябе самога такім, як ёсць:

Нішто не моднае на свеце,
Уся прырода – без прыкрас.
Ліецца дождж і вее вецер
У незалежнасці ад нас.

Хачу застацца старамодным,
Жадаю лёсу аднаго:
Для некага быць неабходным,
Не адчуваючы таго.

Я перакананы, што сёння гэты верш успрымаецца больш глыбока, чым успрымаўся пры жыцці Пысіна, і не толькі таму, што паэта няма з намі і на яго творчасць мы глядзім больш аб'ёмна («лицом к лицу лица не увидать»), а найперш таму, што абвастрылася наша гістарычная свядомасць. Тое, што было для яго нормай тады, для многіх з нас стала толькі цяпер.

«На полі бацькоўскім, якое люблю, чытаю свае векавыя ўспаміны»,– гаворыць паэт у адным са сваіх твораў. Гэта вельмі важнае і невыпадковае прызнанне. Дакладней – істотнае. Выпадковае ў такіх паэтаў, як Пысін, для якога гучная фраза, прыгожы жэст дзеля жэста не ўласцівае. Таму і ўспрымаецца яно шматзначна, я нават сказаў бы, успрымаецца як своеасаблівы ключ да яго мастацкага свету. Так, так – ключ, бо ў аснове многіх вершаў і балад Пысіна

ляжаць успаміны. Часам, чытаючы іх, амаль фізічна адчуваеш удумлівы позірк чалавека, які пільна ўзіраецца ў пражытае і перажытае. Відаць, гэта тое, што сёння крытыка называе кінематаграфічным мысленнем. І гэта, як кажуць, не выдумка маёй галавы — гэта засведчыў сам паэт:

Жыццё маё ў двухколерным свячэнні,
Як доўгі фільм. Я — аўтар і глядач.

Ці вось яшчэ:

Лес і поле — міма, міма,
Лес і поле — чарнатроп.
Не бяжы, прырода, стоп.
Вось мой край, мая радзіма!

Як бачым, кадры-ўспаміны, але, заўважце, «успаміны векавыя». Аўтар глядзіць на жыццё па-філасофску і бачыць яго ў трох вымярэннях, мінулае цесна пераплецена з сучасным, а сучаснае прасякнута трывогай і клопатам пра будучае. Сваё, асабістае, для паэта неаддзельнае ад лёсу «бацькоўскага поля». Канкрэтней, ад лёсу народа і яго гісторыі.

Старажытная каплічка.
Гарадзішча над ракой.
Ледзь прыкметная крынічка,
Што ўзялася асакой.
Не, не спадчына сівая
І не ўцэнены тавар —
Мне радзіма адкрывае
Ў дарагіх
радзімках
твар.

І хаця чыста «гістарычных» твораў у Пысіна мы не знойдзем, каардынаты яго духоўнага быцця пазначаны канкрэтна і выразна. Гэта і старажытная шматпакутная магілёўская зямля з Баркалабавым, дзе нарадзіўся геніяльны летапіс, які і сёння ўражвае мастацкай сілай (ці не таму «Баркалабаўскія салаўі»?), і Мсціслаў з легендарнай Дзявочай гарой, і трагічны лёс волата Машэкі, убачаны паэтам пасвойму, і руплівы мовазнаўца Бялькевіч, што не адзін

год збіраў па нашых вёсках свой «Краёвы слоўнік», тых самых вёсках, у якіх і цяпер яшчэ жыве смачнае, «як полаз, выгнутае — сянні». І, вядома, вайна, якая была для Пысіна не гісторыяй, а жорсткай рэальнасцю. За плячыма гвардыі радавога Аляксея Пысіна дымілася пяць франтоў. Двойчы ён быў паранены і двойчы вяртаўся з нябыту да жыцця. А колькі разоў ён адчуваў побач дыханне смерці!

Памятаеце:

Нядоўгі прывал. Нядоўгі начлег.
Пад намі снег. Над намі снег.

Вароты рыпяць ці нашы сляды?
Дарога адна, дарога туды...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Стралковая рота сопку ўзяла.
...Пад намі зямля. Над намі зямля.

Паэт усім жыццём аплаціў права сказаць: «Ведайце: калі мяне не стане,— я ў сваю дывізію пайшоў». Пысін ведаў, адкуль і дзе пачынаўся яго радавод, таму «дарагія радзімкі» мінулага для яго «не ўцэнены тавар», а неад'емная частка яго жыццёвай і духоўнай біяграфіі. Дарэчы, пра тое, што кожная з'ява ў яго жыцці мае тры вымярэнні, Аляксей Васільевіч пісаў у аўтабіяграфіі ў 1964 годзе. Несумненна, што менавіта гэтай формулы ён пры-трымліваўся і ў творчасці. Інакш ці напісалася б вось такое:

Ціха ў мінулым, і ў будучым ціха,
З намі ўсе гукі і гул жыцця.
Цяжка ўздыхае зямля-парадзіха:
Заўтра якое ўзаўецца дзіця?

Я не стаў бы так доўга засяроджваць увагу на гэтым аспекце творчасці пісьменніка, калі б аднойчы не пачуў такое: «Пысін, вядома, паэт, але ж у яго слаба выяўлена нацыянальнае». Тое, што менавіта паэтам дадзена найбольшая магчымасць выявіць дух і псіхалогію свайго народа, бо паэтычнае слова не толькі сэнсава напоўненае, але мае яшчэ і гучанне, і стылістычную афарбоўку, я ведаў даўно і Аляксея Пысіна заўсёды лічыў адным з тых нямногіх

шчасліўцаў, каму гэта ўдалося. Яшчэ як удалося! Звернемся да аднойчы ўжо згаданага:

Жалезніца, Касцягаўка, і Горна,
І вёска маці — светлыя Мануйлы.
Журба і радасць ціхая агорне:
Вы ёсць, не адляцелі, не мінулі!

Была радня аж дзесьці ў Саматэвічах,
За Бесяддзю, за полем і барамі.
У вёсках тут прыгадваюць Бялькевіча:
«Краёвы слоўнік» разам мы збіралі...»

Чытаю, перагортваю я слоўнік,
Нібы ў бабульчынай гасцюю хаце:
— Прысядзь, маё ты дзетка, на услоне,
А як жа бацька твой, а як жа маці?..

Тут ёсць усё: і слова, і дух, і нацыянальны характар, і тая спрадвечная спагада, якую, на жаль, мы парастрэслі недзе на дарозе з вясковых хат у гарадскія кватэры. А які фінал верша! Які беларускі, знаёмы і дарагі яшчэ з маленства малюнак! І колькі ў ім ціхай і непазбыўнай, наскай, горасці:

А добра мне. І маці не старая.
І брат жывы. І ходзяць к нам суседзі.
Вайна нікога ў нас не забірае,
І дома ўсе дарослыя і дзеці.

Яшчэ няўцешна ўдовы не галосяць,
Яшчэ касцоў гарматы не гукалі.
І тыя, што забіты, сена косяць,
Ядуць на лузе сала з агуркамі...

Ці вось гэтыя пранізліва-шчымлівыя радкі, у нечым нават прарочыя ў дачыненні не толькі да аўтара, але і да Міхася Стральцова, якому яны прысвечаны і які, дарэчы, вельмі высока цаніў паэтычны дар свайго старэйшага земляка:

Зямля — у воблаках і мяце,—
Ляці увысь,
Глыбока сей!
Сасна паклікала, як маці,
Працяжна, глуха: «Аляксей...»

«Зямля — у воблаках і мяце...» Зямля, якая нечакана падаражэла на іх абодвух. Амаль адразу...

Я, здаецца, занадта захапіўся цытатамі, ды што зробіш, калі цытаваць Пысіна – занятак прыемны! Больш таго – карысны. Працытаваныя радкі, страфы прыносяць не толькі эстэтычную асалоду сваёй натуральнасцю і дасканаласцю, яны яшчэ прымушаюць думаць і перажываць. Адбываецца той складаны ачышчальны працэс, які старажытныя называлі катарсісам. А гэта, як вядома, прывілея высокай паэзіі.

Нельга не сказаць колькі слоў пра зайздроснае майстэрства Пысіна пісаць партрэты, бо яны займаюць значнае месца ў яго творчасці. Здаецца, у адным з твораў так і сказана: «словам малюю настрой». А ў вершы «Валуеў» можна нават назіраць сам працэс гэтага малявання:

> Ўспомніў прозвішча Валуеў,
> Гвардзеец быў зусім хлапчук.
> Малюю каску. І пад ёй малюю
> Вучнёўскі твар, вяснушак пух.

Гэтую асаблівасць пысінскага таленту ўпершыню заўважыў яшчэ Рыгор Бярозкін: «У Пысіна апошніх год яўна вырасла цікавасць да аб'ектыўнай, «прадметнай» тэмы, у прыватнасці да верша-партрэта і псіхалагічнай характарыстыкі». Вельмі трапнае і дакладнае вызначэнне: вершы-партрэты. Псіхалагічна дакладныя, з цікавымі канкрэтнымі дэталямі і ў той жа час прасякнутыя ціхім, мяккім лірызмам. Не адзінкавыя, не выпадковыя, а цэлая галерэя. Вось некаторыя з іх: дзед Ярошка, Варачка, дзядзька Міхалап, Пятрусь Бядулін, сястра Проня, Анатоль Сербантовіч, чарнігаўцы... Калі ўважліва ўчытацца-ўгледзецца, у іх ёсць нешта агульнае з партрэтамі сялян Пётры Сергіевіча. Той жа беларускі каларыт, тая ж любоў да аб'екта сваёй творчасці.

У кнізе «Пячатка майстра» Міхась Стральцоў, кажучы пра вершы Пысіна, некалькі разоў ужывае слова «шэдэўр», «сапраўдны шэдэўр».

Я разумею высакароднае захапленне майстра работай свайго таварыша па цэху і цалкам яго падзяляю. Тым больш што ў нас няма падстаў не давяраць строгаму і беззаганнаму густу Міхася Лявонавіча, як і няма падстаў баяцца гэтага слова: яго пер-

шапачатковае значэнне мае на ўвазе ўзорны выраб, які сярэдневяковы рамеснік прапаноўваў высокай камісіі для набыцця звання Майстра.

P. S. Нядаўна, перабіраючы старыя паперы, я знайшоў у студэнцкім альбоме ягоную паштоўку:

«Дарагі Алесь!

Рад павіншаваць цябе з надыходзячым 1976-м! Няхай гэты высакосны год будзе па-сялянску для цябе ВЫСОКАЎКОСНЫМ, каб і трава над Бесяддзю ў пояс, каб і кветак густа, і стопаў багата.

І ўсяго самага добрага

А. Пысін».

У тую суровую і цяжкую для мяне зіму (першую зіму ў горадзе) 76-га я ўспрыняў гэтыя сардэчныя радкі як бацькоўскае бласлаўленне.

Бласлаўленне, ад якога мне светла і сёння.

## ЁН І ЯНА

Вярнуўся з Акопаў, і рука сама пацягнулася да томіка Купалы. Захацелася перачытаць створанае ім там, у Акопах – святым месцы нашай зямлі, дзе маладому Янку Купалу дыктаваў сам Бог.

За тры леты ў Акопах ім напісана больш як семдзесят твораў. Адтуль родам мае любімыя паэмы «Яна і я», «Магіла льва», «Бандароўна».

Усе гэтыя тры рэчы народжаны летам 1913 года. Высакародны геній Купалы выявіўся ўжо ў тым, што ў назве паэмы «Яна і я» паэт на першае месца ставіць Яе. Для Купалы, як і для Пушкіна, існаваў культ Яе, рыцарскі культ пакланення жанчыне. У Пушкіна Яна – Мадонна, у Купалы – «Мая Багіня». Тут Купала – дваранін у самым высокім значэнні гэтага слова.

У тое зорнае для яго творчасці лета Купала жыў Ёю. Ён называў Яе «Мая». Яна паўстае то ў вобразе Наталкі, то ў вобразе Бандароўны.

Я перачытваю гэтыя паэмы пад шэпт цёплага летняга ліўня і стараюся ўявіць лета 1913 года ў Акопах. У рамане-эсэ «Як агонь, як вада...» Алег Лойка піша, што тое лета таксама было дажджлівае. І,

магчыма, ён пісаў свае радкі таксама пад шэпт ліўня і перад яго вачыма стаяла Яна.

...Ужо каторы дзень не сціхае дождж, а маё сэрца перапоўнена сонечнай музыкай Купалы і ўдзячнасцю Ёй — Паліне Вікенцьеўне Мядзёлцы, хоць яна і не ашчаслівіла паэта сваім каханнем. Але ж ён сам сказаў:

На беларускую дзяўчыну,
Калі тут праўду ёй аддаць,
Ніхто йшчэ каменем не кінуў
І не паважыцца кідаць.

Не паважуся і я...

Ды і хто ведае, ці былі б у нашай літаратуры гэтыя тры шэдэўры, калі б Паўлінка адказала ўзаемнасцю. Можа, гэта акурат той выпадак, пра які ў народзе кажуць, што Бог усё дае да лепшага...

А ў Акопах Купалу дыктаваў сам Бог.

## ЯГО БЕСЯДЗЬ ЗАЎСЁДЫ ЧЫСТАЯ

Бесядзь... Вось я зноў напісаў дарагое мне слова і задумаўся. Задумаўся не толькі таму, што яно абудзіла ў маёй памяці мноства асацыяцый і родных сэрцу вобразаў. Не толькі таму, што «птушкі помняць гнёзды свае», хоць гэта і святая праўда.

Я раптам адчуў, што ў маёй свядомасці даўно ўжо жыве дзве Бесядзі: адна з іх — рака майго маленства, а другая — вось ужо колькі гадоў жыве ў нашай літаратуры. Прачытайце творы А. Куляшова, І. Чыгрынава, М. Сяднёва, А. Русецкага, В. Хомчанкі, П. Прыходзькі, Л. Левановіча, М. Губернатарава і вы пераканаецеся ў гэтым. Але будзем паслядоўнымі...

Бесядзь, як сведчыць энцыклапедыя,— «рака, левы прыток Сожа (бас. Дняпра). Даўжыня 261 км. Пачынаецца ў Смаленскай вобласці, цячэ ў Магілёўскай, Бранскай і Гомельскай абласцях. Шырыня рэчышча ад 10—20 м у верхнім цячэнні, да 30—40 м у ніжнім, на асобных участках да 100 м».

Не, так, відаць, у нас наўрад ці што атрымаецца — адсунем убок салідны том энцыклапедыі. Бо яе сухая навуковая даведка гаворыць усё і ў той жа

час — нічога. Прынамсі, у ёй няма ні слова пра самае істотнае: Бесядзь — адна з самых найчысцейшых рэк на Беларусі. Далёкая ад прамысловых цэнтраў і густанаселеных гарадоў, яна захавала надзіва чыстую і празрыстую, аж да крынічнасці, ваду. Нават у летні спякотны дзень яна не губляе прыемную, трохі калючую прахалоду. А цяпер ва ўсё гэта ўдыхніце жыццё, дайце ўволю святла і сонца, уявіце крутыя стромістыя берагі з карабельнымі соснамі і старымі як свет дубамі, з аднаго боку, і шырокімі заліўнымі лугамі са шматлікімі старыцамі — з другога. Дадайце да гэтага гарэзлівых ластавак, што жывуць па-над самай вадой у пячорах абрывістых берагоў, не забудзьце руплівых пчол і басавітых чмялёў, якія непадалёк ладзяць свае гнёзды... Я не памятаю, каб прыбяседскія мужчыны, ідучы касіць, бралі з сабою збанкі з вадой — касцы пілі проста з рэчкі. Але затое я добра помню старога Гарашчонка, які, калі верыць мясцовым рыбакам (на Бесядзі ці не ўсе рыбакі), адпускаў злоўленых акунёў назад у ваду і пры гэтым скептычна моршчыўся: «Чысціць кепска...»

Прыблізна такой, толькі, відаць, больш паўнаводнай, а значыць, і больш прыгожай упершыню ўбачыў Бесядзь Аркадзь Куляшоў, якому рака абавязана сваім другім жыццём і сваёй шырокай вядомасцю: у 1940 годзе 26-гадовы паэт піша першы варыянт знакамітага верша «Мая Бесядзь». Памятаеце...

Я ўпарты, не кіну пачатае справы,
Каменне крышу,
Разграбаю пяскі,
Пад кпіны аматараў лёгкае славы
Капаю рэчышча ўласнай ракі.
З надзеяй гляджу на крыніцу спатканую,
Хачу, каб яна разлілася ракой...
Не Волгай магутнай,
Не нават Камаю,
Хоць Бесяддзю, што на радзіме маёй.

У гэтых радках увесь Куляшоў! З яго няўрымслівым характарам, з яго вялікімі патэнцыяльнымі магчымасцямі. «Мая Бесядзь» — не проста эстэтычная праграма патрабавальнага да сябе паэта, сэрца

якога «абпалена смагай радка», не проста жыццёвае крэда, але і вернасць сваім караням, сваёй зямлі. І разам з тым у будучага Майстра ўсё яшчэ наперадзе, ён з надзеяй глядзіць «на крыніцу спатканую». Заўважце, рака Бесядзь таксама пачынаецца з крыніцы...

Магчыма, нехта ўсміхнецца: «Пашчасціла ж Бесядзі... На яе беразе нарадзіўся Куляшоў». Так, сапраўды пашчасціла! Але будзем справядлівымі — пашчасціла абаім. І паэту, і рацэ. Уздзеянне прыроды на чалавека, на яго лёс, на фарміраванне яго як асобы наогул цяжка пераацаніць — гэта аксіёма. А калі чалавек яшчэ і паэт...

Пра тое, што Бесядзь, Прыбяседдзе значылі для Аркадзя Аляксандравіча, вельмі цёпла расказвала маці пісьменніка Кацярына Фамінічна Ратабыльская, незабыўную сустрэчу з якой падарыў мне лёс улетку 1981 года. Кацярыну Фамінічну я застаў жывой-здаровай у Хоцімску — маляўнічым гарадку па-над Бесяддзю — за спрадвечным сялянскім заняткам: 89-гадовая жанчына, былая настаўніца, жала ячмень у сваім клапатліва дагледжаным садзе. Помніцца, першае, што мільганула ў памяці: «Я маці абавязан кожнай рыскаю». Настолькі відавочным аказалася падабенства маці і сына. У нас на Магілёўшчыне ў такіх выпадках кажуць: як выкапаны. Уразіла і яшчэ адна акалічнасць — маці паэта жала залітую сонцам палоску. Я не здзівіўся б, каб не ведаў, што тэма жніва — адна са скразных тэм у лірыцы позняга Куляшова. Гэта і «Адзіны серп на сённяшнім жніве», і «Сноп апошні залатога жыта», і, вядома, вось гэтае, класічнае:

І ёсць адказнасць перад строгім вершам,
Перад яго пачаткам і канцом,
Каб баразну, радком пачаўшы першым,
У сноп звязаць шаснаццатым радком.

— Сын вельмі любіў гэтыя мясціны, любіў тутэйшых людзей, іхнюю гаворку,— расказвала Кацярына Фамінічна,— заўсёды сюды імкнуўся. Тут яму добра думалася і лёгка пісалася. Юлька і Змітрок

часта ў нас гасцілі. Юлька, дык той нават верш пра нашага Дуная склаў:

Мой махнаты Дунай б'е хвастом ля парога,
На прыганку завіўся пукаты гарох...
За парканам удаль пралягае дарога,
А за даллю ёсць многа прыгожых дарог.

Юлька і Змітрок... Так па-свойску, па-мацярынску ласкава называла яна мсціслаўскіх паэтаў Юлія Таўбіна і Змітрака Астапенку, якія неаднойчы бывалі ў доме Куляшовых.

Усё помніць сэрца маці... І пра сына, і пра яго таварышаў яна гаварыла цёпла і спагадліва. Як пра жывых. Я слухаў яе зусім нестарэючы голас, і ў мяне міжволі нараджалася адчуванне іхняй прысутнасці: быццам яны толькі што былі тут.

Помніцца, у той вечар я з хваляваннем і новым разуменнем перачытваў куляшоўскі «Маналог», прысвечаны памяці любімых сяброў, рэпрэсіраваных у чорныя трыццатыя... Я зразумеў, які неймаверны боль, якую незагойную рану насіў паэт у сваім сэрцы ўсё жыццё. Сёння, калі пра сталінскія рэпрэсіі мы даведаліся горкую і страшную праўду, «Маналог» успрымаецца яшчэ больш балюча, гучыць яшчэ больш трагічна:

Адзін памёр ад тыфусу брушнога
За кратамі, сярод мuроў сырых.
Без стужак, без вянкоў, без некралога,
З кляймом абвінавачання цяжкога,
Згубіўся ён сярод магіл глухіх.

Гэта – пра Юлія Таўбіна.

Другі на фронт з таежнага барака
Шчасліва ўцёк.
За валам агнявым
Яго салдацкі штык вяла атака,
Там ён на смерць пад прозвішчам сваім
Хадзіў і пахаваны разам з ім.

Гэта – пра Змітрака Астапенку.

Хай згублены сляды іх захавання,
Не страчаны іх сувязі з зямлёй.

Яна для іх — не вечны супакой,
А месца пасмяротнага спаткання,
Прызначанага ў памяці маёй.
Пакуль жыву, яны жывуць са мной.

А гэта — пра іх і пра сябе.

Думаецца, няцяжка здагадацца, што кожны прыезд на малую радзіму быў для паэта шчымлівым спатканнем з маладосцю, а значыць — і з імі.

...Па-ранейшаму, як і пры Куляшове, імкліва бяжыць празрыстая Бесядзь. Бяжыць праз лясы, праз лугі. Усё гэтак жа blішчаць-пераліваюцца на яе пясчаным дне адшліфаваныя вякамі каменьчыкі. Але касцы ўжо ніколі не будуць піць яе ваду, як пілі ў гады жыцця Куляшова. Чарнобыльская бяда закранула сваім страшным крылом і Бесядзь. А родныя сэрцу паэта Самацеевічы ўвайшлі ў радыяцыйную зону.

Не, невыпадкова хваляваўся і непакоіўся паэт, раздумваючы над шляхамі цывілізацыі, над заўтрашнім днём чалавецтва:

Зноў прыпадае з жалем Бесядзь родная
Да каранёў дуброў, да ног сяліб —
Хвалюецца, што нечысць вадародная
Даверлівых яе атруціць рыб.

І калі, вы думаеце, гэта напісана? У 1963 годзе! Тут ёсць над чым падумаць і ёсць чаму здзівіцца, і ўсё ж здзіўляцца, відаць, не варта — вялікі паэт заўсёды прарок!

## ЗГАДКА Ў ДОЎСКУ

Старая варшаўка. Станцыя Доўск. Аўтобус стаіць дваццаць хвілін. За гэты час можна з асалодай выкурыць цыгарэту і няспешна заесці крамяным яблыкам, якія тут заўсёды гасцінна і даволі танна прапаноўваюць увішныя кабеты.

Вось і гэтым разам, як заўсёды ў Доўску, у памяці міжволі ўсплываюць кранальна-шчырыя радкі з куляшоўскай паэмы «Варшаўскі шлях»:

...зрабі прывал пад Доўскам,
Агонь начлежны раскладзі.
Пры ім
Пагутарым аб часе, аб Твардоўскім,
Што земляком тваім быў і маім.

Не так даўно я гартаў найцікавейшую кнігу Твардоўскага «Пісьмы пра літаратуру» і натрапіў на ліст Аляксандра Трыфанавіча да Аркадзя Аляксандравіча, пазначаны 1967 годам.

«Дарагі Аркадзе! — пісаў Твардоўскі.— Ты павінен засесці за аўтабіяграфічную аповесць — ты мне сёе-тое расказваў пра сваё дзяцінства, помніцца, ёсць цудоўныя эпізоды, напрыклад, як жыў хлапчуком адзін у хаце... Упэўнены — атрымаецца».

Атрымалася. Праз нейкі час з-пад пяра Куляшова выйшла выдатная вершаваная аповесць «Далёка да акіяна». Твардоўскі добра ведаў творчыя магчымасці свайго даўняга сябра. Успомнілася, як улетку 1981 года ў ціхім зялёным Хоцімску пра маленства і юнацтва Аркадзя Аляксандравіча мне расказвала маці паэта Кацярына Фамінічна. Яна вельмі цёпла згадвала Алесю Карыткіну — першае юнацкае захапленне сына. Цікава, ці згадваў пра яе наш паэт у сваіх шчырых сяброўскіх размовах з Твардоўскім? Думаецца, згадваў. І, думаецца, неаднойчы. У мужчын часам бываюць хвіліны гранічнай шчырасці. Ва ўсялякім выпадку, верш «Бывай...», напісаны ў 14-гадовым узросце і прысвечаны Алесі, у тыя гады карыстаўся вялікай папулярнасцю. А гэта ж быў апагей славы «Песняроў». І, зразумела, Твардоўскі не мог не чуць «Алесю». Значнае месца аддадзена Алесі Карыткінай і ў аўтабіяграфічнай аповесці «Далёка да акіяна». «Птушкаю, князёўнаю» любоўна называе яе паэт. Помніцца, у сваім нарысе «Бесядзь — яго песні выток» я, з уласцівым маладосці максімалізмам, магчыма, перабольшыў значэнне Алесі Карыткінай у жыцці і творчасці нашага класіка. І, відаць, тым самым пакрыўдзіў жонку паэта Аксану Фёдараўну. (Дарэчы, у Аляксея Зарыцкага ёсць выдатныя радкі: «Я помню раніцу тваю, Аксана Вечар».) Але, бачыць Бог, зрабіў я гэта ненаўмысна, а хутчэй за ўсё падсвядома: вельмі ж хацелася мне,

закаханаму ў куляшоўскую паэзію, светлай і чыстай легенды.

Іх, легендаў, так не стае нашай літаратуры.

## РОСНЫ МАЛІННІК

Чытаю апошнюю кнігу паэзіі Анатоля Вялюгіна «Заклён на скрутны вір», якую на нядаўняй вечарыне ў Доме літаратара Янка Брыль назваў малітоўнікам. Вельмі трапнае і ёмістае, як заўсёды бывае ў Брыля, вызначэнне. Многія вершы гэтай вельмі сціпла выдадзенай кніжачкі сапраўды гучаць як малітва: чыста, узнёсла і спавядальна. Вялюгінская лірыка апошніх гадоў, як і ўся ягоная творчасць, пазначана высокім майстэрствам. Яно настолькі дасканалае, што яго нават не адчуваеш, хоць разумееш, што за гэтай віртуознай лёгкасцю стаіць вялікая работа, але майстар на тое і майстар, каб умець схаваць сляды поту. Філігранныя, без аніводнай фальшывай ноты радкі сведчаць пра абсалютны паэтычны слых і бездакорны густ:

Шугавей на ноч захутаў
у сумёты бабчын хутар.
Вые нехта,
енк і плач.
Хто там,
мерат ці пугач?
Беразак у грубцы палім,
а на белых шыбах пальмы.
Яглый вый
усё бліжэй.
— Хто там?
— Снежны салавей.
Цёплы сон захмарыць позна
за сталом з куццёю поснай.
Кашаль бабкі.
Скрып дзвярэй.
— Хто там?
— Зімні салавей.
Свеціць хіжа зоркі ў пушчы,
на дварэ сабака спушчан.
У зімы вялікі рот —
воўк начуе
ля варот.

*«Пілілаўка»*

Не, нездарма калегі і шматлікія вучні называлі яго Адміралам. Называлі паважліва, аддаючы належнае высакароднаму майстэрству.

«Заклён на скрутны вір» пісаўся пасля доўгага, зацяжнога маўчання, і, можа, таму ад яго мускулістай строфікі вее нерастрачанай сілай і першароднай свежасцю.

Так пасля сонечнага дажджу пахне паветра.

Чытаючы роснае слова Анатоля Вялюгіна, хочацца верыць Мандэльштаму, які сцвярджаў, што вершы могуць вылечыць ад сухотаў.

Смакую адметную, уласцівую толькі яму, лексіку — чыстазвон, санцавей, шугавей, вогнік, хмарачос, харашунчыкі — і, здаецца, зноў бачу чысты і светлы воблік Майстра, яго гарэзліва прыжмуранае вока: «Ану, пшанічны вус, чытані». Анатоль Сцяпанавіч падае мне тлумачальную запіску следчаму, напісаную Людмілай Мікалаеўнай пасля пажару на дачы. Чытаю тлумачальную і адразу пазнаю руку Вялюгіна-рэдактара: «...муж вынес мяне з ахопленага полымем дому і кінуў у росны маліннік».

Усё правільна: яго маліннік мог быць толькі росным.

Так ён бачыў.

## ЦІ ЗБЫВАЮЦЦА ВЕРШЫ?

Што вершы збываюцца, мне вядома даўно... Яшчэ ў студэнцкія гады я напісаў верш «Калі ў вёсцы маёй паміраюць дзяды». Пасля публікацыі верша ў «ЛіМе» я неяк сустрэў свайго даўняга знаёмага, чалавека сталага і вопытнага, літаратурным густам якога заўсёды даражыў.

— Не пісаў бы ты, стары, такіх вершаў,— не то параіў, не то папрасіў мяне мой знаёмец,— не трэба...

— А што, слабы верш? — насцярожыўся я.

— Ды не ў гэтым справа,— адмахнуўся ён ад маёй насцярогі,— ты не крыўдуй, але такія вершы збываюцца.

Той размове я не надаў ніякага значэння і, відаць, зусім бы пра яе забыў, каб не адзін трагічны выпадак, які і сёння не дае мне спакою.

Мой каніцкі дзед па раннім зазімку пайшоў у суседнюю вёску ў госці да франтавога сябра і назад не вярнуўся. Яго шукалі ўсю зіму. Шукала радня, сваякі, суседзі, аднавяскоўцы, міліцыя, але пошукі былі марныя, як скрозь зямлю чалавек праваліўся: ні слыху ні дыху. А быў ён яшчэ моцны і жылісты стары і ў касавіцу намнога маладзейшым мог лёгка падрэзаць пяты. Усю тую зіму мы пражылі ў страшэнным напружанні. На кожны рып весніцаў, на кожны стук у акно баба Наста і мая маці падхопліваліся з надзеяй: «Вярнуўся...» Але дзед не вяртаўся. Знайшлі яго толькі ўвесну, у самае разводдзе, калі Бесядзь выйшла са сваіх берагоў. Усю зіму ён праляжаў пад лёдам і быў як жывы.

Зразумела, што мяне можна лёгка аспрэчыць і ўсю гэтую гісторыю звесці да прыватнага выпадку, а заадно і папракнуць у нясціпласці: маўляў, бач ты яго, якую сілу свайму твору прыпісаў... Але давайце ўважліва прыслухаемся да таго, што раіў Барыс Пастарнак маладому Яўгенію Еўтушэнку: «Я хачу даць вам адну параду. Ніколі не прадказвайце сваю трагічную смерць у вершах, бо сіла слова такая, што яна абавязкова прывядзе вас да прадказанай смерці. Успомніце хоць бы, якія неасцярожныя былі са сваімі самапрадказаннямі Ясенін і Маякоўскі. І ўрэшце скончылі пятлёй і куляй. Я дажыў да сваіх гадоў толькі таму, што пазбягаў самапрадказанняў...»

І яшчэ адзін выпадак, дакладней, ілюстрацыя да сказанага... На гэты раз з гісторыі нашай айчыннай літаратуры. У майго земляка, таленавітага і рана адышоўшага Анатоля Сербантовіча, ёсць верш, які не ўключаўся ні ў адну прыжыццёвую кнігу, цяпер, дзякуючы руплівасці крытыка Сяргея Кавалёва, ён змешчаны ў выбраным паэта «Жаваранак у зеніце». Кожны раз, калі мне даводзіцца яго чытаць, я адчуваю, як па маёй скуры прабягае мароз. Мяркуйце самі:

Выплываюць тры новых труны,
Дзве вялікіх, адна малая.
Адплываюць у рэдкія сны,
З нашай памяці адплываюць.

Ці зусім я ўжо акалеў,
Адкажыце: у вас пытаю.
На адной труне «Аляксей»,
На другой я «Сцяпан» чытаю.
Проста кружыцца галава,
Разбягаюцца літары тыя...
Хто жывымі нас пахаваў?
Мы, здаецца, яшчэ жывыя...
Адплываюць тры новых труны,
Дзве вялікіх, адна малая...
Гэта сны, гэта толькі сны
З нашай памяці адплываюць.

На вялікі жаль, сны паэта спраўдзіліся. Не трэба быць літаратуразнаўцам, каб лёгка расшыфраваць гэтыя, страшныя ў сваім прароцтве, радкі. Першым на трыццатым годзе пакінуў гэты свет аўтар, а затым, як і прадказана ў вершы, Аляксей Пысін і Сцяпан Гаўрусёў. Таксама заўчасна і таксама трагічна. Дзве вялікія труны — гэта іхнія, а малая — Анатолева, ён быў малы ростам...

Тры выдатныя паэты-магілёўцы былі звязаны не толькі зямляцтвам, але і цесным сяброўствам. Яны былі вельмі блізкія па духу, і іхні талент вызначаўся выключнай шчырасцю.

Самае дзіўнае, што ўпершыню гэты верш я пачуў з вуснаў Сцяпана Захаравіча дажджлівым вераснёўскім вечарам 1981 года ў рэйсавым аўтобусе Мінск — Магілёў, калі мы, прыгнечаныя агульным горам, вярталіся з пахавання Аляксея Васільевіча Пысіна.

## НАШ ЧАЛАВЕК

У тую цёплую восень наша група студэнтаў-філолагаў на чале з далікатна-інтэлігентным Рыгорам Семашкевічам выбірала бульбу ў невялікай вёсцы Свіркі на Віцебшчыне.

Стаялі ясныя, пагодныя дні. І мы ўвесь свой вольны час хадзілі па маляўнічых ваколіцах, уволю ласаваліся яблыкамі, а вечарамі ладзілі танцы, на якія вельмі ж упадабалі хадзіць мясцовыя кавалеры. Дый чаго б ім было не хадзіць, калі сітуацыя склалася, як у той жартоўнай песні: «Восем дзевак, адзін я...»

Дакладней, я ды мой сябра Франц Аношка. Неяк на танцах пазнаёміўся з немаладым ужо, як мне тады здавалася, чалавекам, тутэйшым брыгадзірам. Разгаварыліся. Я пацікавіўся, ці ведае ён паходжанне назвы сваёй вёскі Свіркі і ці не чуў часам пра паэта Юрася Свірку? Брыгадзір сказаў, што пра паэта такога ён чуў і што ён — іхні. Я, вядома, запярэчыў, маўляў, паэт Юрась Свірка сапраўды з Докшыцкага раёна, але не са Свіркоў, а з-пад Бягомля, з Маргавіцы, як і другі іхні зямляк Алесь Ставер.

— Не,— упарціўся брыгадзір,— усе Свіркі са Свіркоў. У нас нават пан такі быў — Свірка. Адсюль, кажуць людзі, і назва вёскі.

Так я выпадкова даведаўся, што Юрась Мікалаевіч панскага роду.

Абставіны майго жыцця склаліся такім чынам, што ў хуткім часе я ажаніўся з дзяўчынай з суседняй з тымі Свіркамі станцыі Параф'янава. Пры жыцці цешчы я любіў бываць у тых мясцінах і колькі разоў сустракаў на станцыі свайго даўняга знаёмца. І заўсёды ў нас адбываўся прыблізна такі дыялог:

— Як там Свірка?

— Нармальна.

— Піша?

— Піша.

— Добра?

— Добра.

— Ну тады хай піша! — лагодна дазваляў брыгадзір.

Неяк пасля аднаго з такіх дыялогаў ён хітравата бліснуў вачыма:

— А пачытаць што-небудзь на памяць можаш?

— Магу.

І я прачытаў некалькі радкоў з даўно любімага мной верша:

Я ў вёску зазіраю, як у слоўнік, каб упэўніцца, што правільна пішу.

— Вось бачыш,— усміхнуўся брыгадзір,— а ты мне даводзіў, што Свірка не наш.

## ШТО ГАЛОЎНАЕ ДЛЯ ПІСЬМЕННІКА?

Мне пашчасціла некалькі разоў падарожнічаць па Магілёўшчыне з Іванам Чыгрынавым. Ягоныя запросіны разам наведаць нашую радзіму я прымаў з ахвотай і ўдзячнасцю. Гэтыя падарожжы заўсёды былі цікавыя. У сваёй маладосці Іван Гаўрылавіч пехатою абышоў увесь наш край і багата чаго ведаў з яго гісторыі. Яго аповеды часам нагадвалі жывыя імправізацыі на пэўную тэму з выхадам на канкрэтныя гістарычныя асобы. Я ведаў, што ў Горках мяне чакае невядомы аўтар «Тараса на Парнасе», у Слаўгарадзе — Пётр I і Карл XII, у Крычаве — Васіль Вашчыла і Геранім Радзівіл, у Клімавічах — высакародны разбойнік Алесь Савіцкі... Расказваў пра іх Чыгрынаў любоўна, з цікавымі падрабязнасцямі і яркімі дэталямі, як звычайна расказваюць пра даўніх і добрых знаёмых.

Прызнацца, гэтая ягоная манера мяне не дужа здзіўляла: я ведаў, што празаік збіраецца грунтоўна ўзяцца за гістарычную тэматыку, і нават аднойчы мы з ім добра пападарожнічалі па старой мапе шаснаццатага стагоддзя, якую Іван Гаўрылавіч урачыста разгарнуў перада мною ў сябе дома. У той вечар ён, як дзіця, радаваўся свайму набытку і толькі адзін раз трохі спахмурнеў, калі я вельмі ўжо ўсцешыўся, знайшоўшы свае Бялынкавічы, а яго Вялікага Бору на той карце не было.

Ва ўсякім разе, тыя чыгрынаўскія імправізацыі былі невыпадковыя — неўзабаве Васіль Вашчыла і Алесь Савіцкі ажылі пад ягоным пяром і сталі галоўнымі героямі цікавых п'ес.

Трэба сказаць, што яшчэ ў першай сумеснай паездцы Іван Гаўрылавіч паставіў перада мною адну ўмову. Той, хто ездзіў з Чыгрынавым, яе ведае — не балбатаць. «Калі хочаш стаць пісьменнікам,— казаў ён,— а не проста членам Саюза,— глядзі, слухай і запамінай». Пісьменнікам я хацеў быць і гэтую чыгрынаўскую ўмову прымаў без агаворак. Аднойчы ў час аднаго з такіх падарожжаў ён нечакана спытаў мяне:

— А як ты думаеш, што галоўнае для пісьменніка?

Філфакаўская навука яшчэ не выветрылася з маёй галавы, і я адказаў, спасылаючыся на Гарацыя: талент, адукацыя і праца.

— Гэта добра, што ты ведаеш Гарацыя,— пахваліў Іван Гаўрылавіч,— але ж Гарацый меў на ўвазе чалавека, які хоча стаць пісьменнікам, ці не так?

— Так.

— Ну, а калі чалавек стаў пісьменнікам?

— Калі стану, тады і скажу,— смеючыся, адказаў я.

— Эх, Саша, Саша,— уздыхнуў Чыгрынаў,— хоць і Гарацыя ты чытаў, а ўсё роўна нічога не ведаеш... Дык вось, брат, запомні: галоўнае для пісьменніка — добрая жонка, раніцай — кабінет, а вечарам — буфет.

Я запомніў.

І чым далей жыву на свеце, тым усё больш і больш пераконваюся ў слушнасці ягоных слоў.

## НАСТАЛЬГІЯ ПА ЧЫСТЫМ

З двара прыйду і сяду ля агню.
Палаюць дровы. Ссечана капуста
На градах — блаславенне дню.
Змрок у палях — там сіберна і пуста.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

О роднае маё! Як доўга да цябе
Ішоў я, кволы падарожнік.
О весялосць у восеньскай журбе!
Агонь.
Саган.
Вуголле і трыножнік.

Кожны раз, калі да мяне прыходзяць гэтыя элегічныя радкі Міхася Стральцова, перад вачыма паўстае яго светлы вобраз. Успамінаецца зімовая паездка ў ягоны Сычын. Блізіўся 50-гадовы юбілей пісьменніка, і Алесь Шлег з тэлевізійнай групай здымаў фільм пра яго жыццё і творчасць. У той незабыўнай паездцы хвалявала многае: і сама прысутнасць Стральцова, яго блізкасць і прыязнасць, і, вядома, само запрашэнне наведаць радзіму разам з

Рыгорам Барадуліным і Алай Сямёнавай было для мяне нечакана прыемным. Памятаю, як з марознай стыні мы зайшлі ў яго бацькоўскую хату і з цікавасцю разглядалі рамачкі з фотакарткамі. Іх было многа — цэлы іканастас, цэлая галерэя фрагментаў і момантаў з жыцця роду Стральцовых. Здаецца, гэта была акурат тая хата, што так любоўна апісана ім у шчымліва-пранізлівай аповесці «Адзін лапаць, адзін чунь». Але не гэта мяне тады ўразіла – у нас на ўсходняй Магілёўшчыне такія іканастасы звычайная з'ява. На ўбітым у сцяну цвічку вісеў «лімаўскі» артыкул Алеся Станюты «Настальгія па прозе Міхася Стральцова». Міхась Лявонавіч неяк вінавата пасвяціў сваёй асаблівай стральцоўскай усмешкай і расчулена вымавіў: «Стары чакаў...»

І яшчэ быў на тым цвічку тоненькі школьны сшытачак, а ў ім запісы, зробленыя рукой нябожчыка бацькі: «Сёння на Сажы падняўся лёд» і г. д. Здавалася б, звычайны каляндар прыроды, але веяла ад таго сшытачка нечым старажытна-летапісным, спадчынным...

Увечары мы доўга сядзелі ў гасціннай хаце суседа-настаўніка, былога вучня яго бацькі. Было светла ад шчырасці і цёпла ад бярозавага агню, што весела палаў у адкрытай грубцы. Якраз як у тым вершы: «З двара прыйду і сяду ля агню». Ён і сапраўды сядзеў ля агню. Шчаслівы і расчулены.

А потым праз чуйную вясковую цішыню мы моўчкі ішлі да нашага «рафіка». На лютаўскім марозе ярка гарэлі зоркі, а побач са мной трывожна ўспыхваў агеньчык стральцоўскай цыгарэты.

Гэта была яго апошняя сустрэча з родным.

Пазней я прачытаю ў Рыгора Барадуліна:

«У кулаку Міхася Стральцова акурак зоркі».

## СНАПОК

У кнігарні да мяне падышоў высокі русявы хлопец і папрасіў падпісаць кніжку. Калі я спытаўся, каму падпісваць, ён уважліва паглядзеў мне ў вочы і пацікавіўся, ці пазнаю яго.

Я дарэмна напружваў памяць.

— Тады падпішыце Снапку,— загадкава ўсміхнуўся хлопец.

— Снапку?

— Так, Снапку! Пасля вашага ўрока мяне ў класе толькі так і называлі...

Снапок... Снапок... Успомніў, я ўсё ўспомніў! Гэта было падчас маёй педагагічнай практыкі ў адной з мінскіх школ. Я даваў урок літаратуры ў пятым класе. На тым уроку я выклікаў да дошкі аднаго сарамяжлівага вучня, яго, здаецца, звалі Стасік, і папрасіў прачытаць і растлумачыць верш Якуба Коласа. Хлопчык вельмі хваляваўся і замест слова «слупок» вымавіў «снапок». Клас дружна зарагатаў, а хлопчык заплакаў. Каб хоць неяк яго супакоіць і падбадзёрыць, я сказаў, што Стасік зрабіў геніяльную памылку, бо «снапок» гучыць лепш, чым «слупок».

Вучні перасталі смяяцца і з недаверам пазіралі на мяне. Уявіце, працягваў я, што вершаваны радок — гэта каласок, які выспеў у душы паэта, а за гэтым радком-каласком выспеў яшчэ адзін, а за ім яшчэ і яшчэ... І паэт, як руплівая жняя, сабраў іх усе разам у страфу, альбо ў слупок, а яшчэ лепей сказаў Стасік — у снапок. Некалькі такіх слупкоў-снапкоў і складаюць верш. І, каб пераканаць іх канчаткова, я прачытаў класічныя радкі Аркадзя Куляшова:

І ёсць адказнасць перад строгім вершам,
Перад яго пачаткам і канцом —
Каб баразну, радком пачаўшы першым,
У сноп звязаць шаснаццатым радком.

— Успомнілі? — парушыў маўчанне хлопец.

— Вядома ж, успомніў! А вы на мяне часам не крыўдуеце? — Я вінавата паглядзеў на колішняга сарамяжлівага Стасіка, які вырас у прыгожага і інтэлігентнага маладога чалавека.

— О, што вы,— прыязна заўсміхаўся мой былы вучань,— можа, якраз пасля той геніяльнай памылкі я і палюбіў паэзію...

Мы моцна паціснулі адзін аднаму рукі. А кніжку я падпісаў так, як ён і прасіў: Снапку, які любіць паэзію.

## Я НЕ СПРАЧАЎСЯ...

Яна прыгожая і добра гэта ведае. Ёй падабаецца падабацца. А мне ў сваю чаргу падабаецца назіраць, як у яе гэта тонка і грацыёзна атрымліваецца. Часам я жартую, што прыгажосць, як і талент, належыць народу. Яна не крыўдуе. Бо я аддаю ўсяго толькі належнае. І яна гэта прымае, як і належыць сапраўднай жанчыне,– з задавальненнем, без таннага какецтва.

Можа, акурат вось гэтую натуральнасць я й цаню ў ёй больш за ўсё, як, дарэчы, і яе амаль бездакорны густ. Нават не густ, а хутчэй інтуіцыю, у тым ліку і літаратурную. І таму часам чытаю ёй, адной з нямногіх, сваё, новае...

Неяк я спытаўся ў яе, ці не спрабавала яна сама калі-небудзь пісаць вершы.

На маё пытанне яна здзіўлена ўскінула доўгія вейкі:

— Я думаю, ты не будзеш спрачацца, калі я скажу, што жанчына сама па сабе ўжо ёсць верш...

Я не спрачаўся.

## ЦЕСНЫ СВЕТ

Днямі з асалодай перачытаў паэму Ніла Гілевіча «А дзе ж тая крынічанька?». І хоць дзеянне ў паэме адбываецца на Слонімшчыне, думкі павялі на радзіму, да нашых крынічак, да нашых песень:

«Ах, косю, мой косю,
Чаму ты не весел
І галоўку павесіў?
А ці я табе цяжкі,
Ці сядзельца важка?» —
«Ах, ты мне не цяжак,
Ні сядзельца тваё.
А цяжка мне тое,
Што ты дзве жонкі маеш
І да іх прыязджаеш.
Сам ляжыш у палозе,
А я стаю на марозе.

Капыцікі мае к лядку
Прымярзаюць,
Грыўкі мае сняжком
Западаюць».

Успомнілася, як на першым курсе на самай першай сесіі здаваў Нілу Гілевічу экзамен па фальклоры. Кожнага з нас, першакурснікаў, вядомы паэт і фалькларыст распытваў, хто мы, адкуль родам. Дайшла чарга і да мяне.

Пасля свайго традыцыйнага пытання Ніл Сымонавіч пацікавіўся:

— А ці ведаеце вы, што ў вашым краі жыве цудоўная спявачка Ніна Бялугіна?

— Вядома, ведаю,— адказаў я,— як жа не ведаць, калі яна ў нашым класе спевы выкладала...

Строгія вочы Ніла Гілевіча пацяплелі. Самае дзіўнае, што гэтае пытанне пры нашым першым знаёмстве задаў мне і Аляксей Васільевіч Пысін.

Ні Пысіну, ні Гілевічу я не сказаў, што Ніна Бялугіна мая блізкая сваячка. Яе бабуля Агапка і мая бабуля Анісся — стрыечныя сёстры. І прозвішча ў іх аднолькавае — Ніжнікавы.

А колькі гадоў назад, чытаючы ў «Полымі» эсэ Віктара Карамазава «Проста ўспомніў я цябе», я прыемна быў уражаны, што і ён, аказваецца, таксама ў свой час ездзіў у Калодліва слухаць песні бабы Агапкі і яе ўнучкі Ніны. Божа мой, які цесны свет! Як у ім усё пераплецена!

Да гэтай згадкі мне застаецца толькі дадаць, што зараз Ніна Сымонаўна Бялугіна жыве ў маіх Бялынкавічах у хаце майго стрыечнага прадзеда Васіля Анціпавіча, і я, кожны раз, калі бываю дома, забываю ёй расказаць, якая ж яна знакамітая.

## ПРА «ЗАЛАТОЕ КАЛЬЦО» І «ЗАЛАТУЮ ЖЫЛУ»

На самым золку перабудовы Сяргей Законнікаў і я бралі ўдзел у паэтычным фестывалі «Залатое кальцо». Выдатны быў фестываль! Мяркуйце самі: за

тыдзень мы аб'ехалі ці не ўсе гарады «Залатога кальца» і ў кожным былі незабыўныя сустрэчы. На Уладзіміршчыне мы на свае вочы бачылі не толькі старажытныя саборы незвычайнай прыгажосці, распісаныя самім Андрэем Рублёвым, якімі ў свой час захапляўся наш Уладзімір Караткевіч, але і выступалі ў вёсцы, дзе калісь настаўнічаў Салжаніцын і быццам там пісаў свой «Матренин двор». У Суздалі нам пашчасціла павячэраць у Пакроўскім манастыры, а ў Яраслаўлі пазнаёміліся з дырэктарам знакамітага волкаўскага тэатра — наймілейшай шляхетнай жанчынай з наскім прозвішчам Радзівіл...

Падчас выступленняў мы чыталі свае вершы, расказвалі пра нашу гісторыю і пры гэтым ненавязліва даводзілі, што цэнтр Еўропы знаходзіцца не ў Маскве, а ў нас на Беларусі.

Пасля адной такой сустрэчы, здаецца, у Гусь-Хрустальным, да нас падышла ўжо немаладая маскоўская паэтэса, буратка па паходжанні.

— Странный вы народ, белорусы!

— А што такое? — здзівіліся мы.

— Неужели вы в самом деле не понимаете, что сидите на золотой жиле?

— ???

— У вас — центр Европы, а вы ушами, извините, хлопаете. Да на этом же озолотиться можно... От паломников-туристов отбоя не будет! Я согласна вступить в дело, если возьмете, конечно...

Мы доўга смяяліся і абяцалі, што возьмем. Адміністратарам гатэля «У Закона».

— Ребята, а меня возьмете? — цікаўна стрэльнула падмаляванымі вочкамі маладзенькая паэтэса Юля.

Мы паабяцалі, што возьмем і яе. Адміністратарам рэстарана «У Пісьмянка».

— И стихи мои переведете на вашу мову?

Я адказаў, што магу перакласці пры ўмове, калі Сяргей Іванавіч як рэдактар дасць згоду.

— Ой, ребята,— какетліва засмяялася паэтэска,— если деньги платить будете, перакладайте как хотите...





З У. Бутрамеевым,
І. Жуком,
Г. Шупенькам
і А. Карпюком.
1991 г.



З С. Законнікавым.
1991 г.



Рэдактарскі кабінет «ЛіМа» заўсёды быў адчынены для ўсіх творчых людзей...
А. Пісьмянкоў з В. Шніпам, Л. Рублеўскай, Н. Гілевічам, З. Ерцімавай,
С. Пантоневым і А. Вярцінскім





Яго любілі,
яго чыталі...





На вечарыне
памяці А. Куляшова.
3 сакавіка 1999 г.

## СНЯГУРКА З РАСТОВА

Да Новага года заставаўся роўна адзін дзень. Стомлены перадсвяточнай мітуснёй, я курыў на кухні і быў даволі далёка ад грэшнай зямлі. Жонка ў ваннай мыла бялізну, а маленькі сын спаў у сваім пакоі. На зямлю мяне вярнуў прарэзлівы званок. Я неахвотна адчыніў дзверы і аслупянеў ад здзіўлення: у калідорчыку стаяла заінелая незнаёмка, дзяўчына гадоў васемнаццаці. «Відаць, Снягурка,— вырашыў я,— жонка для малога заказала...»

— А дзе ж ваш Дзед Мароз? — спытаў я замест прывітання.

— Ой, не магу,— звонка засмяялася Снягурка,— я — з Растова...

— Снягурка з Растова?

— Так, з Растова, але не Снягурка. Ваш сябар Іван папрасіў перадаць пераклады вашых вершаў,— і яна грацыёзна працягнула мне зялёны школьны сшытак.

Я ўпусціў заінелую госцю ў кватэру, дапамог распрануцца і жэстам запрасіў на кухню.

— О! — задаволена ўсклікнула Снягурка (будзем называць яе так).— У вас і курыць, аказваецца, можна?

— І не толькі,— сказаў я, дастаючы з шафы распачатую пляшку віна,— сябры майго сябра — мае сябры. Да таго ж вы мне зрабілі прыемны падарунак.— Мы выпілі па келіху віна і няспешна закурылі.

— У вагоне я прачытала пераклады вашых вершаў,— даверліва і ў той жа час неяк сарамліва прызналася госця.

— Ну і як?

— Ведаеце, штосьці ў іх ёсць... А ў вас нармалёва,— яна прыдзірлівым позіркам абвяла кухню,— утульна, не тое што ў Івана...

— Дарэчы, як ён там?

І госця ахвотна, з добрым гумарам расказала некалькі вясёлых гісторый з жыцця майго растоўскага сябра, дадаўшы, што Іван зайцам можа даехаць з Растова да Масквы і выйсці з вагона, добра выпіўшы і закусіўшы. Я ў сваю чаргу расказаў, як

  

летась Іван завітаў у Мінск і, не застаўшы мяне дома, пакінуў запіску: «Здесь был Ваня».

— Выбачайце,— нечакана перапыніла мяне Снягурка,— а вада гарачая ў вас ёсць? Я вельмі стамілася, і мне б не пашкодзіў душ...

— Ведаеце,— сумеўся я,— гарачая вада ёсць, але трэба папярэдзіць жонку...

— Як? — Густа пачырванела і перайшла на шэпт Снягурка: — У вас ёсць жонка?

— Даруйце, ёсць,— чамусьці таксама шэптам адказаў я,— і зараз я вас пазнаёмлю.

Віно мы ўсё ж дапілі і развіталіся па-сяброўску. На аўтобусным прыпынку Снягурка паабяцала, што ў Растове яна абавязкова наб'е морду майму сябру. Я абяцаў зрабіць тое самае, толькі ў Мінску.

## НЕ ПІШЫ, БАЦЬКА...

Ці задумваліся вы, чаму маленькія дзеці любяць вершы і часта самі думаюць у рыфму, а калі падрастаюць, ад ранейшай «любові» не застаецца і следу?

Мне здаецца, я не дужа памылюся, калі скажу, што нішто не забівае так любоў да паэзіі, як прымусовае і часам бяздумнае завучванне вершаў на памяць на ўроках літаратуры.

Аднойчы мне давялося быць сведкам надзвычай цікавага дыялога.

Да аднаго нашага паэта падышоў сын-школьнік і спытаў:

— Што ты робіш, бацька?

— Пішу верш.

— А калі напішаш, што ты з ім будзеш рабіць?

— Надрукую ў газеце.

— А далей?

— Уключу ў новую кніжку.

— А далей?

— Калі верш атрымаецца выдатны, яго, магчыма, змесцяць у падручніку і ты разам са сваімі сябрамі будзеш вучыць на памяць.

— Ой, не трэба,— спалохаўся сын,— не пішы, бацька...

## ДУМАЦЬ ВЕРШЫ

На вечарыне, прысвечанай памяці паэта-пакутніка Тодара Кляшторнага, Сяргей Грахоўскі ўспамінаў, што пры сустрэчах з Кляшторным на пытанне «Што робіш, Тодзік?» той звычайна адказваў: «Вершы думаю...»

Думаць вершы — якое трапнае і дакладнае вызначэнне складанага псіхалагічнага працэсу!

Паэты з уласнай практыкі ведаюць, што вершы не пішуць, вершы думаюць, вершы выношваюць і толькі потым запісваюць. Невыпадкова раней у літаратуры існавала дума як жанр. Памятаеце, у Лермантава — «Дума», у Янкі Купалы — «Думка», у Тараса Шаўчэнкі — «Дума»...

У хуткім часе пасля вечарыны Тодара Кляшторнага я з ціхай радасцю прачытаў у Марыны Цвятаевай: «...лірыка — усяго толькі запіс нашых сноў і адчуванняў».

Радасць мая тлумачыцца проста: я ніколі не пісаў вершаў — я іх думаў.

## ВЕРШЫ ПАД АБРАЗАМІ

Зараз у далёкім Прыбяседдзі ў чуйнай цішыні дзедавага саду падаюць яблыкі. Падаюць мякка, нячутна, як у трывожным вершы Васіля Зуёнка:

Ніхто не пачуў:
Яблык упаў дасвеццем...

Гэта нічога, што пад маім вакном позні вечар і азяблы пажоўклы лісток прыліп да мокрага шкла. Гэта нічога...

Ніхто не пачуў —
Ні людзі,
ні травы,
ні вецер.
Ніхто.
А шар зямны здрыгануўся.

Разам з ім нешта здрыганулася і ўва мне – я, здаецца, пачуў. Проста мне вельмі хочацца пачуць.

Апошнім часам я ў сваіх снах усё часцей вяртаюся туды, у дзедаву хату, якая на трынаццатым годзе пасля вайны пачула мой першы плач. Вось ужо каторы год як не свецяцца яе некалі прыветныя вокны. Няма на гэтым свеце ні гордай пакутніцы бабы Анісссі Васільеўны, ні мудрага жыццялюба, руплівага пчаляра дзеда Сямёна Варфаламеевіча. Баба памерла ў страшных муках, а дзед адышоў на той свет лёгка: пайшоў да калодзежа засіліць вады, а калі вяртаўся назад, упаў на парозе з поўнымі вёдрамі.

Колькі сябе памятаю, у іхняй хаце заўсёды пахла мёдам і яблыкамі. Гэты пах суправаджаў мяне з першых дзён існавання. Часам здавалася, што гэта мая прыдумка, што гэта ў мяне ад любімага Буніна, але калі сёлета разам з бацькам ступіў у вусцішную цішыню пустога жытла, я зноў востра адчуў знаёмы з маленства дух.

На дзедаву хату знаходзіліся купцы, ды бацька не дужа спяшаецца яе прадаваць, ён прапануе мне забраць і перавезці хату куды-небудзь пад Мінск, але робіць гэта хутчэй дзеля прыліку і ў глыбіні душы спадзяецца, што я адмоўлюся. І я — адмаўляюся. Мне, як і яму, боязна і балюча разбураць нашае радавое гняздо, бо, разбурыўшы яго, мы непазбежна парушым нешта святое і ў сабе.

Мае дзед і баба былі людзі гасцінныя. Яны любілі і ўмелі прымаць гасцей. Ахвотна частавалі мёдам з яблыкамі або мёдам з агуркамі. Казалі, што баба мела нейкі адной ёй вядомы сакрэт – знала, калі лепш сеяць агуркі. Быў у яе той сакрэт ці не, але не было такога года, каб у Анісссі Васільеўны, на здзіўленне і зайздрасць аднавяскоўцаў, яны не ўрадзілі. Праўда, бацька любіў жартаваць, што яны – восеньскія багачы, а вясной – ні сена, ні саломы. Але затое абое, і дзед і баба, любілі шыкануць. Асабліва дзед. Бывала, ладзіцца ў вёсцы вяселле, і дзед — самы жаданы госць – неўпрыкметку найбольш знаных гасцей пераманіць да сябе ў хату, і ўжо незразумела, у каго тое вяселле гуляюць: ці то ў Пісьмянка, ці то ў некага іншага.

А яшчэ яны абое былі выдатныя апавядальнікі. Самую звычайную гісторыю ўмелі распавесці займальна і цікава. Не была ім чужая і паэзія: многія вершы Якуба Коласа і Някрасава ведалі на памяць. Асабліва любілі «Капитанскую дочку» і «Анну Каренину». Помніцца, адзін наш паэт расказваў, як напрыканцы пяцідзесятых гадоў ён выдаў першую кніжку і падарыў яе сваёй маці. Гэта была адзіная кніжка ў іхняй беднай хаце. Маці была непісьменная і, каб лепш захаваць сынаў дарунак, схавала яго ў пячурку. Я тады паспачуваў паэту, але недзе ў глыбіні душы ў мяне варухнулася цёплая радасць — мая першая кніжка «Белы Камень» у дзедавай хаце заўсёды ляжала пад абразамі.

Цяпер яна ў мяне.

На ёй засталіся сляды іхніх мазольных рук.

## СЛОЎНІК БАБЫ НАСТЫ

Аляксей Пысін раіў вучыцца роднай мове ў вясковых жанчын. Раіў вывучаць не толькі лексіку, якая ў іх багацейшая і чысцейшая, чым у мужчын, але і ўвесь адмысловы склад і лад іхняй гаворкі. Жанчына, казаў паэт, больш блізкая да прыроды, яе мяккая і чуллівая душа бліжэй да народнай песні.

Жанчыны,
Маці-словатворцы,
Ў час калыханак вы спрялі
Імя вясне, пчале і зорцы.
Ўсім добрым дзівам на зямлі.

Гэтыя мудрыя радкі заўсёды ўсплываюць у маёй памяці, калі я сустракаюся з бабай Настай.

Вось і зараз мы з ёю не здароўкаемся, а рукаемся. А на каніцкай вуліцы сёння, даруйце, сянні не галалёд, а ледзяніца, і ў рукі баба Наста бярэ не кій ці кавеньку, а цапок, каб цапаць коўзкую дарогу. Яна вельмі непакоіцца, што на маіх ботах амаль зусім сцёрся падпятак — так мая бабуля называе абцас. На дварэ не толькі ледзяніца, але і яшчэ дужа ёдка — золка, ветрана і на халодным скавышы брыніць

(рабаціць) вада ў хуткім Сураве, які тут жа, за бабулінай хатай, імкліва бяжыць да Бесядзі.

Частуе мяне баба Наста не проста яешняй, а цалкавухай (неразбітыя жаўткі) і добра ўжалелай (смажанай) бульбай. Вядома, што мы ахвотна бяром па каліву (па кроплі) яе мяккай, хатняга вырабу гарэлачкі. І ў свае восемдзесят шэсць яна не любіць верзяі (лухты). Жыва, з цікавасцю распытвае пра сваіх праўнукаў і зычліва кажа, што яны занадта вялікія малізыннікі (ласуны).

Я са смакам бяру каліва гарэлачкі, ем цалкавуху, ужалелую бульбу і з асалодай слухаю яе гаворку і не перастаю здзіўляцца, які яна выдатны лексікограф і бліскучы стыліст.

## КАНІЦКІ ДЗЕД

У аснову знакамітага куляшоўскага верша «Мая Бесядзь» пакладзена паданне пра птушку каню:

Кажуць, што рэкі птушкамі створаны,—
Такімі малымі на першы пагляд,—
Капалі і ў дзюбах адносілі ў бор яны
Мяшочкі з зямлёй
І ляцелі назад.
А каня гуляла ды мыла іх здзекамі,
І птушкі паслалі ёй вечны праклён,
Таму і лятае яна над рэкамі
І просіць піць
Аж да сённяшніх дзён.

Я доўгі час думаў, ды і зараз схільны думаць, што назва прыбяседскай вёскі Канічы паходзіць ад назову гэтай птушкі. Ва ўсялякім разе, я ніколі нідзе не сустракаў іх так многа, як у нашай мясцовасці. Асабліва багата гэтага птаства на лясной прырэчнай дарозе з маіх Бялынкавіч на Канічы — радзіму Васіля Хомчанкі. У гэтых самых Канічах жыў некалі мой дзед па маці Сямён Масеевіч. Дзеда мы з братам вельмі любілі. З ім, чалавекам незвычайнай шчырасці і непасрэднасці, было проста і лёгка і можна было без аглядкі гаварыць пра ўсё на свеце. Каніцкі дзед быў лёгкі на хаду — прайсці сем кіламетраў

туды і назад для яго нічога не значыла. І таму бываў ён у нас даволі часта. Адпускалі назад дзеда Сямёна мы заўсёды неахвотна, і, здаецца, ніколі не было выпадку, каб я і брат не правялі яго далёка за Бесядзь. Падарожжа звычайна доўжылася гадзіну, а то і болей. Каніцкі дзед любіў пагаварыць, ці, як ён казаў, прыстояць з маладзічкамі. Трэба сказаць, што тыя «маладзічкі» былі ў асноўным дзедавага веку. Пры сустрэчы з ім яны зычліва ўсміхаліся, і пры гэтым іхнія вочы молада яснелі. Разгладжваліся маршчыны і на дзедавым твары. Мы з братам у такіх выпадках шматзначна пераглядваліся. Для сябе мы даўно вырашылі, што наш дзед у свой час быў не абы-які лавелас. Падстава для такога меркавання ў нас была відавочная. Прынамсі, мы заўсёды з цікавасцю разглядвалі дзедаву франтавую фотакартку — з яе на нас усмешліва пазіраў вясёлы і зухаваты прыгажун. Неяк падчас аднаго з такіх падарожжаў мы падзяліліся з дзедам сваёй саматужнай версіяй. Дзед задаволена рагатнуў. Адчувалася, што нашае падазрэнне цешыць ягонае самалюбства, хоць, як аказалася, сакрэт дзедавай папулярнасці ў «маладзічак» насіў зусім іншы характар: у галодныя трыццатыя гады наш дзед працаваў рабочым на пякарні, і местачковыя жанчыны, на той час сапраўды яшчэ маладзічкі, цёмнымі зімовымі вечарамі нярэдка прыходзілі да пякарні ў надзеі разжыцца хоць якім-небудзь кавалкам хлеба для сваіх дзяцей. І дзед, чалавек жаласлівы і спагадлівы, не мог адмовіць ім і заўсёды пры магчымасці, крадком, вядома, выносіў хлеб, бо і ў яго самога дома сядзелі на печы малыя Манька і Танька.

На нашае пытанне, ці боязна было, што зловяць, маглі ж пасадзіць, каніцкі дзед скрушна ўздыхаў: «Сэрца ж не зялезнае...»

Пазней пад уражаннем гэтай гісторыі ў мяне нарадзіліся радкі, якія, на жаль, я так і не давёў да ладу:

У мяне не хапае жалеза —
хвароба мая спадчынная.
Гэта — ад дзеда
па лініі матчынай.

Жыхары навакольных вёсак ведаюць, што канінцы — народ своеасаблівы. Вясёлы, дружны і вельмі востры на язык. (Пра гэта, здаецца, пісаў у сваёй прозе Васіль Хомчанка.) У кожнага канінца абавязкова ёсць мянушка, некалі так трапна дадзеная дзядам і бабулям, што навечна прыліпла і да ўнукаў, якія сёння толькі дзівяцца ды марна ламаюць галаву над загадкамі народнай этымалогіі. Так, напрыклад, адну з дзедавых суседак звалі Мудра — за ясны і практычны розум, другую Кабета — за важны, ганарлівы выгляд, а старога шафёра-бязбацькавіча, сына Паліны,— Полькавіч, урача-гінеколага — Перадкоў.

Майго дзеда чамусьці звалі Блін (моднае слоўца ў сённяшняй «крутой» моладзі). Дзед казаў, што і мой прадзед быў Блін, і прапрадзед таксама — Блін. І калі хто казаў, што я «Сямёнаў унук», гэта ні аб чым не сведчыла, а вось калі казалі «Блінаў унук», то тут усё станавілася на месца і ўсё ўсім было зразумела.

Аднойчы я прыехаў з Мінска і, завітаўшы да дзеда, перадаў яму прывітанне ад Хомчанкі. Дзед доўга думаў: хто ж гэта такі?

— Васіль Фёдаравіч,— падказаў я,— пісьменнік...

— А-а, Хвігін! — узрадаваўся дзед.— Хвігіна помню...

## ЦІ ЛЮБІЦЕ ВЫ БЁРНСА?

Пасля літаратурных выступленняў на Магілёўшчыне мы з Віктарам Карамазавым вярталіся ў Мінск. З намі ехала маці пісьменніка і кот. Маці ехала зімаваць да сына, а ката меркавалася пакінуць у добрых знаёмых у Чэрыкаве.

Каля аднаго з акуратных дамкоў Карамазаў тармазнуў: «Выходзь, браце, з чалавекам пазнаёмлю». На слове чалавек ён зрабіў націск і гэтым заінтрыгаваў. Мы пераступілі парог і адразу трапілі ў царства птушак. Адны з іх шчабяталі ў клетках, другія вольна лёталі па пакоі. А побач з імі мірна суіснавалі некалькі катоў.

Нас ветліва сустрэў хударлявы чалавек няпэўнага ўзросту ў зашмальцаваным камбінезоне. Парукаліся. Чалавек назваўся Усеваладам і папрасіў прабачэння за непарадны выгляд, сказаў, што збіраецца на змену ў кацельню, дзе робіць качагарам. Быў ён халасцяк і жыў удваіх са старой маці. Пакуль Віктар Філімонавіч гаманіў са старымі, гаспадар займаў мяне свецкай бяседай. Я тым часам уважліва аглядзеўся — у хаце было багата кніг — і запыніў позірк на томе французскіх філосафаў-асветнікаў, што ляжаў на стале.

— Ды вось цікаўлюся,— перахапіў мой здзіўлены позірк гаспадар,— а вы таксама пішаце?

— Так...

— А ў чым, прабачце, практыкуецеся?

— У вершах,— трохі збянтэжана адказаў я, здзіўлены такім нязвыклым вызначэннем свайго занятку.

— О! Вершы — гэта цудоўна. Вершы я люблю, і асабліва Бёрнса. А вы любіце Бёрнса? — не адставаў карамазаўскі знаёмец.

— Вядома, люблю,— сказаў я,— як можна не любіць Бёрнса...

— А ў чыім перакладзе вам больш падабаецца: у Маршаковым ці ў Семяжонавым? — працягваў здзіўляць чалавек у камбінезоне.

Я, помню, адказаў, што ў кожнага з іх ёсць свае вартасці. І ў Маршака, і ў Семяжона...

— А я дык больш люблю Семяжонавы пераклады,— засмуціўся маім адказам Усевалад,— яны мяне больш, калі хочаце, грэюць...

На развітанне я пацікавіўся, ці не сумна яму жыць у Чэрыкаве, на што ён адказаў, што жыць можна і ў Чэрыкаве, ды вось пагаварыць няма з кім...

З тае сустрэчы мінула ўжо багата часу, а той наш дыялог усё ніяк не выходзіць з галавы, не-не дый успомніцца сакраментальнае пытанне чалавека з Чэрыкава: «А вы, прабачце, у чым практыкуецеся?»

Асабліва калі сумняваюся ў сваім ці чытаю бездапаможнае чужое.

## ПРОЗВІШЧА АБАВЯЗВАЕ

Усе мае кніжкі, выдадзеныя «Мастацкай літаратурай», рэдагаваў мой равеснік і сябра Леанід Дранько-Майсюк. Рэдагуючы зборнік вершаў «Планіда», ён раптам пачаў прымушаць мяне скрозь пасля галосных паставіць ў (у нескладовае). Натуральна, я абурыўся, бо прыняў ягонае пажаданне за звычайную рэдактарскую сваволю. Я, помніцца, пачаў пярэчыць, што вельмі цаню ў вершы музыку, што вершы нарадзіліся арганічна і гэткая «хірургічная аперацыя» разбурыць натуральнасць радка, але Дранько-Майсюк трымаўся жалезна і ўпарта даводзіў сваё. Я пачаў спасылацца на класікаў, на вопыт старэйшага пакалення і г. д. Уважліва выслухаўшы ўсе мае аргументы, рэдактар з уласцівым яму спакоем, цвёрда і пераканана заявіў:

— Ім — можна, а табе — не. Ты — Пісьмянкоў, значыць, пісьменны.

Што тут скажаш, давялося саступіць і, дзе толькі магчыма, паправіць: прозвішча абавязвае... Тым больш што яшчэ задоўга да Дранько-Майсюка мне гэта самае сказалі Даль у «Толковом словаре живого великорусского языка», Насовіч у «Словаре белорусского наречия» і Уладзімір Міхайлавіч Юрэвіч у сваім «Слове жывым, родным, гаваркім...».

## ГІСТОРЫЯ БЕЗ КАМЕНТАРУ

У Віталя Біянкі ёсць адна лірычная мініяцюра, вельмі павучальная для нашага брата. Цікава, што ў сваім дзённіку за 1958 год пісьменнік пазначаў: «18 сакавіка — канчатковая рэдакцыя... 22 чэрвеня перадаў у часопіс «Бярозка (Беларусь)». Называецца мініяцюра «Поэт и соловей». Я пастараюся перадаць яе змест як мага дакладней.

У маленстве паэт не чуў салаўя — не пашчасціла. Чуў толькі, што людзі ўслаўляюць яго песні. І стаў услаўляць салаўя. А заадно і ружы.

Салавей і ружы прыносяць радасць. Радасць прыносіць поспех і славу. Слава прыносіць грошы.

Пад старасць паэт разбагацеў. Купіў сабе дачу з садам і ружамі.

Прыйшла вясна. У кустах зацёхкаў салавей. Заспявала, зашчабятала і іншае птаства. Паэту гэта не спадабалася. Ён падумаў: «У садзе паэта, які ўсё жыццё ўслаўляў аднаго салаўя, павінен жыць адзін салавей. Іншым птушкам з іхнім шчэбетам і чырыканнем не месца ў маім садзе».

Асабліва адна птушачка яму назаляла. Падыдзе паэт да куста панюхаць ружу — яна скрыпіць.

— Міленькая,— сказаў паэт,— ты абражаеш мой слых. Ты перашкаджаеш мне піць водар руж.

Ён асцярожна выцягнуў з-пад куста простае травяное гняздзечка з шэрымі яйкамі і панёс яго ў лес, далёка за агароджу свайго саду. Мізэрная птушачка ўвесь час ляцела за ім і жаласна стагнала.

Вечарам паэт зручна ўсеўся ў шэзлонг на тэрасе і настроіўся, як заўсёды, слухаць салаўя. Але салавей не спяваў. І вось бяда: салавей больш ніколі не спяваў у ружовым садзе паэта. Вы ўжо здагадаліся, што паэт сам выселіў салаўя са свайго саду: тая мізэрная птушачка, што так непрыемна скрыпела, і быў салавей. Аказваецца, каля свайго гнязда, у трывозе за сваіх птушанят, салавей не спявае, не цёхкае, а стогне.

Вось, бадай, і ўся гісторыя. Я хацеў напісаць да яе каментар, а потым перадумаў: навошта?

Зразумела ўсё і так, без каментару.

## АПРАЎДАННЕ ЛЯНОТЫ

На пытанне, чаму верш у мяне ў асноўным лакнічны, я звычайна адказваю жартам: «Лянуюся». І пры гэтым спасылаюся на творчы вопыт Генрыха Гейнэ.

Неяк у паэта спыталі, што ён рабіў да абеду.

— Я перачытваў верш, які нядаўна напісаў, і ў адным месцы паставіў коску.

— А пасля абеду?

— Я перачытваў гэты верш яшчэ раз і закрэсліў коску, бо яна здалася лішняй.

У ляноце ўвесь час абвінавачвае мяне і мой блізкі сябар Уладзімір Бутрамееў.

— Ну што,— жартуе ён пры нашых нячастых сустрэчах,— думаеш вершы?

— Думаю.

— Добра паэтам,— непрытворна ўздыхае празаік і драматург,— прыдумаў пару строф дый гуляй сабе. І сумленне чыстае, нібыта сапраўды папрацаваў.

Я разумею Валодзю: ён, як некалі Гогаль, піша, стоячы за канторкай, і на ягоных пальцах заўсёды мазалі ад пяра. А я, гэта яму вядома, амаль ніколі не пішу — я запісваю. Паэты добра ведаюць, што часта першыя строфы прыходзяць самі, яны нараджаюцца лёгка, без усякай натугі, і дыханне іхняе натуральнае і нязмушанае. Яны як падарунак ад Бога. Іншы раз нават здаецца, што да іхняга з'яўлення на гэты свет ты не маеш ніякага дачынення. Проста табе быў голас аднекуль адтуль, і ты яго ўсяго толькі падслухаў ды запісаў на чысты аркуш паперы.

Зразумела, што гэтай лёгкасці папярэднічае няпростая і вельмі напружаная, для староння вока непрыкметная, работа душы. І ў выніку, як сцвярджала Марына Цвятаева, лірычны прыліў прыносіць восем, шаснаццаць, рэдка дваццаць радкоў, якія яна трапна называла «каштоўнымі асколкамі».

Пасля такога прыліву мне застаецца адно — беражліва і любоўна сабраць гэтыя асколкі і цярпліва чакаць новай хвалі.

## У ПТУШКІ ЁСЦЬ ГНЯЗДО

Маю душу зноў паланіў Бунін. Вось ужо колькі дзён не магу выйсці з біяполя яго магічных радкоў:

У птицы есть гнездо, у зверя есть нора,
Как было горько сердцу молодому,
Когда я уходил с отцовского двора,
Сказать прости родному дому.

Гэты глыбокі бунінскі ўздых, поўны горкай тугі, блізкі мне не толькі тым, што сугучны з маім цяпе-

рашнім настроем, а яшчэ і тым, што ён, як далёкае рэха, перагукваецца праз стагоддзі з даўно родным і дарагім, Скарынавым:

Понеже от пірожденія звері,
ходяши в пустыні, знають ямы своя;
Птіцы, летающе по возъдуху, ведають гнезды своя...

Вельмі хочацца верыць, што Бунін быў знаёмы з прадмовай доктара Францыска Скарыны з Полацка да кнігі «Юдзіф». Я разумею, што вера мая наіўная, але для яе ёсць падставы: у аўтабіяграфічным рамане «Жыццё Арсеннева» Іван Аляксеевіч падрабязна апісвае сваё падарожжа ў Смаленск, Віцебск і Полацк. Ёсць у яго і цудоўны верш «Князь Усяслаў». Бунін напісаў свае пранізлівыя радкі ў прадчуванні вечнага расстання з Расіяй – наперадзе яго чакалі трыццаць тры гады эміграцыі. Наш Скарына таксама амаль усё жыццё пражыў удалечыні ад радзімы: і ў Кракаве, і ў Падуі, і ў Празе ён не мог не сумаваць па слаўным горадзе Полацку. «...Птици... ведають гнезда своя... У птицы есть гнездо...»

## ВІНО І ВЕРШЫ

Пасля заканчэння школы я з год працаваў у рэдакцыі касцюковіцкай раённай газеты. Вечарамі супрацоўнікі рэдакцыі любілі збірацца на халасцяцкай кватэры паэта-гумарыста (на жаль, ужо нябожчыка) Сямёна Пацёмкіна. Сямён Ігнатавіч працаваў карэспандэнтам-арганізатарам на радыё, і ў маленстве я часта прачынаўся ад грому ягонага баса: «Увага, увага, гавораць Касцюковічы!»

Пацёмкін быў вельмі папулярны чалавек у раёне. Яго байкі і гумарэскі ведалі і любілі мае землякі. На той час ён багата друкаваўся ў абласных і сталічных выданнях і нават меў, на зайздрасць раённых графаманаў, кніжку ў бібліятэчцы «Вожыка». Памяць у Сямёна Ігнатавіча была, як кажуць у народзе, змяіная: ён мог бясконца цытаваць класікаў, а «Ларэлею» Гейнэ чытаў на памяць па-нямецку. Яшчэ ў юнацтве лёс звёў яго з Аркадзем Куляшовым і Юліем

Таўбіным, шчырае сяброўства было ў яго з Аляксеем Пысіным, а Івана Чыгрынава, калі той быў яшчэ школьнікам, ён вазіў у Магілёў на абласны семінар маладых літаратараў. Менавіта ад Пацёмкіна я ўпершыню пачуў пра нашага земляка паэта-эмігранта Масея Сяднёва. Натуральна, што ўсё гэта мяне ўражвала і я надзвычай высока цаніў яго думку і быў удзячны за прыязнасць і гасціннасць. Звычайна пацёмкінскія вечарыны не абыходзіліся без чаркі — на агеньчык халасцяцкай кватэры забягалі не толькі мы, супрацоўнікі газеты, але ці не ўся «прагрэсіўная» інтэлігенцыя невялікага гарадка, якую за вочы, услед за Якубам Коласам, гаспадар называў «панямонскай». Сямён Ігнатавіч быў заўзяты грыбнік, і ў яго заўсёды можна было пачаставацца адмыслова прыгатаванымі груздамі і рыжыкамі. Словам, закусь каралеўская! Праўда, калі збіраліся хлопцы, якіх ён любіў, да традыцыйных грыбоў даставалася з каморы яшчэ і сала. Добра падвыпіўшы, госці любілі цытаваць пацёмкінскія радкі:

Знаёмы будзьце з гэтым сказам:
Віно і вершы ходзяць разам!

На той час я быў пачатковец не толькі ў паэтычнай справе, але і ў вакхічнай таксама — семнаццаць гадкоў, маладзён... І хоць смак віна мне быў ужо знаёмы, браць чарку ў саліднай кампаніі саромеўся. На што, як і зазвычай бывае ў такіх варунках, госці крыўдавалі і вінавацілі мяне ў непавазе да іх і, самае прыкрае,— да гаспадара.

На маё шчасце, гаспадар, аўтар афарыстычных радкоў пра віно і вершы, уладна абрываў «панямонцаў»:

— Цыц! У такім узросце бацька мяне яшчэ сек!

## У КОЖНАГА СВАЯ КЕРН

Неяк напярэдадні 8 Сакавіка да мяне звярнулася Галіна Булыка з просьбай сказаць колькі слоў для газеты «Культура» пра жанчыну і паэзію. І хоць гэтая тэма для мяне не чужая і сам-насам я неаднойчы пра гэта думаў, на той момант чамусьці разгубіўся.

Жанчына і паэзія... Жанчына ў паэзіі... Мілая, прыгожая, капрызлівая, хітрая, легкадумная... Відаць, з усіх гэтых рысаў і складаецца жаноцкасць. Жанчына ў наша жыццё прыходзіць нечакана, як і верш. І абсалютна натуральна, што кожны прыход жанчыны ўплывае не толькі на погляды і характар мужчыны, але і мяняе характар ягоных учынкаў. Дзеля яе хочацца быць лепшым ці горшым. Яна прымушае думаць пра яе, а значыць, нешта нараджаць. Гэта той выпадак, калі мужчына таксама нараджае...

Што тычыцца мяне, дык я ўпершыню закахаўся рана, як, відаць, і большасць творчых людзей. І закахаўся, зразумела, у жанчыну старэйшую за сябе, недасягальную, і хутчэй за ўсё не мог спадзявацца на ўзаемнасць. Але ў той безнадзейнай закаханасці і ёсць высокая паэзія. Я думаю, што ва ўсе часы паэтаў у значнай ступені рабілі паэтамі жанчыны. У кожнага была свая Керн: у Дантэ — Беатрычэ, у Петраркі — Лаура, у Лермантава — Н. Ф. І., у Купалы — Мядзёлка, у Куляшова — Алеся...

Праўда, нельга не пагадзіцца з афарыстычнымі радкамі нашага земляка — вядомага расійскага паэта Ігара Шкляроўскага: «Так редко дружат ум и красота».

Што ж, разлад паміж марай і рэчаіснасцю — з'ява для паэта нармальная.

Можа, дзякуючы менавіта яму, гэтаму разладу, мы і маем у лірыцы апошніх гадоў такія цікавыя рэчы, як Галубовічава «Жанчына з мары» і Дранько-Майсюковы «Вершы да А.».

## ДАСЦІПНАСЦЬ

Не ў першы раз пераконваюся, што ў старых вясковых жанчын трэба вучыцца не толькі мове, але і дасціпнасці — гаварыць востра, смешна і трапна. Ну хоць бы вось у гэтай цёткі, якая гасцінна прымае мяне ў сваёй хаце. Частуе шчыра і сардэчна, аднак сама ўзяць чарку наадрэз адмаўляецца. І я, вядома, іду на хітрыкі:

— Дык за ваша здароўе, цётка...
— Ат, якое здароўе ў мае гады!
— Ну, дык тады за маё.
— Ага, за тваё вып'ю, а сваё пакладу.

## ТУМАН

У грунтоўнай і зычлівай рэцэнзіі на маю «Планіду» Віктар Ярац заўважыў, што я «гавару, як з чалавекам, з Туманам». Каб усё было зразумела, скажу адразу: так звалі нашага сабаку.

Займець свайго сабаку мы з братам Міколам хацелі даўно. Гэта была блакітная мара нашага маленства. Даходзіла да таго, што мы часам падбіралі на вуліцы аблезлых бадзяг і прывязвалі на ланцуг, прыкормлівалі, але, трохі ад'еўшыся, яны няўдзячна знікалі. І вось неяк увосень бацька прывёз нам пульхнага цельпукаватага шчанюка. Сказаў, што купіў за пляшку гарэлкі ў Мішкі Шумілы. Шуміла быў добры і вясёлы дзядзька з суседняга Белага Каменя, і мы, дзятва, вельмі яго любілі. Шчанюк аказаўся надзіва гарэзлівы і адразу пачаў жартаваць з намі. Як заўзятыя сабакары, мы даўно ведалі, што калі паднябенне зверху чорнае, значыць, сабака будзе злы. Зазірнуўшы ў гарачую ружовую пашчу шчанюка і не знайшоўшы ніякай чарнечы, вырашылі, што сабака будзе добры і вясёлы, як Шуміла. Назвалі мы яго Туманам, бо шэра-белы колер ягонай поўсці нечым нагадваў ранішні туман па-над Бесяддзю.

Шчанюк рос як на дражджах. Усё, што было смачнага ў нашай хаце, не мінала ягонай будкі. А калі наш сябра занядужаў, ці, як самавіта зазначыў Мікола, перагрыз чарвяка, мы ўпотай ад бацькоў кармілі яго мёдам. Дапамог мёд ці прырода ўзяла сваё, але неўзабаве Туман ачуняў. Брат падзяліўся радасцю з суседам і, вядома ж, не прамінуў сказаць пра мёд. Ох, і перапала нам ад бацькоў! Ды і як магло не перапасці, калі кожны хворы ў матчына дзяжурства ў бальніцы, дзе яна рабіла медсястрой, абавязкова цікавіўся: «А ці праўда, Сямёнаўна, што вашы хлопцы сабаку мёдам вылечылі?»



У мінскай школе
пасля выступлен
Люты 2001 г.





У «ЛіМе» з лімаўцамі яму заўсёды было добра... А. Пісьмянкоў з М. Гілевіч, М. Гілём, В. Вярбоўскай, П. Васілеўскім, Л. Рублеўскай, Я. Рагіным, В. Шніпам, Н. Шаранговіч, С. Берасцень і А. Гаўронам

Туман быў звычайны дварняк, але характар меў высакародны: ніколі не краў, я не помню ніводнага выпадку, каб узяў нешта без дазволу. Ён быў у прыязных адносінах з нашым катом Мікошам, і той часта бегаў да яго ў будку, каб разам пажартаваць. На рыбалку, у грыбы, у ягады мы хадзілі толькі з Туманам. Бывала, далёка адышоўшы адзін ад аднаго, мы перагукваліся, і густое рэха разляталася па ўсім лесе. І наш Туман адразу пачынаў непакоіцца. Ён з насцярогаю ўслухоўваўся ў цішыню і трывожна падвываў. Мы часам злоўжывалі ягонай даверлівасцю і, каб пацешыцца, знарок крычалі: «Ау!», але ён хутка ўчуў нашу хітрасць і вельмі крыўдаваў. Аўтарытэт Тумана ў нашай сям'і істотна вырас пасля таго, як ён у галалёд дапамог каніцкаму дзеду ўзабрацца на крутую горку. Дзед спачатку не зразумеў ягоных намераў і сярдзіта адганяў Тумана прэч: баяўся, што той пракусіць крысо кажуха, а калі да яго дайшло, што сабака хоча шчыра дапамагчы, вельмі ўсцешыўся і заўсёды пры выпадку хваліў нашага выхаванца.

Не раз Туман быў першым слухачом маіх вершаў. Ён чуйна натапырваў вушы і цёплымі вачамі глядзеў на мяне. Далібог, ён усё разумеў. Не сэнс, не словы, а настрой, які перадаваўся праз рытм. Вельмі цяжка перажываў Туман расстанне з Міколам, калі брат пайшоў у войска. Ён штодзень бегаў на станцыю і падоўгу сядзеў каля вакзала. Чакаў.

Павесялеў ён толькі ўлетку, калі, ідучы на вайсковыя зборы, я прывёз да бацькоў цяжарную жонку. Туман палюбіў Алену гэтак жа аддана, як і нас з братам. Ён усюды хадзіў за ёю. Хадзіў важна і горда і ўсім сваім выглядам паказваў, што ён адчувае адказнасць, якая выпала на яго долю. Калі Алена купалася ў Бесядзі і далёка адплывала ад берага, ён трывожыўся і на ўсякі выпадак таксама заходзіў у ваду.

Пасля нараджэння сына мы патэлефанавалі бацькам. Падчас гаворкі з маці Алена горка заплакала. Я адчуў, як у маіх грудзях нешта абарвалася, і пахаладзеў ад страху:

— Што?

— Туман памёр...

Сказаць «здох» у яе не павярнуўся язык.

# ЁН ЛЮБІЎ БЕЛАРУСЬ НАШУ МІЛУЮ

Цяжка прымірыцца з думкай, што ўжо няма Алеся Ставера, яго вясёлая і добрая душа заўчасна адляцела ў незваротны вырай. Дужа ж вялікі ён быў жыццялюб, і было ў яго характары нешта ад рамэнаўскага Кала Бруньёна, толькі ў нашым, беларускім, варыянце.

Ён любіў Беларусь. На сваіх старэнькіх «Жыгулях» скалясіў яе ўдоўж і ўпоперак. Бадай, наўрад ці знойдзецца хоць адзін раён, дзе не пабываў няўрымслівы Алесь Сяргеевіч. У якіх толькі аўдыторыях не гучала ягонае слова!

Ён любіў людзей. І яны яму адказвалі ўзаемнасцю: на шчырасць — шчырасцю, на дабро — дабром. Яго ведалі і любілі людзі розных узростаў, розных прафесій — дзеці і пенсіянеры, урачы і міністры, настаўнікі і рабочыя, калгаснікі і міліцыянеры. Я неаднойчы чуў, як паўнюткія залы падхоплівалі ўслед за паэтам яго знакамітыя строфы «Жураўлі на Палессе ляцяць», бачыў, з якой радасцю і годнасцю спявалі яго «Беларусачку», чуў, як вясёлым выбухам смеху сустракалі трапны і сакавіты Ставераў гумар.

З ім было цікава. Неяк напрыканцы дажджлівага верасня ён завітаў да мяне на кватэру і запрасіў з'ездзіць з ім і Алесем Махначом у грыбы. У Лагойску мы заскочылі да аднаго журналіста — даўняга знаёмца і прыхільніка Ставера, і той павёз нас у апенькі. Апенек у тую восень было багата, хоць касой касі. І мы даволі хутка ў адным з лагойскіх балот накасілі іх па цэлым кашы. Накасіць накасілі, але так закруціліся ў лесе, што аніяк не маглі выйсці з таго балота: куды ні пасунешся — усё не тое, усё не туды. А тым часам пачало брацца на вечар і спорна зацерусіў дробны дождж. Мяне больш за ўсё непакоіла тое, што Ставераву машыну мы пакінулі на ўскрайку лесу, каля самай дарогі. «Ды бог з ёю, з ламачынай,— адмахнуўся ад майго клопату Алесь Сяргеевіч,— вось Махнача, браток, шкада, у яго вядро цяжкае, а ён жа, гаротнік, паранены...» Словы «гаротнік», «гаротніца» ад яго можна было пачуць часта. Багата хапіўшы на сваім вяку ліха, ён шкадаваў людзей і спачуваў ім. Мог тут жа купіць у старой

каля крамы ці ў падземным пераходзе сціплы букецік простых кветак альбо ягад не першай свежасці. Пасля горка ўздыхаў: «Як тут не купіш... Шкада гаротніцу!..»

Яго дачка Таццяна расказвала, як аднаго разу яны ўсёй сям'ёй выбраліся па маліны і як яна была глыбока ўражана, убачыўшы, што бацька высыпае слоік толькі што назбіраных малін не ў матчына вядро, а ў бітончык незнаёмай кабеты.

Увечары на сямейным судзе паэт чыстасардэчна прызнаўся: «Нас жа ажно трое, а яна адна, гаротніца...»

Ён быў разлічаны на доўгі век і збіраўся жыць доўга. Да апошняга дня працаваў над гімнам для нашай незалежнай краіны, з нецярпеннем і трывогай чакаў новай кніжкі ў серыі «Бібліятэка паэта», якая, на жаль, ужо выйдзе без яго. Без яго ўслаўленыя ім беларусачкі будуць чытаць нядаўна напісаную «Баладу пра сцяг», без яго будуць вяртацца з выраю апетыя ім жураўлі і кожным сваім прылётам будуць нагадваць шчымлівы запавет паэта: «...любіць Беларусь нашу мілую».

## НЕ ТОЛЬКІ ПРА ДОЖДЖ

— Спадар Алесь, ці будзе сёння дождж? — часам пытаецца ў мяне самы малады сябра нашага Саюза, заўсёды ветлівы Алесь Пашкевіч.

Некалькі разоў я сумленна, не заўважаючы нічога дзіўнага ў гэтым пытанні, выказваў свае думкі пра надвор'е. Ён шчыра дзякаваў, і мы разыходзіліся, як мне здавалася, задаволеныя: ён — маім тлумачэннем, а я — ягонай ветлівасцю. Але аднойчы я не вытрымаў:

— Слухай, браце, чаго ты прычапіўся да мяне з гэтым дажджом? Я што: бюро прагнозаў?

— Як чаго? — здзівіўся мой малады калега.— У тваёй жа «Планідзе» сказана, што ты «перакладчык з мовы дажджу на родную мову»...

Мне нічога не заставалася, як падзякаваць Алесю за цікавасць да маёй творчасці, але вечарам, калі

патэлефанаваў Валодзя Ягоўдзік і пацікавіўся, ці ідзе ў нашым раёне дождж, я насцярожыўся і міжволі згадаў Цютчава: «Нам не дано предугадать, как слово наше отзовется».

## ХАДА Ў КОЖНАГА СВАЯ

*З перадуманага*

ВЫРАЗ «ІСЦІ Ў НАГУ З ЧАСАМ» у дачыненні да паэзіі [redacted] заўсёды лічыў і лічу вульгарным, больш таго, абсурдным штампам, які сябе цалкам скампраметаваў.

Да таго ж «ісці ў нагу» — гэта значыць ісці так, як ідуць усе, а паэт цікавы толькі ў тым выпадку, калі ў яго ёсць свая хада. Гэта — аксіёма. На жаль, нас дужа доўга вучылі хадзіць строем, спяваць хорам. Ці не таму тое, што раней хорам услаўлялася, сёння хорам і развенчваецца? Ці не таму так багата вершаванай прадукцыі на старонках нашай перыёдыкі хутчэй з'яўляецца фактам калектыўнага прасвятлення, чым паэзіі?

ПАНЯЦЦЕ «ЧЫСТАЙ КРАСЫ»... Прынцып «мастацтва дзеля мастацтва» доўгі час трактаваўся вульгарна — з чыста сацыялагічных пазіцый. І ў выніку Цютчаў, паводле школьных падручнікаў, хадзіў (а можа, і ходзіць) у апалагетах «чистого искусства». Вечныя пытанні (жыццё і смерць, каханне і г. д.) заўсёды былі і будуць аб'ектам паэзіі. Урэшце, гэта і складае прыроду праўдзівай лірыкі, а яна, як вядома, стварае і развівае характар, непасрэдна звязаны з унутраным светам і духоўным жыццём аўтара. Так што ў любым выпадку мы маем справу з Чалавекам.

Творчасць значных паэтаў цяжка ўпісаць у нейкую пэўную схему (крытыка любіць гэта рабіць), бо яна звычайна шырэй прыдуманых схем і лёгка разбурае іх. Прыклад таму наш Максім Багдановіч, той жа Цютчаў.

НАТХНЕННЕ — ГЭТА ЗАГАДКА. І гэтае пытанне цікава было б адрасаваць вялікім, якія і сталі вялікімі, спазнаўшы творчае азарэнне.

Я не належу да прыхільнікаў прынцыпу «ні дня без радка» і адношу яго да таго ж разраду, што і «ў нагу з часам», бо глыбока пераканаsuccessfulны, што верш абавязкова павінен быць забяспечаны эмацыянальна. Ці не таму геніі згасалі без пары?

## ВОСЬ ТАБЕ І НАТ!

Адзін малады паэт папрасіў мяне прачытаць рукапіс зборніка. Вершы мне спадабаліся. Вяртаючы рукапіс, я ненавязліва заўважыў, што задужа часта ён ужывае кароткую форму слова **нават – нат**. Усё нат ды нат, нат ды нат...

– А што, нельга? – густа пачырванеў паэт.

– Можна, але не пажадана.

Праз колькі дзён пасля нашай гаворкі я выпадкова сустрэў паэта на стромістым беразе Іслачы. Побач з ім была мілая і абаяльная дзяўчына.

– Пазнаёмся – Наташа.

– А-а, ды вось адкуль нат! – пажартаваў я.

– А што, усё-такі нельга? – зноў пачырванеў паэт.

– Можна. І чым часцей – тым лепш.

## ЧЫМ КАІН ЗАБІЎ АВЕЛЯ?

Касцюковічы. 1974 год. Рэдакцыя раённай газеты «Сцяг камунізму».

– А ці ведаеш ты, Саша, як звалі Чычыкава? – хітра жмурачы вясёлае вока, дапытваецца ў мяне, дзесяцікласніка-вершаплёта, галоўны рэдактар Пётр Міхайлавіч Пабока.

– Павел Іванавіч,– з лёгкай душой адказваю я. Гогаля я люблю.

– Запомні,– пераходзіць на сур'ёзны тон усмешлівы рэдактар,– паэт павінен ведаць усё, каб быць з векам нароўні. Не ўсміхайся – усё! Інакш будзеш выдумляць веласіпед і каторы раз спальваць Галілея.

Бедны Галілей! Хто з паэтаў не паліў яго на кастрах інквізіцыі!

Пабоку я тады, канечне ж, не верыў: «Так ужо і ўсё!» Ды і як было паверыць, калі другая палова майго сшытка па алгебры была спрэс спісана вершамі ў гонар адной красуні з паралельнага класа. Настаўнік матэматыкі, наш наймілейшы і найдабрэйшы Пётр Яфімавіч, адчайна пісаў у тым сшытку чырвоным па белым: «Рашай хоць у класе!»

...Урок першага рэдактара мне востра згадаўся ў «Полымі», дзе я на працягу васьмі гадоў працаваў загадчыкам аддзела навукі і мастацтва. Я ўспомніў яго, ідучы на інтэрв'ю са славутым матэматыкам акадэмікам Мікалаем Паўлавічам Яругіным. (Ён, між іншым, рабіў разам з Сахаравым вадародную бомбу – рашаў задачу па балістыцы.) О Божа, як гаварыць з такім знакамітым чалавекам! Я ж нічагусенькі ў матэматыцы не петру!

Давялося грунтоўна засесці за энцыклапедыю і нават пагартаць часопіс «Дыферэнцыйныя ўраўненні», які тады выходзіў у Мінску пад рэдакцыяй шаноўнага акадэміка. Штудзіруючы адпаведныя артыкулы, я з сорамам і дакорам да сябе згадваў словы любімага саматэвіцкага настаўніка Аркадзя Куляшова Сцяпана Андрэевіча Брыльянтава. «О, вы проста не ведаеце, у Аркадзя былі выключныя здольнасці! Мне вельмі хацелася, каб ён стаў матэматыкам, а ён стаў паэтам!» – не то бедаваў, не то радаваўся стары інтэлігент.

Інтэрв'ю з Яругіным я ўсё-такі зрабіў. І самае парадаксальнае ў тым, што называлася яно «Матэматыка – гэта цікава». О, уяўляю, як бы здзекліва пасмяяўся з мяне наймілейшы і найдабрэйшы Пётр Яфімавіч!

А зусім нядаўна ў бліскучай рэцэнзіі аднаго свайго сабрата на новы зборнік харошай паэткі я са здзіўленнем зачапіўся за вершаваныя радкі, якія ўхвальна цытуе захоплены рэцэнзент:

Мне чуўся шэпт асіны і бярозы,
Язміну водар абдымаў, п'яніў.
Насіліся пялёсткі, як стракозы,
Над Іслаччу,
дзе стогадовы дзіў
Фарэль і стронгу вудачкай лавіў...

Фарэль і стронга? Дык гэта ж тое самае! Фарэль — гэта расійскае, а стронга — нашае, беларускае. Дробязь, канечне. Але адразу відаць, што рэцэнзент не рыбак. І не чытаў ні Аксакава, ні Сабанеева, ні Ягоўдзіка — аўтара беларускай «Стронгі». Водзіцца гэтая загадкавая асцярожная рыба і ў нашай крынічнай Ісачы.

А літаральна днямі я яшчэ раз пераканаўся, што паэт павінен быць з векам нароўні і што «спорить с Пушкиным не надо». У вершы пра Каіна і Авеля я напісаў:

Ох, і лёгкі ж у Каіна нож,
Ох, і цяжкі ж у Каіна грэх!

Скажу па шчырасці, толькі народжаныя радкі спадабаліся, але назаўтра, астыўшы, я засумняваўся: чаму менавіта нож, а, скажам, не камень? У сваёй бібліятэцы я перарыў усю літаратуру на біблейскую тэму, «дастаў» сваіх хатніх і сяброў: «Чым Каін забіў Авеля?»

Не адказаў ніхто.

Выручыў, як заўсёды, празаік, драматург і энцыклапедыст Валодзя Бутрамееў выратавальным званком з Масквы.

— Слухай, чым Каін забіў Авеля? — выпаліў я, зняўшы трубку.

— А ў цябе што?

— Нож.

— Малайчына,— зайшоўся смехам маскоўскі сябра,— адкуль жа гэта ў сына Адама і Евы ўзяўся нож? Перапішы.

— Лёгка сказаць... Рыфма, рытм...

— Нічога, перапішаш! Акурат учора я глядзеў унікальныя ілюстрацыі да Бібліі. Дык вось: Авеля Каін забіў на полі, калі той араў зямлю, аслінай скiвіцай. Скі-ві-цай...

Верш я перапісаў. І, на жаль, не лепшым чынам.

# ПІСЬМЯНКОЎ ЛУГ

«У час цяжкі, у момант паваротны свайго жыцця» — ўсё часцей вяртаюся ў шчаслівае маленства. Мае думкі і ўспаміны там, дзе нясуць свае светлыя воды мае любімыя Бесядзь, Зубар і Сураў, «дзе трымаюць зямлю на карэннях сваіх сасна і бяроза», там, дзе некалі разам са мною радаваліся і журыліся, смяяліся і плакалі Бялынкавічы, Белы Камень, Мізырычы, Канічы, Калодліва, Белая Дуброва... Божа мой, якія назвы! Што ні назоў, то яркі, непаўторны вобраз! Колькі ў іх глыбокага сэнсу і высокай паэзіі! І ад кожнай назвы вее таямнічай старажытнай славяншчынай. Любая з іх можа смела стаць загалоўкам верша, паэмы, рамана. Зрэшты, я так і зрабіў, назваўшы сваю першую кніжку «Белы Камень». У мяне было два варыянты, і я доўга вагаўся: «Падкова ў расе» ці «Белы Камень»? Прыдуманы мной гордзіеў вузел адным рашучым і ўладным махам рассек адмірал ад паэзіі Анатоль Сцяпанавіч Вялюгін: «Толькі «Белы Камень»! Філолаг, успомні Максіма Багдановіча: «Дзень гэты,— так пісаў Катул,— я белым каменем адзначу...»

Можа, я і пішу нешта сваё толькі таму, што ў мяне былі і ёсць Белы Камень і Мізырычы на Зубары, Бялынкавічы на Бесядзі, Канічы на Сураве... Нездарма ж сам Аркадзь Смоліч заўважыў у сваёй славутай «Геаграфіі Беларусі», што Касцюкоўшчына «ляжыць над Бесяддзю ў прыгожай мясцовасці». Можа, дзякуючы акурат гэтай прыгажосці тут і з'явіліся на свет пісьменнікі Якуб Брайцаў, Аркадзь Куляшоў, Іван Чыгрынаў, Аляксей Русецкі, Масей Сяднёў, Васіль Хомчанка, Пятро Прыходзька, Леанід Левановіч, Сямён Пацёмкін, Міхась Губернатараў, Мікола Мельнікаў, выдатны мастак Антон Бархаткоў.

Такая ўжо тут, як любіў казаць мой незабыўны настаўнік літаратуры Аляксандр Іосіфавіч Нікіценка, генетыка зямлі.

А хіба не быў паэтам той, хто даў густому лясному масіву за вірлівым Зубарам дзіўную назву Штаны! Кажуць, што з самалёта гэты грыбны і ягадны лес сапраўды нагадвае дзве шырокія калашыны. Гэтая назва спрадвечная, і ўзнікла яна яшчэ

задоўга да самалётаў. А колькі досціпу і гумару ў назове бяздоннай азярынкі, якую нейкі весялун трапна назваў Чортавай Срачкай! А яшчэ ж ёсць Рафееў Беражок, Саўкіна Лужа, Вербачка, Гамарня, Сіні Вір...

Гэтым спякотным летам, вудзячы рыбу каля Вербачкі, я сустрэў двух цыбатых хлапчукоў, выгаралых на сонцы аж да саламянасці, якія горда неслі па вяслу ладных акунёў і плотак. На пытанне, дзе гэтак добра ловіцца, хлопчыкі дружна і зычліва параілі: «Ідзіце на Пісьмянкоў Луг».

Пісьмянкоў Луг... Эх, як шкада, што гэта ніколі ўжо не пачуюць мае бацька і маці. Гэта яны, паліваючы потам зямлю, расчысцілі і зраўнялі заваслае непралазным хмызняком месца над Зубарам і ператварылі ў прыгожы раздольны луг.

Сёлета першае лета там не звінелі нашыя з братам косы.

## ПРАЗУ́КАВАТЫ

Прыснілася слова. Напаўзабытае, чутае ў далёкім дзяцінстве: празу́каваты. Спрасонку хацеў па звычцы патэлефанаваць маме, удакладніць сэнс, спытаць, ці правільна яго разумею і як яно гучыць у кантэксце, але балюча ўспомніў, што мамы ў мяне ўжо няма.

У пяцітомнік Тлумачальны слоўнік беларускай мовы нават не зазірнуў — марная справа. З надзеяй разгарнуў нашага беларускага Даля — слоўнік Івана Іванавіча Насовіча. Ёсць! Не можа не быць: слаўны лексікограф нарадзіўся на Быхаўшчыне, амаль усё жыццё пражыў у Мсціславе, дарэчы, там і пахаваны. І, вядома ж, складаючы свой «Словарь бѣлорусскаго нарѣчія», апіраўся ў першую чаргу на лексіку, як мы сёння кажам, малой радзімы — усходняй Магілёўшчыны.

Дык што ж усё-такі азначае гэтае незвычайнае слова «празукаваты»? На старонцы 523 чытаю: «Прозу́коватый, прил. Разумный, смѣтливый, сообразительный. Прозуковатый хлопецъ. Прозуковатое дзиця, усё знаець, якъ старый».

Першым, каго сустрэў на лімаўскім калідоры, быў стыхійны лексікограф Алесь Гаўрон. Паводле Насовіча, абсалютна «празукаваты».

— Алесь, як ты разумееш выраз празукаваты хлопец?

— Чакай, чакай,— задумаўся на імгненне стыхійны лексікограф і тут жа прасвятлеў тварам,— слухай, дык гэта ж сённяшні прасунуты ці як кажуць расіяне, продвинутый. Дзе ўзяў?

— «Дзе ўзяў, дзе ўзяў»... У Насовіча.

— О, Насовіч! — паважліва прагудзеў Гаўрон.

Так, Насовіч. Нездарма ж Расійская Акадэмія навук ацаніла слоўнік «як працу надзвычай важную» і ўганаравала палавінай Дзямідаўскай прэміі (714 рублёў). За царскім часам гэта былі вялікія грошы. Цары, як бачыце, цанілі інтэлект! Высока слоўнік Івана Іванавіча Насовіча цанілі і тагачасныя інтэлектуалы. Вось што пісаў Максім Горкі ў 1910 годзе ў рэдакцыю газеты «Наша Ніва»: «Вельмі прашу вас: вышліце мне — калі гэта вам не будзе надта турботным — слоўнік Насовіча...»

Цытую класіка толькі дзеля таго, каб яшчэ раз сказаць некаторым нашым прасунутым, выбачайце, празукаватым ахвотнікам пазычацца ў заходніх і ўсходніх суседзяў, што і мы не бедныя сваячкі.

## НАЙМАРНЕЙШАЯ МАРНАСЦЬ

Неяк напярэдадні Новага года, чысцячы па даўняй завядзёнцы шуфляды пісьмовага стала, натрапіў на калектыўны зборнік вершаў «Камуністы сыны камуністаў». Не ўтрымаўся — прачытаў. Не скажу, што знайшоў там узоры высокай паэзіі, але, далібог, скляпана няблага. Прафесійна. І ў асноўным шчыра — верылі людцы! Я і сам верыў, хоць ніколі не пісаў ні пра Леніна, ні пра партыю. І не таму, што не хацеў ці быў апазіцыйна настроены,— проста не ўмеў і ўжо, відаць, ніколі не навучуся пісаць «дацкіх» вершаў, нецікава. Дарэчы, аднэй з першых кніжак, прачытаных мной самастойна, была кніжка Бонч-Бруевіча «Апавяданні пра Ле-

ніна». Помніцца, мяне тады ўразілі не столькі самі апавяданні, хоць напісаны яны, як я сёння разумею, не без таленту, колькі ўразіла пачутае ад бацькі, які, здаецца, і купіў мне тую кніжачку: Бонч-Бруевічы паходзяць з вёскі Кулігаеўка. Ды ад нашых Бялынкавічаў да той Кулігаеўкі рукой падаць! Так сабе вёсачка...

І таму я не збіраюся нікога ні судзіць, ні апраўдваць, тым больш не збіраюся шукаць кампрамат на «песняроў перабудовы», як гэта любяць рабіць некаторыя мае калегі. Дый суддзі хто? У кожнага часу свае трубадуры. Зрэшты, паэты заўсёды альбо жабравалі, як Гамер, альбо кармiліся пры двары, як Дзяржавін. Праўда, далёка не ўсім удавалася «истину царям с улыбкой говорить».

Чытаючы зборнік, я думаў пра іншае. Міжволі ўспаміналася мудрае выслоўе з Эклезіяста: «Наймарнейшая марнасць, пустая марнасць — усё марнасць». І я ўсё больш і больш умацоўваўся ў сваім даўнім перакананні: паэт павінен думаць пра вечнае.

Маркотны одум перапыніў малодшы сын Лёшка, зайшоўшы ў мой пакойчык з кніжкай народных казак:

— Давай пачытаем, бацька.

— Лёша,— з прытоенай надзеяй звярнуўся я да малога,— ці ведаеш ты, хто такі Ленін?

— Ведаю,— сур'ёзна адказаў Лёшка,— Ленін — гэта я.

— Як гэта... ты?

— Бацька, як ты не разумееш: мая мама Лена, значыць, я — Ленін.

...Ну як тут не ўспомніць Эклезіяста?

## O, YES!

Калі я часам кажу некаторым сваім знаёмым, што Навум Гальпяровіч ведае дзвесце беларускіх народных песень, яны на мяне пазіраюць з недаверам: маўляў, давай, стары, залівай, ды знай меру...

Зрэшты, я іх разумею, дужа ўжо неяк не вяжацца: Навум і дзвесце беларускіх песень!

Аднаго разу ў вузкай і цёплай кампаніі адзін мой калега, пачуўшы разнастайны і змястоўны Навумаў рэпертуар, дык нават пакрыўдзіўся. Зрэшты, і яго я разумею таксама. Як гэта ён, паэт, патомны беларус, сын вёскі, да канца ніводнай песні не ведае, а Навум, бач ты, ведае ажно дзвесце!

— Ой, і хітраван жа гэты Навум,— казаў мне падчас адной з сустрэч «пакрыўджаны»,— спецыяльна вывучыў!

— Дык вывучы і ты! — параіў я.

— Выходзіць, што ён ведае нашае лепш, чым мы. Дзіўна неяк...

— А што тут дзіўнага: ён нарадзіўся і вырас тут, сярод нас. І ўвабраў у сябе тое ж, што і мы... Склаў жа датчанін Даль «Толковый словарь живого великорусского языка».

— Дык то ж Даль!..

— Ну, добра, а мой зямляк, магілёўскі яўрэй Павел Васільевіч Шэйн! У яго «Беларускіх народных песнях» сабрана больш за тысячу тэкстаў.

— Быццам ты не ведаеш, што ў Шэйна быў свой інтарэс! Шавініст твой Шэйн...

— ???

І яшчэ адзін выпадак.

Пару гадоў таму Беларусь наведаў Міжнародны літаратурны экспрэс «Еўропа — 2000». Дарэчы, бралі ў ім удзел і нашы пісьменнікі Вольга Іпатава, Леанід Дранько-Майсюк і Андрэй Федарэнка.

Было гэта якраз на Купалле. Вялікае свята паэзіі ў Вязынцы, на якое былі запрошаны і замежныя госці, закончылася гасцінным вясёлым застоллем у маладзечанскім Доме рамёстваў. Было там усё. Вядома, былі і песні. Саліраваў Навум. Падчас застолля я выйшаў пад летняе зорнае неба перакурыць з кіраўніком літэкспрэса — доктарам філалогіі Томасам Вольфрадам.

— Ну, як вам песні нашага калегі? — спытаўся я ў вядомага вучонага.

— О, yes,— задаволена шчоўкнуў пальцамі Томас,— о, yes!

## ЧЫСТЫ ГОЛАС

Ён пражыў да крыўднага мала. Усяго 25 гадоў. Але яго зорка таленту на небасхіле нашай паэзіі гарыць яркім святлом ужо каторае дзесяцігоддзе. Яна з тых зорак, што не гаснуць ніколі, з тых зорак, што вельмі патрэбны чалавецтву, каб не збіцца з дарогі, менавіта па іх мы вымяраем шлях, ідучы ў будучыню.

Нам хораша пад святлом зоркі Паўлюка Труса, бо яна гарыць не мігатліва-зваблівa, а ясна і полымна — так гарэла паходня ягонага сэрца.

Прырода багата дала ўзнёсламу юнаку з вёскі Нізок — яна надзяліла яго чулым сэрцам і непаўторна чыстым голасам. Такі голас у звонкіх і вячыстых беларускіх крыніц. І калі вам аднойчы пашчасціла пачуць яго, ён будзе звінець у вашым сэрцы аж да скону. Можа, якраз таму адразу і назаўсёды ўпадаюць яго спеўныя радкі ў рэчышчы чалавечай душы. Можа, дзякуючы гэтай асаблівасці таленту жыве ў маім сэрцы светлы і незабыўны ўспамін ад першага знаёмства з томікам яго вершаў і свеціць з цяпер ужо далёкага маленства. Халодны зімовы дзень. Не, не дзень, хутчэй адвячорак. Мароз ажно за дваццаць восем градусаў. З гэтай нагоды заняткі ў школе адменены. І я шчаслівы наіўнай дзіцячай радасцю — можна цэлы дзень чытаць тое, што хочаш. У хаце паўзмрок. Добра было б шчоўкнуць выключальнікам і запаліць святло, але навошта — лепей адчыніць дзверы грубкі, дзе весела патрэскваюць бярозавыя дровы, прысесці на кукішкі, разгарнуць кніжку і чытаць, чытаць, час ад часу пазіраючы на чырвоны язык агню...

З вокладкі томіка на мяне глядзіць прыгожы юнак. У яго адкрыты круглявы твар, пышныя кучаравыя валасы. Ужо само аблічча гаворыць пра тое, што гэта паэт, што чалавек ён незвычайны. Хіба звычайны чалавек здолее сказаць вось такое:

Падаюць сняжынкі —
дыяменты-росы,
Падаюць бялюткі
за маім акном.

Расчасалі вішні
шоўкавыя косы
І ўранілі долу
снегавы вянок.

Тут усё надзіва простае, усё такое роднае, мілае сэрцу з першых дзён існавання, але якая ўрачыстасць, якая светлая музыка! Яна зачароўвае шчырасцю, заварожвае даверлівасцю інтанацыі, уздымае на сваіх нябачных крылах і нясе па-над грэшнай зямлёй. Мне здаецца, што ўбачыць вось так можна толькі з вышыні... І я міжволі ледзь чутна паўтараю ўслед за паэтам: «Падаюць сняжынкі...» Гэта ўжо затым, пазней прыходзіць разуменне, што такое не прыдумаеш, што такое павінна выбалець.

Цікава, што гэтыя самыя радкі ўспрымаліся заўсёды па-рознаму ў залежнасці ад жыццёвых абставін. Калі ад першай сустрэчы ў душы засталіся здзіўленне і ціхая радасць, то на вышыні дзевятага паверха для мяне, учарашняга школьніка, упершыню адарванага ад роднай глебы, ад звыклага свету вёскі, яны гучалі як шчымлівы гімн Радзіме:

Дзесьці у прасторах
празвінелі бомы.
Дацвілі пялёсткі
нечае тугі...

І здаецца зноўку —
еду я дадому
Пераведаць родных,
блізкіх, дарагіх.

У такія хвіліны здавалася, што рытм верша супадае з рытмам сэрца.

І яшчэ адна згадка. Старажытны Канеў. Пагодны асенні дзень. Золата наскрозь прасвечанае сонцам. Высокі, без адзінай хмурынкі, блакіт неба. І ад яго такі ж блакітны задумна-вячысты Днястро. Мы стаім на Тарасавай гары, здзіўленыя велічнасцю і прыгажосцю. Помніцца, так мы пазнаёміліся з маладзенькай настаўніцай з Палтаўшчыны Аксанай Апрышкай. Пачуўшы нашу гамонку, яна ўзрадавалася, як дзіця: «Ой, дык вы з Беларусі?!» І ўжо затым, пасля знаёмства: «Я так люблю вашу мову! Яна такая пяшчотная, такая спеўная! А які гарны паэт Паўлюк

Трус!» І Аксана на адным дыханні, трошкі хвалюючыся, з сімпатычна-мяккім акцэнтам прачытала ўступ да паэмы «Дзесяты падмурак». І мне было больш чым прыемна: да даўняй радасці далучыліся ўдзячнасць і гордасць.

Гэта было глыбока сімвалічна: каля магілы вялікага Кабзара гучала слова Паўлюка Труса. Бо, як сведчаць сучаснікі, «Кабзар» Тараса Шаўчэнкі быў для паэта больш як настольная кніга. І гэта зразумела: П. Трус, як і Т. Шаўчэнка, у многім ішоў ад матчынай песні, ад яе паэтыкі, ад шматвяковай і мудрай школы народнай творчасці, якая так багата дае кожнаму, хто мае гарачае сэрца і чысты голас.

Чытаючы П. Труса, нельга не здзівіцца, як арганічна ў яго спалучаюцца шырокае песеннае дыханне і строгасць класічнай формы, як цесна пераплецена лірычнае і публіцыстычнае. І пры гэтым дыханне яго верша застаецца свабодным і нязмушаным, інтанацыйна-рытмічны малюнак — музычным і лёгкім, да віртуознасці тонкім:

Сяджу адзін…
      А на стальніцы
Букет юнацтва
      з веаргінь.
І просіць сэрца
      навальніцы —
Сімфоній радасці
      й тугі.

Адчуваецца, што паэт шмат працаваў над сваім талентам. У гэтым ён быў падобны на свайго старэйшага сабрата па пяру вялікага Максіма Багдановіча, у якога плённа вучыўся паэтычнаму майстэрству. Аб гэтым яскрава гавораць яго санеты і трыялеты і асабліва верш «Памяці Максіма Багдановіча». Верш у першай ступені прарочы… Яго нельга чытаць без хвалявання, без думкі пра трагічнае падабенства лёсаў абодвух паэтаў.

Яму было ўсяго дваццаць пяць. Ён быў жыццялюб і рамантык. Пясняр маладой рэспублікі. Паэт з яркім грамадзянскім тэмпераментам. І яшчэ ён умеў бясконца здзіўляцца, умеў радавацца жыццю. Памятаеце?

— Добры дзень, аснежныя прасторы,
добры дзень, сталіца хараства!
Скора ў бляску вечара, ой, скора
празвініць на вуліцах трамвай.

Сёння гэтыя трохі наіўныя радкі ўспрымаюцца не толькі як светлы, мажорны верш, але і як дакумент эпохі, поўны веры ў жыватворную сілу народа, які ўпершыню стаў «людзьмі звацца».

«Мы прыходзім у свет, каб уславіць яго»,— горача пісаў П. Трус у адным са сваіх твораў. У гэтых афарыстычных радках своеасаблівая эстэтычная праграма паэта. Ей Паўлюк Трус застаўся верны да канца.

Вы чуеце, як чыста звініць яго Слова?
Звініць праз гады.
Такі голас у звонкіх беларускіх крыніц.

## ЧАЛАВЕК ЖЫВЕ, ПАКУЛЬ ЁСЦЬ У ІМ ДУША

Даўно вядома, што пісьменнік сам творыць сваё жыццё і свой свет, свет, якога, між іншым, да яго яшчэ не было. І калі гэты свет створаны таленавіта, ён становіцца рэальнасцю. У ім свеціць сонца, ідзе дождж, спяваюць птушкі, гамоняць людзі... Словам, усё ідзе спрадвечным ладам. І калі меў шчасце ўвайсці ў гэты свет, то ён міжвольна становіцца тваім, і ты ўжо адчуваеш яго амаль фізічна, і персанажы, народжаныя фантазіяй майстра, успрымаюцца як даўнія знаёмыя, з якімі, здаецца, ты жыў заўсёды.

Пра ўсё гэта мне ўдзячна і радасна падумалася, калі перагортваў знаёмыя старонкі двухтомніка выбраных твораў выдатнага празаіка Анатоля Кудраўца, які вось ужо больш за трыццаць гадоў стварае свой мастацкі свет. Стварае праўдзіва, па-беларуску грунтоўна і непаспешліва, як і належыць руплівому нашчадку колішніх сейбітаў. Але, нягледзячы на гэтую непаспешлівасць, набытак у Анатоля Паўлавіча багаты. Сёння нашу літаратуру немагчыма ўявіць

без яго глыбокіх псіхалагічных апавяданняў, такіх, як «Жулік», «Марута і Зіна», «Дзень перад святам», «Жанчыны», без шчымліва-трывожных аповесцей «Раданіца» і «Двое за нізкім столікам» і, зразумела, без вядомага рамана «Сачыненне на вольную тэму» з ягоным незабыўным героем Ігнатам Сцяпанавічам Вапшчэткі.

Думаецца, я нікольκі не перабольшу, калі скажу, што Кудраўцоў Вапшчэткі адзін з самых яркіх і запамінальных вобразаў, створаных нашай прозай у апошнія дзесяцігоддзі. Ігнат Сцяпанавіч увабраў у сябе лепшыя рысы, якімі Бог і прырода надзялілі наш народ. Мяркуйце самі: дбайны і кемлівы гаспадар, з тых, пра каго гавораць «залатыя рукі», чалавек, улюбёны ў сваю зямлю і ўсё жывое на ёй, і характар у яго, як некалі трапна заўважыў у сваёй «Геаграфіі...» слынны вучоны Аркадзь Смоліч, «паважны, спакойны і рахманы, з добра развітаю воляй, панаваннем над сабою і вытрываласцю ў працы». І хоць лёс яго не песціў і ліха ён хапануў, як кажуць, пад самую завязку і на вайне і пасля вайны, аднак прыроднай дабраты і спагадлівасці не страціў. Да таго ж, і гэта самае істотнае, Ігнат Сцяпанавіч сапраўдны мудрэц, які на ўсякую з'яву жыцця мае свой цвярозы і памяркоўны погляд. А якая смачная ягоная мова, які дасціпны і трапны гумар! І ўся гэтая мудрасць у яго ад роднай зямлі, ад бацькоў, дзядоў ды прадзедаў. Ці не таму з першых старонак рамана мы ўспрымаем Вапшчэткі як даўняга і добрага знаёмца?.. І гэта абсалютна натуральна: Анатолю Кудраўцу ўдалося стварыць глыбокі псіхалагічны партрэт нашага сучасніка, тыповага беларуса-вяскоўца другой паловы XX стагоддзя — носьбіта і шчырага абаронцы нашай спрадвечнай маралі, нашай духоўнасці.

Глыбока сімвалічна тое, што Вапшчэткі не адзін — увесь час з ім яго малады сябар, удумлівы вучань і паслядоўнік Валера, які пераканаы, што «чалавек жыве, пакуль ёсць у ім душа. А варта толькі пасварыцца з душой, як яна пакідае цела, і чалавек памірае...»

Героям Анатоля Кудраўца наканаваны доўгі век — яны ўмеюць ладзіць з душой. Яна ў іх, нягле-

дзячы на трагізм нашага часу, застаецца чыстай і цнатлівай.

«Зразумей,— пісаў у лісце да сябра Уолт Уітмен,— што ў тваіх творах не можа быць аніводнай рысы, якой не было б у табе самім... Удасканальвай сваё духоўнае жыццё, і ты ўдасканаліш свой стыль».

Імкненне да дасканаласці — адна з асноўных рыс Анатоля Кудраўца, чалавека і пісьменніка, пра што пераканаўча сведчыць уся ягоная творчасць. Сярод мноства афарызмаў у любімага героя Кудраўца Ігната Сцяпанавіча Вапшчэткі ёсць і такі: «У гісторыю ўсе ідуць пеша, і яна сама выбірае сабе палюбоўнікаў».

Не ведаю, як наконт гісторыі, а літаратура ў сваім выбары не памылілася.

## ЗАБЫТЫ БРАЙЦАЎ

Упершыню пра Якуба Брайцава я пачуў ад свайго настаўніка Аляксандра Іосіфавіча Нікіценкі. Неяк, прыехаўшы да бацькоў, я завітаў і ў яго гасцінную хату. Пагаварыць з ім заўсёды было цікава. Філолаг ад Бога, ён да канца сваіх дзён жыва цікавіўся літаратурай. У маладыя гады падчас вучобы ў Смаленску Нікіценка і сам спрабаваў пісаць, быў добра знаёмы з маладым Аляксандрам Твардоўскім. Памятаю, як ён, заўсёды ўраўнаважаны і знешне спакойны, акуратны да педантычнасці, аднойчы зімовым ранкам спазніўся на ўрок. Мы адразу адчулі, што ён вельмі ўсхваляваны і нечым прыгнечаны. Такім нашага настаўніка мы яшчэ не бачылі. Ён уважліва паглядзеў на нас з-пад акуляраў сумнымі і, як мне здалося, крыху вільготнымі вачыма і сказаў дрыготкім голасам: «Сёння ў нас вялікае гора — памёр Аляксандр Трыфанавіч Твардоўскі!» І да канца ўрока, адступіўшы ад праграмы, чытаў вершы любімага паэта...

У той летні вечар мы заседзеліся ажно да трэціх пеўняў. Мой настаўнік шчодра частаваў мяне мёдам — ён быў выдатны пчаляр — і з захапленнем

гаварыў пра літаратурную карту Прыбесяддзя. І я цалкам падзяляў ягонае захапленне. Ды і як не захапляцца! Мяркуйце самі: у Саматэвічах нарадзіўся Аркадзь Куляшоў, у Вялікім Бары — Іван Чыгрынаў, у Студзянцы — Аляксей Русецкі, у Мокрым — Масей Сяднёў, у Клеявічах — Леанід Левановіч, у Шарэйках — Міхась Губернатараў, у Альшове — Пятро Прыходзька, у Высокім Барку (няхай сабе і Краснапольшчына, але ж рукой падаць!) — Аляксей Пысін...

Адносна гэткай ураджайнасці на літаратурныя таленты ў Аляксандра Іосіфавіча была свая тэорыя, і ён з задавальненнем цытаваў «Геаграфію...» Смоліча: «Касцюковічы ляжаць у найпрыгажэйшай мясцовасці па-над Бесяддзю».

— Так, зямля наша бедная, як кажуць, пясочак ды пясочак, але ж прыгажосць, прыгажосць якая! Яна не магла не разбудзіць чулае сэрца. Будзіла і будзе, павер, будзе будзіць! — горача пераконваў стары апантаны філолаг. Хоць пераконваць мяне ў гэтым не было ніякай патрэбы — перакананы ім і ахрышчаны ў ягоную веру я быў даўно, яшчэ з таго незапланаванага ўрока літаратуры, калі ён чытаў Твардоўскага.

— Слухай, усіх я, здаецца, памянуў, а свайго найбліжэйшага земляка забыў, Якуба Брайцава забыў... Гэта ж ты хлопец бялынкавіцкі, а мы з ім — забялышанскія! — скаламбурыў настаўнік. І тут жа дапытліва паглядзеў мне ў вочы.— А што ты ведаеш пра Брайцава? — І мне давялося густа пачырванець, як некалі чырванеў на ягоных уроках,— пра Брайцава я не ведаў нічога.

— Забылі Брайцава,— сумна ўздыхнуў Нікіценка,— зусім забылі, а шкада: прыгожы быў чалавек.

Тым вечарам, а дакладней той ноччу мы дамовіліся, што ў наступны мой прыезд абавязкова з'ездзім на Хоцімшчыну ў ягоны Забялышын. На вялікі жаль, наступным летам ехаць у Забялышын мне давялося аднаму. Ехаў я пакланіцца адразу дзвюм магілам: майго незабыўнага настаўніка і забытага Брайцава.

* * *

Прызнаюся, што, задумаўшы напісаць пра свайго забытага земляка, я загарэўся жаданнем хутчэй вывучыць яго біяграфію і нават тое-сёе занатаваў з успамінаў забялышанскіх старажылаў. Трэба сказаць, што гэтыя згадкі, як і ўвогуле большасць успамінаў, носяць напаўлегендарны характар. Што ж, відаць, такая спецыфіка гэтага жанру. Натуральна, як усякі даследчык, я падаўся ў архіў. Не буду казаць, што [redacted] з'явіўся першаадкрывальнікам: да творчасці Якуба Брайцава ўжо не раз звярталіся даследчыкі, пра што сведчыць грунтоўны артыкул Генадзя Кісялёва ў біябібліяграфічным даведніку «Беларускія пісьменнікі». Дарэчы, у свой час Яўхім Карскі ягоную аповесць з беларускага жыцця «Богачи» назваў таленавітым творам, а Максім Гарэцкі палічыў патрэбным урывак з яе ўключыць у сваю «Хрэстаматыю беларускае літаратуры», нягледзячы на тое, што напісана аповесць па-руску. І ў гэтым няма нічога дзіўнага. Ва ўсім, што рабіў аўтар першай гісторыі нашай літаратуры, быў глыбокі сэнс. Вось як ацэньваў той час і тую сітуацыю, што склалася ў парэформеннай Беларусі, сам Гарэцкі: «У канцы 80-х гадоў 19-га веку з'явілася прыкметнае ажыўленне беларускай думкі. З аднаго боку, пісьменнікі з каталіцка-панскай сферы, як Тапчэўскі, Абуховіч, А. Ельскі і інш., чуючы, як патроху слабне мёртвая пятля, накінутая Мураўёвым, пачалі, хоць рукапісным спосабам, дый болей і болей урабляць беларускі грунт, створаны Марцінкевічам, і рыхтаваць яго для натуральнай перадачы ў рукі людзей зусім новай школы. З другога боку, і маскоўскія пісьменнікі, родам беларусы, прыйшлі на сваю ніву і сталі рабіць тое, што ўжо даўно рабілі польскія пісьменнікі – родам беларусы: яны сталі працаваць над беларусазнаўствам і, між іншым, сваёй этнаграфічнай, філалагічнай, гістарычнай і падобнай работаю тварыць збіральны час у гісторыі роднай літаратуры. Сталі з'яўляцца паважныя апісанні беларускага быту і ў маскоўскай народніцкай белетрыстыцы, як, да прыкладу, «Багачы» Брайцава, аповесць з беларускага народнага жыцця (1889 г.)».

Дык вось, на думку М. Гарэцкага, Якуб Брайцаў належаў да тых пісьменнікаў, якія тварылі збіральны час і тым самым рыхтавалі грунт для беларускага Адраджэння. Зразумела, што па сваім сацыяльным паходжанні Брайцаў быў далёкі ад каталіцка-панскай сферы, і ў тым, што ён пісаў на расійскай мове, немалое значэнне мела геаграфія: нарадзіўся Якуб Раманавіч на самым усходзе Магілёўшчыны, як і сам Гарэцкі, і пісаць свае першыя творы пачаў пад уплывам рускай народніцкай літаратуры. І, вядома ж, на рускай мове. Словам, другога выйсця для творчай самарэалізацыі ў мужыцкага сына Якуба Брайцава не было. І не толькі ў Брайцава. У гэтым плане ёсць вельмі цікавы верш у Васіля Зуёнка:

Раздарыла сыноў сваіх...
Дастаеўскі, Міцкевіч, Біруля...
З імі голас, і зрок, і слых
Аддавала ў людзі матуля...
Раскідала зярняты свае...
Слыў чылійцам вучоным Дамейка.
Дзе, якія гнёзды віе
Аж за трыдзевяць мораў зямелька?..
Нібы крык — авансцэны абрыў...
І каб маці ўтрапёна маўчала —
Гэтак голасна ў свет гаварыў
Шверубовіч з Вільні — Качалаў.
Хтосьці зблізку забыў... Хто здалёк...
І аднойчы маці сказала:
— Ты збяры, прысаром іх, сынок,—
І тады ў людзі выйшаў Купала.

У 1889 годзе да Купалы было яшчэ далёка — сыну Дамініка Луцэвіча Януку было ўсяго толькі сем гадоў, а да Багушэвічавай «Дудкі беларускай» трэба было жыць яшчэ тры гады.

Так, Якуб Брайцаў пісаў па-руску, але пісаў на беларускім матэрыяле. І гэты матэрыял ведаў даскана ла. Ён першым у літаратуры паказаў нялёгкае жыццё ўсходнебеларускай парэформеннай вёскі і стварыў яркія тыпы яе прадстаўнікоў. Чытаючы ягоныя творы, штораз спатыкаешся на такія наскія слоўцы, як *бульба, ланцуг, крупеня, сведка, туга,* з асалодай смакуеш знаёмыя з маленства дыялектызмы *ратуйце, бацюхна, несломак, людечки.* А беларускімі прыказкамі і прыслоўямі шчодра перасыпана мова яго

героя̆ў: *«Коли не подъеси, то и святых продаси», «Ни с тиха ни с лиха»...*

Словам, ні зблізку, ні здалёк, у адрозненне ад блудных дзяцей Беларусі, Якуб Брайцаў не забываў, хто ён і адкуль ён. Пісьменнік заўсёды быў верным сынам сваёй зямлі, і яна шчодра сілкавала яго самабытны талент.

Архіў Брайцава – яго ў ЦДАМЛіМ перадаў знакаміты вучоны, прафесар Маскоўскага медінстытута, сын пісьменніка Васіль Якубавіч Брайцаў – уразіў сваім багаццем. Сярод мноства унікальных дакументаў мне трапілася найцікавейшае даследаванне вядомага ў свой час гісторыка Ф. Н. Дамінікоўскага «Белоруссия в произведениях Я. Р. Брайцава». Дарэчы, на аснове яго ў 1947 годзе ў трэцім нумары часопіса «Беларусь» Дамінікоўскі змясціў артыкул «Пісьменнік старой Беларусі». Азнаёміўшыся з ім, я вырашыў, што мне не варта зноўку вынаходзіць веласіпед. Паасобныя моманты гэтага даволі грунтоўнага (праўда, не без налёту тагачаснай сацыялогіі) даследавання, напісанага вопытнай рукой прафесіянала, думаецца, будуць цікавыя і нашаму чытачу:

«Скончыўшы пачатковую школу ў родным сяле і потым павятовае вучылішча ў Клімавічах, Брайцаў нейкі час працаваў у якасці памочніка пісара Забялышанскага павятовага ўпраўлення. Калі яму было 18 год, ён паехаў на Украіну на заробкі ў Трасцянец-Падольскі і там працаваў канторшчыкам на цукраварні памешчыка Цярэшчанкі. У Трасцянцы Брайцаў напісаў першае сваё апавяданне «Печать Каина», або «Дудалева лоза» (1884 год).

Праз два гады Брайцаў вярнуўся ў сваё сяло на прызыў у салдаты, але як старэйшы сын быў вызвалены ад службы. У хуткім часе па ўласнай ініцыятыве і наперакор бацьку ён паехаў шукаць шчасця ў Маскву. Паехаў разам з нявестай – фельчарыцай мясцовай бальніцы. У дарозе, на паштовай станцыі Звянчатка (зараз у Клімавіцкім раёне на шашы Крычаў—Рослаў), адбылося іхняе вяселле.

У Маскве Брайцаў пачаў працаваць у канторы вядомага купца-кветкавода Ф. Ф. Ноева і ў хуткім часе

атрымаў пасаду бухгалтара. Адначасова ён узмоцнена вывучае рускую мастацкую літаратуру, займаецца і піша вялікую аповесць «Богачи» (повесть из белорусской простонародной жизни), якая выйшла з друку ў 1889 годзе.

Адначасова Брайцаў піша шэраг іншых аповесцей: «Невдашечка Анюта» (1887 г.), у назве якой, каб адзначыць мясцовы каларыт, ужывае беларускае слова замест звычайнага рускага «неудачница», «Старая деревня» і другія, якія апісваюць побыт і тыпы роднага сяла і павятовага горада Клімавічы ў 1870-х гадах.

Набыўшы грошы праз службу і выданне «Богачей», Якуб Раманавіч аказваў матэрыяльную дапамогу сваім братам, якіх выпісаў з глухога кутка Беларусі і даў ім вышэйшую адукацыю.

Дзейнасць бухгалтара яго не задавальняла. Ён пазнаёміўся з рускімі пісьменнікамі, наведаў Льва Талстога, які зрабіў пэўны ўплыў на фарміраванне яго філасофскага светапогляду. Разам з гэтым пісьменнік пачаў вывучаць кветкаводства, потым зрабіўся адвакатам і, нарэшце, рашыў адчыніць уласны кветкавы магазін. Аднак ён хутка прагарэў, страціў усе матэрыяльныя сродкі, сабраныя за доўгі час. У гэтыя гады памёр яго бацька, і пісьменнік у 1890 годзе паехаў на радзіму, у Забялышын.

...Якуб Раманавіч зрабіўся хадатаем за бяздольных бедакоў. Больш папулярнага чалавека не было ва ўсім Клімавіцкім павеце. Пасля 1917 года ён працуе спачатку сакратаром Забялышанскага валаснога, потым — Клімавіцкага павятовага выканкомаў і нарэшце займае пасаду павятовага пракурора...

У 1925—1926 гг. Якуб Раманавіч зноў пачаў займацца літаратурнай працай. Ён напісаў аповесць «Хозяин», друкаваў артыкулы ў «Крестьянской газете» і нават вершы. Быў прыняты ў члены Усерасійскага Саюза сялянскіх пісьменнікаў. Пісьменнік памёр у 1931 годзе ў Забялышанскай бальніцы і быў пахаваны на вясковых могілках сярод сваіх аднавяскоўцаў, тыпы якіх выводзіў у сваіх творах».

* * *

Магілу Брайцава я знайшоў даволі хутка і з гэтай прычыны нават трохі расчараваўся. Дарогай я ўяўляў, як буду доўга блукаць па старым забялышанскім кладзішчы, прадзірацца праз густы калючы малiннік, перамагаючы спакусу паласавацца спелымі ягадамі, распытваць пажылых забялышанцаў і ўдосталь смакаваць родную ўсходнемагілёўскую гаворку. А ў сапраўднасці ўсё аказалася больш проста і празаічна. Варта было прайсці колькі крокаў ад магілы майго настаўніка, як я амаль адразу наткнуўся на акуратны, з густам зроблены помнік. Як толькі зірнуў на барэльеф, у памяці тут жа ўсплылі словы Нікіценкі: «Прыгожы быў чалавек...»

Прыгожым чалавекам застаўся Якуб Раманавіч і ва ўспамінах аднавяскоўцаў. Валянціна Аркадзьеўна Шаршнёва і Іван Ільіч Зонтаў ахвотна паказалі мне хату Брайцава і Брайцава возера. Прыемна ўразіла, што забялышанцы не толькі шануюць памяць земляка, але і чыталі ягоныя творы. Пагаварылі пра «Няўдачашку Анюту», згадалі «Дудалёву лазу» і раман пра высакароднага разбойніка Алеся Савіцкага «Сярод балот і лясоў». Аказваецца, пры мясцовай школе ёсць музей пісьменніка, і там можна ўзяць копіі рукапісаў.

— Справядлівы быў чалавек, царства яму нябеснае! Мужыцкі аблакат...

— Во таму і раскулачылі, што справядлівы!

— Як жа было не раскулачыць — цвяты ж разводзіў...

— Пра дзядоў ды прадзедаў нашых пісаў, ды нешта тых кніжак нідзе не відаць...

Наконт кніжак нічога суцяшальнага землякам Якуба Раманавіча я, на жаль, сказаць не мог — на той час яшчэ не ведаў, што выдавецтва «Беларускі кнігазбор» плануе выдаць том ягонай прозы «Сярод балот і лясоў».

Слухаючы зычлівых забялышанцаў, я радасна падумаў, што вяду размову з нашчадкамі герояў Якуба Брайцава, якіх ён шчыра любіў і выводзіў у людзі, быў іхнім песняром і адвакатам.

# РАЗМОВА ПА СУТНАСЦІ

Калі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» мне прапанавалі напісаць прадмову да зборніка паэзіі Анатоля Майсеенкі «Навальнічныя вёрсты», я трохі сумеўся. Мне здалося, што было б больш лагічней, каб не я, маладзейшы за яго, а ён, салідны вучоны-літаратуразнаўца, аўтар бліскучай манаграфіі пра слыннага празаіка Міхася Зарэцкага, пісаў прадмову да маёй кніжкі.

Але так ужо сталася, што я разам з Віктарам Шніпам быў адным з першых чытачоў многіх твораў Анатоля Фядосавіча Майсеенкі. Вось ужо колькі гадоў мы чытаем вершы, як кажуць, па абавязку службы, і, здавалася б, даўно ўжо час прывыкнуць і ставіцца спакойна да чужога вершавання. Не атрымоўваецца! Відаць, усё-ткі памылялася Ганна Андрэеўна Ахматава, калі жартаўліва сцвярджала, што пасля сарака паэты любяць толькі свае вершы. А можа, гэта глыбока індывідуальна?

Чытаю рукапіс новай кнігі А. Майсеенкі, чытаю па звычцы ўголас і назіраю за рэакцыяй калегі Віктара. «Добра, добра,–ківае галавой заўсёды спакойны і разважлівы Шніп,– малайчына!» І здаецца, вось-вось як найвышэйшую пахвалу дадасць сваё, добра знаёмае лімаўцам фірменна шніпаўскае азначэнне...

Ды і як не дадаць! Мяркуйце самі:

І Сонца тут — на ўсіх адно,
І снег — адзін на ўсіх.
І вецер просіцца ў акно —
Адзін на ўсіх жывых.

Ці вось яшчэ:

Навокал пуста. Дождж цярусіць.
Клін выгінаецца дугой.
З нябёс жураўлік беларусіць
Сваёй адвечнаю тугой.

Альбо вось гэта, з верша «Лівень», маладое і трапнае:

Павінна ўрэшце праясніцца.
Ты побач — ява, а не сон,
А дождждык зноўку пстушыцца,
Клюе, клюе твой парасон.

Як бачыце, ён разнастайны і па рытміцы, і па тэматыцы. Але пра што б ні пісаў Анатоль Майсеенка, яго вершаваны радок заўсёды энергічны і мускулісты. І самае галоўнае — натуральны. Ён умее паставіць слова. Школа. Адчуваюцца ўрокі А. Куляшова і А. Твардоўскага.

Часам яго радок сагрэты незвычайнай пяшчотай і шчырасцю, а часам напоўнены такім грамадзянскім тэмпераментам, што здаецца, восьвось сарвецца на крык альбо плач. Абвостранае ўспрыняцце рэчаіснасці – адна з асноўных рысаў паэзіі А. Майсеенкі. І гэта абсалютна заканамерна, бо паэт піша самога сябе, піша біяграфію ўласнай душы, якая на дых не ўспрымае несправядлівасці і чэрствасці, якая баліць і трывожыцца за ўсё жывое і роднае. Нездарма ў адным з вершаў ён выдыхнуў: «Я знаю, што такое боль!» На многія рэаліі сённяшняга дня ён глядзіць чыстымі вачыма хлапчука-сіраты, маленства якога апаліла вайна, вачыма, якія перапоўнены чаканнем бацькі з фронту.

Пра гэта паэт сказаў глыбока і праўдзіва ў сваіх баладах. Дарэчы, на іх, на «Баладзе пра хлопчыка», на баладзе «Сірата», на «Баладзе пра родную вёску», як на моцным і грунтоўным падмурку, трымаецца новая кніга Анатоля Майсеенкі.

Аўтар «Навальнічных вёрстаў» любіць доўгі, як правіла, сюжэтны верш, з дэталямі і падрабязнасцямі. І хоць я з'яўляюся «спавядальнікам» лаканічнага верша, паэта цалкам прымаю і разумею: ён доўга маўчаў і яму трэба выгаварыцца. Яму ёсць што сказаць.

Сказаць па-свойму: грунтоўна і спавядальна, прынцыпова, па сутнасці.

## ПАСМЯЁМСЯ І — ПАДУМАЕМ...

Горкі — адзін з маіх самых любімых гарадоў. Ёсць там, дзякуючы прысутнасці знакамітай акадэміі (дарэчы, самай старэйшай вышэйшай навучальнай установы на Беларусі), нейкая своеасаблівая аўра, светлая і чыстая. Можа, таму, што ў гэтым горадзе шмат прыгожых інтэлігентных людзей з адухоўленымі тварамі і яснымі вачыма, можа, таму, што ягонымі вуліцамі хадзілі і думалі волаты беларускага духу браты Гарэцкія, а магчыма, проста сваю высакародную справу робіць слаўная спадарыня Гісторыя...

Ва ўсялякім разе, Горкі, яго гісторыю і аўру я люблю даўно і, відаць, таму бываю там даволі часта. І, вядома ж, мне прыемна, што горад плаціць узаемнасцю. Падчас прэзентацыі маёй кніжкі «Жураведь над студняй», якая выйшла ў Горках, дырэктар гісторыка-краязнаўчага музея Уладзімір Ліўшыц пазнаёміў мяне з сімпатычным інтэлігентным чалавекам — доктарам тэхнічных навук, прафесарам Аляксандрам Віктаравічам Клачковым. Нягледзячы на тое, што мы прыблізна аднаго веку, прафесар, прыкметна хвалюючыся, папрасіў пазнаёміцца з ягоным рукапісам. Мяне гэтая просьба не сказаць каб дужа здзівіла — многія вучоныя маюць ахвоту да вершавання. Помніцца, яшчэ гадоў пятнаццаць таму Мікола Мятліцкі запрасіў мяне на пасяджэнне літаб'яднання ў наш політэхнічны, дзе ён на той час кіраваў літаратурным аб'яднаннем, амаль палову якога складалі выкладчыкі. Праўда, пісалі яны ўсе па-расійску, хто пад Ясеніна, хто пад Маякоўскага, зрэдку пад Пастарнака... З гэтай прыкрай нагоды Мятліцкі моцна абураўся і быў з вучонымі мужамі бязлітасна строгім, як і належыць маладому мэтру. Памятаючы Міколавы ўрокі, рукапіс я ўзяў з пэўнай доляй скепсісу, маўляў, а гэты пад каго?

І неўзабаве, прызнаюся, быў прысаромлены за лішнюю самаўпэўненасць. Алесь Клок, прачытаў я на вокладцы, «Мікітавы прыгоды». Знаны вучоны, аўтар больш як 200 навуковых прац, які свабодна

чытае лекцыі па сельгасмашынах у замежжы па-ангельску, пісаў на беларускай мове, і не проста на беларускай, а на народна-гутарковай, усходне-магілёўскай, дарагой і блізкай нам абодвум з маленства.

«Мікітавы прыгоды» Алеся Клока — сатырычна-гумарыстычны твор, напісаны ў духу пародыйнай паэмы «Тарас на Парнасе», што само па сабе глыбока сімвалічна: па адной з версій нашых літаратуразнаўцаў гэтая славутая паэма напісана студэнтамі Гора-Горацкага земляробчага інстытута. Зрэшты, у Горках мала хто ў гэтым сумняваецца, бо ў горадзе ёсць не толькі легендарная гара Парнас, але і папулярны ў народзе рэстаран «Тарас на Парнасе»...

Пры знаёмстве з «Мікітавымі прыгодамі» дасведчаны чытач абавязкова згадае «Прыгоды дзеда Міхеда» Анатоля Астрэйкі і сатырычныя паэмы Ніла Гілевіча. І гэта натуральна, бо на голым месцы нічога не расло і не расце.

Герой вершаваных апавяданняў (назавём іх так) — тыповы прадстаўнік беларускай вёскі 60-х гадоў адыходзячага стагоддзя. На ягоную долю выпала аж задужа нялёгкіх выпрабаванняў, з якіх Мікіта з гонарам выходзіць дзякуючы толькі свайму прыроджанаму сялянскаму розуму і не абы-якой дасціпнасці. Возьмем для прыкладу хоць бы раздзел «Лось», адзін з самых яркіх момантаў «Мікітавых прыгодаў»:

Ці то бегчы, ці то ўпасці,
Ці напіцца ёсць указ:
«Камунізму каб дапясці,
Коней трэба звесці ўраз».
А Мікіта меў кабылу
(Дзе здабыў — асобы сказ)
Ды яе глядзеў, бы мілку,
Бо памочніца якраз.

Узараць ці што прывезці —
Разумее ўсё сама.
Як яе на мяса везці?
Розуму ў Маскве няма!
. . . . . . . . . . . . . . . . .

Дапамог сусед Савося,
Паляўнік і прайдзісвет:
«Перахрысцім яе ў лося,—
Кажа,— з лося спросу нет».

І за чаркай план тварылі:
«Рогі бачыў на сцяне?
Да аброці іх прышыем:
Стане лось — бяда міне».

Аўтару, хоць ён і не прафесійны літаратар, удалося стварыць шэраг праўдзівых і запамінальных сцэн з жыцця калгаснай вёскі, прасякнутых не толькі гумарам, але і болем за яе ўчарашні і сённяшні дзень.

Словам, давайце разам чытаць «Мікітавы прыгоды». Тут ёсць з чаго пасмяяцца і ёсць над чым падумаць, бо, як свядома падкрэслівае аўтар, Мікіта — вобраз збіральны, характэрны для ўсіх куткоў нашай не такой ужо і малой Беларусі. У яго былі славутыя папярэднікі: Тарас, Несцерка, дзед Міхед... Думаецца, будуць і нашчадкі.

...Не, усё-такі зусім недарэмна я люблю горад Горкі. У ім шмат прыгожых і інтэлігентных людзей з адухоўленымі тварамі. І сярод іх прафесар Аляксандр Віктаравіч Клачкоў — Алесь Клок.

## ПРАВІЛА ДЛЯ ПАЭТА

Звычайна, калі называюць паэта, яго імя абавязкова асацыіруецца з пэўнымі творамі, строфамі, радкамі. І хай сабе тыя строфы чыталіся даўно, усё ж помняцца і прымушаюць хваляваццa. Такая, відаць, прывілея сапраўднай паэзіі.

Для мяне, мусіць, як і для многіх, паэтычнае імя Міхася Рудкоўскага непарыўна звязана з яго «Сінімі Брадамі», якія, паводле слоў паэта, «як замова матулі ад напасці-бяды», бо ў кожнага з нас ёсць свае Сінія Брады — свая маленькая радзіма, якая з'яўляецца і пэўнай школай духоўных каштоўнасцей:

Сінія Брады,
Сінія Брады —
цыбатаму буслу па калена вады.
Ды калі апускаў ты далоні ў тую ваду —
рук не могуць зрабіць справы бруднае;
калі хоць аднойчы глядзеўся ў тую ваду —
вочы будуць, як вёсны, ясныя;
калі сэрцам крануўся
струменьчыка той вады —
сэрца будзе да скону шчырае.

Па сваім светаадчуванні Міхась Рудкоўскі — лірык. Лірык з абвостраным паэтычным зрокам і шчырым, даверлівым сэрцам:

Лістапад.
Лістапад.
Лістапад.
Лістапад усё вышай і шырай.
Аблятае задумлівы сад,
адлятае у вырай.

Колькі ў гэтых журботна-пранізлівых радках ціхай музыкі! Колькі сэрца! Відаць, таму не так і часта сустрэнеш у яго вершах клічнікі. Паэт разумее, што для таго, каб нешта сцвердзіць, неабавязкова крычаць.

Нездарма М. Святлоў любіў падкрэсліваць, што даходзяць да чытача толькі тыя вершы, у якіх ён сардэчна размаўляе з ім. І гэта сапраўды так, бо такая прырода лірыкі: боль выклікае боль, радасць нараджае радасць. І ў выніку чужое становіцца тваім.

Менавіта такія асацыяцыі выклікае лірыка Міхася Рудкоўскага, у якой арганічна спалучаецца любоў да роднай зямлі з філасофскім роздумам аб сэнсе жыцця, аб яго непаўторнасці і непазбежнасці абнаўлення:

Хаця вятры ў няласкавых стагоддзях
зямлю маю астуджваюць-халодзяць,
не прападу я — унукам узрасту,
як поле жытам, як застолле песняй:
ўпаду — устану,
згіну — уваскрэсну.
Як колас, я жыву начыстату.
Жыць сумленна, праўдзіва, адкрыта —
правіла для паэта.

## АРЖАНАЯ ПРАЎДА

Прачытаў новую кнігу лірыкі Уладзіміра Паўлава «Што было на Беларусі», і захацелася паўтарыць услед за Анатолем Вялюгіным: «Мне даспадобы, Валодзя, аржаная праўда твайго радка». Слынны майстра ўмеў прыкмеціць самае істотнае і даць усякай паэтычнай з'яве лаканічную і вычарпальную характарыстыку.

Аржаная праўда... У дачыненні да творчасці Уладзіміра Паўлава сказана не толькі прыгожа, але і надзіва трапна. Карані ягонай лірыкі ў пражытым і перажытым, а яно, як правіла, суровае і драматычнае, як уся наша сівая гісторыя, як горкая сённяшняя рэчаіснасць. «Мой свет пяшчотны, мой свет суровы»,— гаворыць Уладзімір Паўлаў у адным са сваіх вершаў. Але, заўважце, на першы план паэт ставіць пяшчоту. Вельмі істотнае прызнанне. Яна, гэтая пяшчота, як васілёк у жыце, цешыць вока і грэе сэрца, без яе наш суровы і жорсткі свет быў бы проста невыносны.

## ПАЭТ З ВУЛІЦЫ ЯСЕНІНА

Гэтую гісторыю я збіраўся расказаць Віктару Стрыжаку. Не паспеў.

Нам абодвум, як, відаць, і ўсім у маладосці, здавалася, што ў нас у запасе цэлая вечнасць.

Пасля пераезду з Веткі ў Мінск ён разам з жонкай Валяй завітаў да мяне ў Дом літаратара. На пытанне, на якой вуліцы яны жывуць, ён адказаў таксама пытаннем:

— А як ты думаеш, дзе можа жыць Стрыжак?

— Як кажа Анатоль Кудравец, Мінск, вабшчэткі, вялікі горад.

І, не дачакаўшыся майго адказу, з уласцівай яму катэгарычнасцю выдаў:

— Ну, вядома ж, на Ясеніна!

— А хіба ёсць такая вуліца? — здзівіўся я.

— А ты нават і не чуў? — са шкадаваннем паглядзеў на мяне Стрыжак і горда расправіў сваю

магутную грудзіну.— Спецыяльна да майго прыезду назвалі. А іначай мы б і не прыязджалі. Праўда, Валя?

— Праўда, — шчасліва ўсміхнулася Валя.

Сяргея Ясеніна ён любіў да самазабыцця. На любові да ягонай паэзіі мы, бадай, і сышліся ў студэнцкія гады. На той час у яго было два куміры: Ясенін і Барадулін. Аднаго разу па дарозе на лекцыі ён зацягнуў мяне ў свой любімы «Ясень» — быў некалі на плошчы Свабоды такі піўбар — і там за куфлем свежага жыгулёўскага прачытаў толькі што напісаны верш «Падбярозавік»:

Сэрца сумам засеяна,
Хмельнай радасці роздумам,
Ад Сяргея Ясеніна
Забялееў я бярозамі.

Вось і кажы пасля гэтага, што няма лёсу: Ясенін, «Ясень», Ясеніна...

За некалькі дзён да яго нечаканай смерці я сустрэў Віктара каля лазні на вуліцы Багдана Хмяльніцкага. Ён сказаў, што ідзе «на піва», і прапанаваў пайсці разам. Мы пайшлі, але там была вялікая чарга, а стаяць доўга ні мне, ні яму не выпадала. Пакурылі, паўспаміналі мінулае, дзівячыся, што яно ў нас так хутка і непрыкметна з'явілася. Прыгадалі і наш слаўны «Ясень». Я працытаваў ягоныя радкі пра Ясеніна, прачытаныя некалі ў «Ясені», ён прыязна заўсміхаўся і сказаў, што яшчэ ў Ветцы чытаў маё лімаўскае інтэрв'ю з вядомым ясеніназнаўцам Юрыем Прокушавым. Я ў некалькіх словах расказаў пра сумесную паездку з Юрыем Львовічам і ягонай жонкай, спявачкай Верай Георгіеўнай, па Беларусі, пра свае сустрэчы з ім у Маскве і Кактэбелі, абяцаў даць прокушаўскія кнігі і паказаць адзін ліст, які яго, гарачага прыхільніка ясенінскай паэзіі, не можа не зацікавіць...

Гэта была мая апошняя сустрэча з жывым Стрыжаком. Кажу жывым, бо мёртвага Віктара мы з Валодзем Маруком і Толікам Зэкавым забіралі з морга і па просьбе Валі прывезлі на вуліцу Ясеніна, каб назаўтра павезці ў апошнюю дарогу ў яго родную

Заспу, дзе ён ляжыць побач з дзедам і бацькам над самым Дняпром, пад апетымі ім бярозамі.

Вось ужо два гады ў дзень ягонай смерці мы ездзім да Валі на вуліцу Ясеніна. У Віктаравым пакоі ўсё захавалася, як і пры ім: бел-чырвона-белы сцяг, на стале адзіная прыжыццёвая кніга, часопісы з яго вершамі, рукапісы, цыгарэты. Я ведаў, што ён добра малюе і ў войску нейкі час быў чарцёжнікам, але ніколі не думаў, што гэты дар у яго такі яркі.

З уласцівым яму гумарам Віктар распісаў ванны пакой пад Рэнуара. І, натуральна, не без «ню». Як і ў сваёй надзвычай шчырай паэзіі, Стрыжак і тут не захацеў пазбегнуць плоцевага пачатку — ён ніколі не быў ханжой і заўсёды быў як на далоні:

Няхай я крыху кволы,
Але вы гляньце, гляньце!
Я перад вамі голы,
Як бачыце — без глянцу.

Ёсць у кватэры на вуліцы Ясеніна і партрэт вялікага лірыка, выкананы Віктарам па дрэве. Гледзячы на гэтую работу, я кожны раз шкадую, што не паспеў пазнаёміць яго з абяцаным лістом Прокушава. Справа ў тым, што падчас працы ў адным з архіваў Юрый Львовіч натрапіў на ліст беларускіх паэтаў у абарону Сяргея Ясеніна. У 1955 годзе ён апублікаваў яго ў альманаху «Литературная Рязань» і, здаецца, уключыў у адну са сваіх кніжак.

У 1926 годзе ў газеце «Комсомольская правда» быў надрукаваны артыкул Л. Сасноўскага «Развенчайте хулиганство», у якім аўтар называе Ясеніна «знаменем хулиганства», а яго паэзію не больш не менш як «лирикой взбесившихся кобелей». Гэты артыкул прачыталі тагачасныя маладыя беларускія паэты, студэнты Белдзяржтэхнікума Пятро Глебка, Янка Бобрык, Янка Туміловіч, Сяргей Дарожны, Валерый Маракоў і Максім Лужанін. Вядома, такія адносіны да Ясеніна не маглі не абурыць іх, і яны, маладыя ды гарачыя, узрушана напісалі ліст-пратэст і адправілі ў рэдакцыю «Комсомольской правды». На вялікі жаль, ён не быў надрукаваны, але

гісторыя захавала дарагі для ўсіх нас дакумент. Вось невялікая вытрымка з яго:

«Можа быць, Ясенін нават вельмі горача адносіўся да сваёй Русі, але інакш ён не змог бы быць нацыянальным паэтам.

Ён унёс новае, ён сапраўдны мастак, толькі трэба добрай крытыцы падрыхтаваць, як належыць, чытача да вывучэння Ясеніна... Далёкія нацыянальнасці СССР выкажуцца пра Ясеніна таму, што ён вялікі паэт і мастак, і тым самым змыюць цень, кінуты неабачлівым артыкулам тав. Сасноўскага».

Думаецца, што гэты ліст сагрэў бы і напоўніў гонарам неспакойную душу паэта з вуліцы Ясеніна: маўляў, не такія мы ўжо абачлівыя і памяркоўныя.

## «СУРОВЫ ДАНТ» ПА-БЕЛАРУСКУ

«Суровы Дант...» Такое азначэнне вялікаму італьянскаму паэту Дантэ Аліг'еры даў у свой час Пушкін. Сярод мноства эпітэтаў вясёлы і лёгкі рускі геній выбраў менавіта гэты як найбольш адпаведны і дакладны. У гэтай лаканічнай і вычарпальнай характарыстыцы чытаецца не толькі пачцівая павага і захапленне мужнасцю талента, але і здаровая зайздрасць саперніка.

Усё сваё нялёгкае, пакутніцкае жыццё, усе свае мукі, паражэнні і перамогі Дантэ ўклаў у несмяротную паэму «Камедыя», якую пазней за высокую дасканаласць сталі называць «Боскай». Паэт яскрава, з нечалавечай сілай апісаў у паэме Пекла, Чысцец і Рай, насяліўшы іх душамі сваіх папярэднікаў і сучаснікаў. У сусветнай паэзіі «Боскую камедыю» можна параўнаць хіба што з паэмамі Гамера. Яе назва стала сімвалічнай. Нават той, хто ніколі не чытаў вялікага фларэнтыйца, не-не дый успомніць у адчаі пра пякельныя кругі альбо ў роспачы працытуе аднойчы чутае: «Оставь надежду, всяк сюда входящий», працытуе, не ўсведамляючы, што, паводле Дантэ, гэта надпіс на браме пры ўваходзе ў пекла. Я ўжо не кажу пра тое, што «Боская камедыя»

стала крыніцай натхнення для многіх пакаленняў пісьменнікаў. (Чаго варты адзін толькі вобраз дантаўскай Беатрычэ!) Многія яе радкі сталі крылатымі выслоўямі, паслужылі тэмамі для вершаў і паэм альбо цытатамі да іх, а часам і назвамі твораў. Згадаем хоць бы раман Аляксандра Салжаніцына «В круге первом», том выбранай прозы «Кругі» нашага Яна Скрыгана... Словам, паэзія Дантэ надзейна і трывала ўвайшла ў жыццё чалавецтва, стала неад'емнай часткай яго духоўнага вопыту: вось ужо каля сямі стагоддзяў несмяротны Дантэ водзіць чалавецтва праз Пекла і Чысцец да Раю — праз пякельныя пакуты і ачышчэнне да шчасця ў спадзяванні, што яно ачысціцца і стане лепшым. Шлях Дантэ — гэта, відаць, адзіны шлях да ўратавання душы, але, на жаль, упартае чалавецтва ўвесь час збочвае з гэтага шляху і тым самым ігнаруе ўрокі свайго прарока і павадыра.

Не дзіва, што да «Боскай камедыі» на працягу ўжо колькіх стагоддзяў звяртаюцца перакладчыкі многіх краін і народаў. Кожная развітая літаратура лічыць за гонар мець у сваёй залатой скарбонцы гэтую паэму на роднай ёй мове. Паэма перакладалася і прозай і вершамі. Што датычыць такой багатай літаратуры, як руская, то ў ёй было некалькі перастварэнняў твора Дантэ. Самымі вядомымі былі пераклады Дз. Мінаева, Д. Міна і В. Чумінай, але і яны, на думку спецыялістаў, былі даволі далёкія ад высокай дасканаласці арыгінала. Па-сапраўднаму, з усёй глыбінёй зместу, прыгажосцю і складанасцю формы, рускамоўнага чытача пазнаёміў таленавіты майстар перакладу М. Лазінскі, творчасць якога стала адным з узораў расійскай перакладчыцкай школы. І вось нарэшце на парозе двух тысячагоддзяў «беларуская літаратура,— як трапна заўважыў у прадмове да кнігі паэт Янка Сіпакоў,— займела твор, які яна прадчувала, але якой яна пакуль што не мела». Зрабіць пераклад адважыўся (менавіта так, адважыўся!) наш вядомы паэт Уладзімір Скарынкін. Перш чым зрабіць такі мужны крок, ён багата папрацаваў на нялёгкай ніве мастацкага перакладу. Дзякуючы яго ным намаганням загаварылі па-беларуску мно-

гія рускія, украінскія і малдаўскія паэты. Загаварылі натуральна і нязмушана. Прачытайце ў перастварэнні Скарынкіна самага тонкага, даверліва-ранімага рускага лірыка Мікалая Рубцова і выкшталцонага віртуоза ўкраінскага верша Міколу Вінграноўскага і вы пераканаецеся ў гэтым.

Крыху вышэй намі згадваўся бліскучы, ці, як сёння любяць казаць, выбітны, пераклад М. Лазінскага. Пры жаданні дасведчаны чытач можа лёгка ўпэўніцца, што пераклад расійскага майстра і пераклад нашага У. Скарынкіна істотна розняцца. Гэта абсалютна самастойныя рэчы. Давайце для прыкладу параўнаем шырокавядомыя радкі:

Земную жизнь пройдя до половины,
Я очутился в сумрачном лесу,
Утратив правый путь во тьме долины.

*Пер. М. Лазінскага*

У час цяжкі, у момант паваротны
Свайго жыцця, згубіўшы верны шлях,
Я трапіў нечакана ў лес дрымотны.

*Пер. У. Скарынкіна*

Ці вось гэтыя, не менш вядомыя:

Был правдою мой зодчий вдохновлен.
Я высшей силой, полнотой всезнанья
И первою любовью сотворен.

Древней меня лишь высшие созданья,
И с вечностью пребуду наравне.
Входящие, оставьте упованья.

*Пер. М. Лазінскага*

Вялікі дойлід збудаваў вароты
Ў падземны горад і яго муры
Па праву ўлады, розуму, пяшчоты.

Ён вечны! І ў сваім манастыры
Усталяваў парадак адмысловы.
Таму надзей з сабою не бяры.

*Пер. У. Скарынкіна*

Думаецца, «суровы Дант» быў бы задаволены працай беларускага перакладчыка: гучыць! Уладзімір

Скарынкін яшчэ раз пацвердзіў даўно вядомую ісціну, што пераклад – гэта донарства. Той, каму хоць аднойчы даводзілася здаваць сваю кроў, ведае, што гэта такое...

Больш як чатыры гады аддаў паэт працы над дантаўскімі тэрцэнамі-трохрадкоўямі. У «Заключнай песні перакладчыка», напісанай, між іншым, таксама тэрцэнамі, ён прызнаецца:

У плаванне пусціўся я на стыку
Тысячагоддзяў двух і дзвюх эпох
Без шуму непатрэбнага і крыку,

Спадзеючыся, што магутны Бог,
Які раскручвае над намі зоры,
Паможа, як не раз ужо памог...

Як бачым, «без шуму непатрэбнага і крыку» і, вядома, не без боскай дапамогі перакладчыку ўдалося ажыццявіць сваю грандыёзную задуму і тым самым развеяць недавер скептыкаў «і адказаць усмешкай на абразу, што не паддаецца бессмяротны твор на беларускай мове пераказу». Так, факт з'яўлення на нашай мове сусветнага шэдэўра яшчэ раз даказаў, што ёй пад сілу самыя высокія задачы, што яе патэнцыяльныя магчымасці невычэрпныя. Пра гэта яскрава сведчаць «Яўгеній Анегін» у перакладзе А. Куляшова, «Гамлет» у перакладзе Ю. Гаўрука, «Фаўст» у перакладзе В. Сёмухі, «Пан Тадэвуш» у перакладзе Я. Семяжона...

Глыбока сімвалічна, што на стыку двух тысячагоддзяў у гэты славуты шэраг гожа стаў несмяротны твор «суровага Данта».

Дарэчы, італьянцы значнасць гэтай падзеі даўно ацанілі – за пераклад «Боскай камедыі» Уладзімір Скарынкін атрымаў прэстыжную прэмію Італіі.

## ШЭСЦЬ РЭЧАК ВАСІЛЯ ЗУЁНКА

Мне даўно хацелася напісаць пра паэзію Васіля Зуёнка. Назва нарадзілася лёгка і нязмушана і сама папрасілася на паперу: «Пяць рэчак Васіля Зуёнка». Яе, гэтую назву, мне падказаў другі том ягонага

апошняга выбранага, які аўтар удала назваў «Пяцірэчча».

Зуёнкава «Пяцірэчча» — гэта пяць паэм (шлях праз гісторыю, праз вайну ў сённяшні дзень). Вось як вымалёўваецца кампазіцыйная лінія кнігі: Агонь і Сонца. Паэма Радзімы: 1. Лукам'е. 2. Сяліба. 3. Прыцягненне. Маўчанне травы. Паэма лёсу. Падарожжа вакол двара. Паэма смутку і надзеі.

Па сутнасці гэта ліра-эпічная кніга пра жыццё роднага краю і яго гістарычны лёс, жывая кардыяграма душы і пачуццяў чалавека, які трывожна асэнсоўвае час і сябе ў гэтым часе. Зрэшты, паэт сам тлумачыць сваю задуму ў вершы, што папярэднічае паэмам, сабраным пад адной вокладкай:

Пяцірэчча...
Пяць рэчак з крыніцы маёй.
Талінка —
Нача —
Бабёр —
Бярэзіна —
Бацька-Дняпро сінякрылы —
Пяцірэчча,
дзе продак выходзіў на ляда
з лубянкай-сяўнёй,
Дзе калісьці на Рэпішчы
рэпа салодка радзіла.
Пяцірэчча...
Пяць рэчак
бяссоння майго і крыві:
Ад капіляраў да сэрца —
ад сэрца да капіляраў.
Пяцірэчча,
з-пад Рэпішча ў свет незнаёмы плыві.
Млечны Шлях,
Вечны шлях
з беларускай куп'істай імшары.

Але пакуль я перачытваў паэмы ды збіраўся з думкамі, паэт упарта капаў рэчышча новай, **шостай** ракі. Хоць чаму новай? Новай і нечаканай яна стала для нас, чытачоў, для Зуёнка ж яна даўно родная і дарагая — у яе берагах ён пачувае сябе звыкла і ўпэўнена. Уважлівы чытач не мог не заўважыць, што свой пачатак яна бярэ з тых жа крыніц, якія жывяць і сілкуюць яго самабытную паэзію. Ва

ўсялякім разе, дзве публікацыі празаічных элегій у часопісе «Полымя» прымусілі мяне памяняць першапачатковы загаловак: да пяці рэчак паэта давялося дадаць яшчэ адну, шостую. Рэчку празаіка Васіля Зуёнка.

З першай кніжкай паэзіі ён не спяшаўся. Ягонае «Крэсіва» выйшла ў свет у 1966-м, калі яе аўтару ішоў трыццаць першы год, хоць упершыню вершы з'явіліся ў рэспубліканскім друку («Чырвоная змена») яшчэ ў 1954-м. Словам, дэбют у Васіля Зуёнка ў параўнанні з ягонымі равеснікамі, якія ў час хрушчоўскай адлігі ўваходзілі ў паэзію рана і шумна, быў крыху запознены. Праўда, за год да з'яўлення «Крэсіва» ён выдаў паэтычную кніжку для дзяцей «Вясёлы калаўрот». Я знарок, хоць і не ахвотнік да арыфметыкі, засяроджваю ўвагу на лічбах і датах: падчас выхаду першага зборніка Зуёнак у паэзіі быў далёка не навічок, у яго ўжо быў назапашаны значны вопыт. Як сведчыць біябібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі», у 1949-м, калі В. Зуёнка прымалі ў камсамол і сакратар райкома папрасіў яго паказаць свае творы, то назаўтра аж два сшыткі ляглі на яго стол. «Крэсіва» засведчыла, што ў літаратуру прыйшоў таленавіты паэт. Кніга стала падзеяй у літаратурным жыцці. На яе выхад зычлівай і строгай рэцэнзіяй «Крэсіва. Іскры. Агонь» адгукнуўся сам Уладзімір Караткевіч. «Перад намі паэт,— пісаў ён,— паэт адметны, свежы, паэт са сваім зрокам, са сваім адметным гукам жыцця, слыхам і адкрытым болю і любові сэрцам... У маленькай кніжачцы шмат вершаў з сапраўднай глыбокай філасафічнасцю».

У гэтай трапнай характарыстыцы творчасці маладога паэта Караткевіч свядома робіць лагічны націск на слове свежы. І робіць невыпадкова: «Крэсіва» выгадна вылучалася на фоне тагачаснай паэзіі і сваёй тэматыкай, і свежым асацыятыўным мысленнем, і густым паэтычным пісьмом. Услед за сваім таварышам Рыгорам Барадуліным Зуёнак смела ідзе на эксперымент, шырока выкарыстоўвае вялікія выяўленчыя магчымасці роднага слова. Лепшыя вершы тае пары ў Зуёнка ў асноўным лаканічныя і вельмі выразныя па гукавым малюнку:

Збіралі гукі,
насілі,
Хавалі ў азёрнай сіні...
Як стала на цэлую песню —
Ўзляцелі да паднябесся.
Зайгралі,
зайгралі гуслі...
Шчаслівай дарогі,
гусі.

*«Гуслі»*

Ці вось яшчэ адзін верш, які і па сёння на слыху ў аматараў паэзіі:

Ніхто не пачуў:
Яблык упаў дасвеццем —
Ля Халопеніч,
на Беларусі.
Ніхто не пачуў —
Ні людзі,
ні травы,
ні вецер...
Ніхто.
А шар зямны здрыгануўся.

Гэты маленькі шэдэўр уражвае не толькі шматзначнасцю і багаццем нечаканых асацыяцый, але і арганічным паядnannem пачуццёвага і рацыянальнага, што хораша выявілася ў далейшай творчасці В. Зуёнка, у кнігах «Крутаяр», «Сяліба», «Нача»... Яго лірыка 70—80-х гадоў цесна знітавана з фальклорам, паэт шчодра чэрпае з глыбінных пластоў народнай творчасці, плённа вучыцца ў школе матчынай песні, актыўна ўзбагачаючы сваю адметную лексіку.

І ў той жа час верш Зуёнка інтэлектуальна заглыблены, ён не баіцца быць палемічна завостраным і адкрыта публіцыстычным пры поўнай адсутнасці жалезабетону:

Крычыць газетны абрус.
А я за ўсімі бедамі
Чакаю аб'явы новай,
Шукаецца беларус,
Які ведае
Беларускую мову.

Паверце, я не цытаваў бы гэтыя радкі, каб яны не былі напісаны ў 1976 годзе...

І нарэшце пра самае істотнае. Пра тое, з чаго і пачыналіся гэтыя нататкі. Сёння нашую літаратуру нельга ўявіць без паэм Васіля Зуёнка, без ягонага «Пяцірэчча», якое стала значным укладам у развіццё беларускага паэтычнага эпасу. Думаю, не дужа памылюся, калі скажу, што паэмы В. Зуёнка арганічна выраслі з ягоных вершаў. І рэч тут, вядома ж, не ў сюжэце. Тут хутчэй трэба весці гаворку пра характар светаўспрымання паэта, пра ягонае ўменне мысліць аб'ёмна і маштабна, грунтоўна і непаспешліва. (Дар, скажам шчыра, дадзены далёка не ўсім вершатворцам.) З'яўленне першай паэмы В. Зуёнка «Сяліба» было падрыхтавана ўсёй яго папярэдняй творчасцю. Таму паэту і ўдалося з'яднаць у адно скразныя тэмы і матывы, якія балелі яму і ягонаму пакаленню. Складаная па кампазіцыі і шматстайная па тэматыцы, паэма стала шчырым гімнам роднаму куту і роднай прыродзе. Не хваласпевам, а гімнам, прасякнутым трывогай і клопатам пра дзень сённяшні і дзень будучы. Васіль Зуёнак знайшоў шырокую і прыгожую метафару: «Мая Зямля — мая Сяліба».

Ад раскаванай і нязмушанай строфікі паэмы сыходзілі першародная язычніцкая радасць і нерастрачаная сіла. Сіла, якая пазней магутна выявілася ў шырокім, эпічным палатне-паэме «Маўчанне травы», якой паэт даў падзагаловак: Паэма лёсу. Лёсу, натуральна, не толькі свайго, але і ўсяго народа, які выстаяў і выжыў у самай суровай з войнаў. Нездарма даследчыкі, аналізуючы твор, робяць смелыя паралелі з «Новай зямлёй». Ды я і сам, перачытваючы старонкі паэмы, міжволі адчуваў перагук у паказе побыту, у падабенстве і роднасці характараў Коласавага Міхала і Зуёнкавага Васіля. Тым больш што і Коласу і Зуёнку прататыпам паслужыў бацька. Яны нават імёнаў не мянялі...

Нерастрачанай сілай вее і ад гістарычнай паэмы «Лукам'е», якая, дарэчы, па сваім духу і геаграфіі блізкая да «Сялібы», бо прысвечана земляку, князю Івану Лукомскаму, трагічны лёс якога прымушае нас

і сёння думаць пра шляхі-дарогі пакутнай Бацькаўшчыны.

Апошнюю па часе напісання паэму «Падарожжа вакол двара» паэт назваў Паэмай смутку і надзеі. У гэтай вельмі лірычнай і вельмі шчымлівай рэчы, нягледзячы на горкі боль страт, фінал усё ж аптымістычны:

Ёсць Радзіма, і ёсць бяссмерце.
Мова ёсць, і не згіне зямля.
На скрыжалях вякоў не сцерці
Слоў, што вёска ўзрасціла мая.

...Для вызначэння жанру сваіх празаічных твораў Васіль Зуёнак выбраў вельмі ўдалую і дакладную назву — элегіі. Ёсць у гэтым слове лёгкі смутак і светлая мудрасць чалавека, які многа пабачыў і багата зрабіў.

Чалавека, які мае шэсць рэк.

## Я НЕ ЖАБРАК

Не ведаю, як каму, а мне заўсёды шкада развітвацца з уласнымі вершамі. Можа, таму і не спяшаю аддаваць іх у друк. Пакуль яны са мною, мне — не пуста, я — не жабрак. А аддасі — яны ўжо нібыта і не твае. Міжволі ўзнікае адчуванне нейкай пустаты, якая бог ведае калі яшчэ запоўніцца ды і ці запоўніцца ўвогуле, бо залежыць гэта не толькі ад мяне... Нездарма ж у Ганны Ахматавай некалі вырвалася: «Когда б вы знали, из какого сора растут стихи!» «Сор» у мяне ёсць і будзе, але ўсё жывое расце доўга і пакутліва. Усё жывое кволае. І не ўсё, што прарасце, выжыве.

## ШТРЫХІ ДА АСАЦЫЯТЫЎНАГА ПАРТРЭТА

Я добра памятаю першыя вершы Віктара Шніпа. Дакладней, не столькі самі вершы, колькі ўражанне ад іх. У мяне і зараз перад вачыма яго тоненькі

школьны сшытак у клетачку, спісаны буйнымі паўкрутлымі літарамі. Даверлівы, амаль дзіцячы почырк. З тым сшытачкам Віктар неяк завітаў да мяне на Паркавую магістраль у самую шчаслівую пару маёй маладосці — я толькі што ажаніўся і пасля доўгіх блуканняў па пакутах атрымаў катушок на цокальным паверсе нашага інтэрната, а прасцей кажучы, у падвале. Няхай сабе і падвал, але затое свой пакойчык! Праўда, у ім не было ніводнага акенца, і туды ніколі не зазірала сонца. Ды, калі па шчырасці казаць, гэта не дужа прыгнятала — нам з Аленай было і так светла! Час для нас спыніўся, і мы зблыталі дзень з ноччу.

У гэтых «апартаментах» і адбылося маё першае знаёмства з творчасцю Віктара Шніпа. Мне, студэнту-філолагу, які на той час захапляўся паэзіяй сярэбранага веку, ягоныя вершы здаліся трохі шурпатымі, да канца не абгабляванымі (такая асацыяцыя, магчыма, узнікла таму, што Віця пасля архітэктурна-будаўнічага тэхнікума працаваў цесляром), але самае дзіўнае, што гэтая шурпатасць надавала вершам нейкі своеасаблівы шарм і выгадна вылучала на фоне тагачаснага гладкапісу. У шурпатых радках было тое няўлоўнае, што цяжка бывае выказаць словамі, але нельга не адчуць, тое самае ледзь-ледзь, што адразу адрознівае паэзію ад проста вершаў. У майго новага знаёмца было сваё адметнае светаўспрыманне, уласцівае толькі яму, Шніпу, і гэта больш важна, чым дасканалая версіфікацыя, нават калі яна высокае рамяство, якому пры жаданні і ахвоце не так ужо і складана навучыцца. І гэтую ахвоту я ў ім адчуў інтуітыўна, бо была яна пасялянску ўпартая, валожынская...

Калі не памыляюся, некаторыя з тых вершаў, прачытаныя на Паркавай магістралі (зараз праспект Машэрава), увайшлі ў першую кніжку паэта «Гронка святла», якую я люблю дагэтуль, як люблю першыя кніжкі Уладзіміра Марука, Леаніда Галубовіча, Міколы Мятліцкага, Леаніда Дранько-Майсюка, Людмілы Паўлікавай... І не толькі таму, што мы разам пачыналі, таварышавалі, вучыліся адзін у аднаго — працэс гэты быў падсвядомы,— але яшчэ і таму,

што першая кніга — гэта заўсёды маленькае выбранае. Нездарма ж Уладзімір Маякоўскі ў сваім знакамітым артыкуле «Як рабіць вершы?» сцвярджаў, што «першая работа заўсёды больш свежая, так як у яе ўвайшлі загатоўкі ўсяго папярэдняга жыцця».

«Гронка святла» ўвабрала ў сябе ўвесь папярэдні жыццёвы і духоўны вопыт аўтара і стала сур'ёзнай заяўкай на будучае. Яна вылучалася лаканічным і дакладным радком, сінтэзам небанальнай думкі і светлага пачуцця, зайздросным уменнем шукаць і знаходзіць паэзію ў прозе жыцця. І, вядома ж, той своеасаблівай шурпацінкай, якую мы ўжо згадвалі на пачатку нашай гаворкі. Вось характэрны прыклад з таго, ужо даўняга, зборніка:

Іду з навостранай сякерай
У пажаўцелы шумны гай.
А раніца сарокай смелай:
«Галлё ля хаты пазбірай».
Услед глядзіць з узгорка вёска.
Рака ўздымае асаку.
Не замахнуся на бярозку
І нават кусцік не ссяку.
Іду, сціхаюць птушак спевы.
Туман за мной паплыў з ракі.
І бачна: восеньскія дрэвы
Сціскаюць лісце ў кулакі.

Я невыпадкова засяроджваю ўвагу на дэбюце паэта. Акурат у першай кнізе, нягледзячы на пэўныя хібы і ўплывы папярэднікаў, праступаюць абрысы будучых накірункаў творчасці і нават будучых кніг. «Гронка святла», як і наступныя кнігі («Пошук радасці», «Шляхам ветру»), была вельмі разнапланавая. І гэта выяўлялася не толькі ў тэматыцы, але і ў інтанацыйна-рытмічным ладзе вершаў, што яскрава засведчыў апошні, у многім выніковы, зборнік «На рэштках Храма». Кажу выніковы, бо апошнія публікацыі Віктара Шніпа даюць падставу гаварыць пра новы этап ягонай творчасці, этап пошукаў і эксперыментаў.

Скажу па шчырасці, што на самым пачатку яны мяне трохі насцярожылі, здаліся эпігонскімі практыкаваннямі пад Разанава. Праўда, калі адзін калега ў мяне спытаў, ці не здаецца мне, што Шніп задужа

выпендрываецца ў апошніх рэчах, я адказаў, што гэта ў яго ад сілы. Ды, зрэшты, гэта і заканамерна для паэта, які навучыўся пісаць,— сумна ўвесь час іграць на адной і той жа ноце.

Даўно вядома, што ўсякі эксперымент першапачаткова выклікае скепсіс, усё новае раздражняе густ чытача, выхаванага на пэўных канонах. І тут любы мастак, які стаў на гэты шлях, моцна рызыкуе. Так, рызыкуе... Але, як сведчыць увесь вопыт гісторыі літаратуры, гэтая рызыка высакародная.

Ва ўсякім разе, у творчасці Віктара Шніпа з'явіліся (а можа, праявіліся?) новыя рытмы, новыя матывы, новыя падыходы ў асэнсаванні рэчаіснасці. А яшчэ ў яго вельмі абвастрыліся мастакоўскія зрок і слых. У гэтым з прыемнасцю пераконваешся пры знаёмстве з ягоным «Асацыятыўным партрэтам» (Крыніца. № 11—12). Аўтар смела паставіў перад сабой даволі складаную задачу: на кожную літару алфавіта знайсці пэўную асацыяцыю, фанетычна блізкую і псіхалагічна дакладную. І, трэба сказаць, выканаў гэтую задачу бліскуча, пазбегнуўшы зададзенасці і нацяжак. Яму ўдалося арганічна паяднаць два пачаткі — рацыянальны і эмацыянальны. Возьмем хоць бы літару Ш, тым больш што прозвішча нашага паэта таксама пачынаецца на Ш:

Ш шэпча пра шлях
Яно шапаціць у шыпшыне
Шукаючы шчасця
Яно шалапутнае
але яно шануе шчырых
яно заўсёды там дзе шаша
Ш шыпучае як шампанскае
якое п'юць шляхцічы

Ці вось яшчэ, на Я:

Я спакуснае як райскі яблык
Я імкнецца яднаць
але з яўным жаданнем
захаваць сваё я
Я гэта яно.

Радок «захаваць сваё я» ў гэтым кантэксце мне здаецца далёка не выпадковым.

...Чытаючы адну з апошніх нізак Віктара Шніпа ў часопісе «Полымя» (№ 7), я зноў падзівіўся разнапланавасці ягоных твораў: у чалавека, які ўпершыню сустракаецца з паэзіяй Шніпа, можа скласціся ўражанне, што вершы належаць розным аўтарам — настолькі яны розныя па тэматыцы і па тэхніцы.

Міжволі ўзнікае думка, што вершы «Сонца сляпое на захад плыве», «І мы сабе прыдумалі краіны» ўзяты з ранейшых кніжак, а вершы «Кладка» і «Серп» — з новай, будучай. Добра гэта ці кепска? Думаецца, нармальна. Я ўжо казаў, што гэта ў яго ад усведамлення ўласнай сілы. Віктар Шніп — архітэктар-будаўнік. І гэта вельмі істотна: ён любіць планаваць і будаваць свой верш. І пры гэтым будаўніцтве ў яго ёсць права на пошук, дадзенае яму талентам. І ёсць час, які працуе на талент.

...«Ш шэпча пра шлях».

## «БАЮСЯ ПРОЗЫ ЯК АГНЮ»

*(Гутарка з Ларысай Цімошык. Звязда. 1998. 10 кастр.)*

**— Ці часта вы зараз бываеце ў роднай вёсцы?**

— У мяне там жывуць маці і бацька. Вялікая наша вёска, у мінулым мястэчка, прыгожая. Ёсць рачулка, якая называецца Бесядзь, дзякуючы Куляшову яна стала своеасаблівым сімвалам паэзіі. Рэчка чыстая раней была, празрыстая-празрыстая, нават відаць, як рыба ходзіць. З-за варункаў, звязаных з Чарнобылем, зараз трэцяя частка раёна засыпана радыяцыяй. Раней пілі проста з ракі ваду, зараз гэта небяспечна, хоць вада па-ранейшаму чыстая. Пра мясцовасць, дзе я нарадзіўся, у «Геаграфіі...» Смоліча сказана: «Касцюковічы ляжаць у найпрыгажэйшай мясцовасці над Бесяддзю». Канешне, у вольны час я заўсёды там. Раней, як сыходзіў на станцыі Бялынкавічы, звычайна ішоў дахаты хвілін 30—40, хоць там хады недалёка: тут сядзеў Сцяпан, тут сядзеў Іван, далей яшчэ нехта. Зараз заходжу вельмі хутка. Няма з кім пагаварыць. Людзі іншыя. Панаехалі но-

выя, перасяленцы, з якімі няма такіх стасункаў. Знаёмых становіцца ўсё меней. Кожны год бываю там на Радаўніцу, традыцыя спрадвечная — у гэты дзень людзі з'язджаюцца ўспамінаць родных, тады сустракаю сяброў. Але думаю на могілках, што тут знаёмых ужо больш. Відаць, гэта кожны адчувае. Такі лёс нашых вёсак. Хаця вёска ўсё такая ж вялікая, але меней людзей, якія ўплывалі на мяне. Ёсць такое паняцце «магілёўскі характар». Анатоль Кудравец і Віктар Карамазаў прытрымліваюцца думкі, што яно існуе яшчэ з часоў Гарэцкага.

**— Магчыма, таму адыгрывае вялікую ролю ў загартоўцы як паэтаў, так і дзяржаўных дзеячаў?**

— Не думаю, таму што творцы і палітыкі менавіта па характару — розныя людзі.

Мой сябра Уладзімір Бутрамееў, таксама магілёвец, кажа пра гэта так: паэты павінны альбо жабраваць, як Гамер, альбо служыць пры двары, як Дзяржавін, які «истину царям с улыбкой говорил». Я лічу, што цары ісціны не любяць, тым больш ад паэтаў.

**— Некалі паэзія лічылася валадаркай душ, а паэты ўспрымаліся як вестуны.**

— Але гэта было звычайна пасля смерці: пры жыцці паэт звычайна паміраў у даўгах, быў бедны. Той жа Дантэ быў прагнаны з радзімы, недзе блукаў па свеце, Авідый быў высланы, Пушкін адпраўлены ў Міхайлаўскае. Няхай бы паслаў нехта нас, сённяшніх, у Міхайлаўскае... Але пытанне — творца і ўлада — складанае. Паэт заўсёды быў да любой улады ў пэўнай апазіцыі і нічога не меў ад яе. Я па сваім характары ўвогуле імкнуся пазбягаць палітызаванасці ў творчасці і закранаю тэмы вечныя.

**— Акрамя вершаў на што ёсць у душы месца?**

— Цяжка жыць адным вершамі. Час зараз жорсткі і неспрыяльны для паэзіі. У мяне ёсць пра гэта вершы. Паэты ў такіх варунках пачуваюцца цяжка, я гэта мяркую па сваіх сябрах. Але наша паэзія, нягледзячы ні на што, усё роўна жыве — сонца ўсходзіць, снег выпадзе, жанчына прыгожая ўсміхнецца. Незалежна ад усяго жыццё рухаецца.

У вайну якая лірыка была, успомніце «Ліст з палону» А. Куляшова — верш пра каханне, дзе сплаў высокіх думак, і пра радзіму, і пра ўласны боль. Людзі знаёмяцца, кахаюць, нараджаюць дзяцей, паміраюць. Вось куды глядзіць паэзія перш за ўсё.

**— Быў залаты век паэзіі, сярэбраны. Якім словам можна вызначыць, які для паэзіі час зараз?**

— Нават не медны. Сёння чалавек думае пра хлеб надзённы, выжыць — галоўнае. Нават у бальшавіцкія часы быў больш спрыяльны час для паэзіі. Дарэчы, я ніводнага верша не прысвяціў партыі і камсамолу. Тым не менш атрымаў прэмію Ленінскага камсамола за кніжку «Чытаю зоры». Праўда, гэта было ўжо пры Гарбачове. Але тады, у савецкі час, паэзіі дыхалася лягчэй, можа, таму, што літаратура была ідэалогіяй. Калі хто-небудзь адзін выдаваў твор на зададзеную тэму, гэта давала магчымасць іншым гаварыць тое, што яны хочуць. Таму ж Караткевічу — пісаць гістарычныя раманы, Мележу — «Палескую хроніку», Чыгрынаву — «Плач перапёлкі», Стральцову, у рэшце рэшт,— свае выдатныя рэчы пра вечнае. І сёння паэзія магла б быць патрэбнай. Але для гэтага таксама павінна Беларушчына стаць ідэалогіяй. Тады зацікаўленыя будуць мець кніжку школы, той жа часопіс «Полымя», дзе я працую, выпішуць больш людзей.

**— Апошнім часам школьная праграма павярнулася ў бок беларускіх паэтаў?**

— У мяне малодшы сын у чацвёрты клас ходзіць, я з прыемнасцю паглядзеў кніжку «Роднае слова». Мяне здзівіла: абсалютна іншы погляд на рэчы, сучасны, зроблена, як поры года, ёсць наша мінулае, нешта з фальклору. Нават мае два вершы ёсць. Ці падручнік Анатоля Клышкі «Чабарок» — чытанка для малодшых класаў. Некаторыя зрухі я бачу.

**— У паэта ёсць такое паняцце, як «рабочы дзень»?**

— У асноўным вершы пішуцца ўначы. А ўдзень трэба хадзіць на службу, вадзіць малога ў школу, чытаць чужыя рукапісы. Паэт сёння не пражыве толькі творчасцю. Рускія дваране-літаратары маглі сабе такое дазволіць. А сённяшнія паэты служаць.

Апошні прыклад — Караткевіч, які нідзе не служыў, быў вольны. А так усе недзе ў рэдакцыях працуюць. Можна сёння бізнесам займацца і на службу дзяржаўную не хадзіць, але бізнес высушыць душу.

**— А служба не сушыць?**

— Так, але калі рэч цікавая трапляецца — што ў «Полымі» даводзіцца рыхтаваць да друку, дык прыносіць задавальненне. Увогуле, як прачнуўся, так дзень і пачаўся. І калі сёння нешта напісалася, то, можа, пра гэта думалася і год, і два, і тры. А можа, і дзесяць. Таму і пішацца іншы раз лёгка, іншы раз ніяк.

**— Вы працуеце ў літаратурным часопісе, напэўна, можаце меркаваць, якая цікавасць да гэтых выданняў.**

— За ўсіх гаварыць не бяруся, а ў «Полымя» чытач вельмі надзейны — наша беларуская інтэлігенцыя, асабліва ўдзячныя мы настаўніцтву. Нядаўна атрымалі прыемную вестку, што на новы квартал тыраж вырас на 1000 асобнікаў. Бывае спад, пад'ём, але чытач верны.

**— Як можна адзначыць узровень літаратуры, якая напаўняе часопіс сёння?**

— Ён бывае розны. Але ад самога часопіса гэта не дужа залежыць. Ёсць у нас маладыя цікавыя літаратары, гэта толькі павярхоўнае меркаванне, што моладзь не ідзе ў творчасць. Узяць той жа «Бум-бам-літ». Прыйшлі да нас, прапанавалі свае «тэксты», кажуць, вось гэта сучасна. Я чалавек кансерватыўны і не магу адносіцца да твора як да тэксту. Тэкст выдаюць камп'ютэры. Але тым не менш цікава. Няхай яны развіваюцца ў сваім рэчышчы, няхай паралельна існуе некалькі школ. Няхай застаецца месца для класікаў. Вось зараз друкуецца дзённік Панчанкі. Я лічу, што дзённікі сапраўды павінны друкавацца пасля смерці. Справа ў тым, што Пімен Емяльянавіч быў вельмі шчыры ў сваіх дзённіках, ведаў, што пры жыцці гэта нікуды не пойдзе. Калі б пры жыцці яны надрукаваліся, невядома, як ён дажыў бы. Так, многае спрэчнае, суб'ектыўнае, што можна прымаць альбо не.

**— А вы маеце звычку заносіць у дзённік тое, пра што не заўсёды скажаш?**

— Сапраўды, дажыўшы да 40 гадоў, я зразумеў, што ў мяне вельмі багата матэрыялу сабралася, які ну ніяк немагчыма пераплавіць у вершы. Завяршыў нядаўна кніжку, у якой некалькі творчых партрэтаў, нарысы з паездак, гаворкі з сябрамі. Некалі, працуючы ў Саюзе пісьменнікаў, сядзеў у адным кабінеце з Уладзімірам Юрэвічам, які асабіста ведаў Купалу, вельмі цікава расказваў. Спачатку не прыдаваў гэтаму значэння, а потым падумаў: дзе ж яшчэ знайду такое багацце? Пачаў запісваць. Гэта не дзённік. Тым не менш нейкія патаемныя думкі, асэнсаванне падзей, назіранне за сённяшнім літаратурным працэсам і роздум пра прыроду слова. Ёсць, напрыклад, навелка пад назвай «Слоўнік бабы Насты». У мяне яшчэ бабуля ёсць, жыве на Магілёўшчыне, у вёсцы Канічы. У нас такія назвы — Вялікі Бор, Белы Камень, Журбін. Прыгожыя словы, так? Дарэчы, з нашага раёна шмат пісьменнікаў, нават два народныя.

Увогуле я ўпэўнены, што слову трэба вучыцца ў глыбінцы, асабліва ў жанчын. Прыязджаю да бабулі, яна кажа: «У цябе сцёрся падпятак» — на абцас. Частуе мяне: «Можа, будзеш цалкавуху?» — яечня так называецца. На тых, хто любіць салодкае, яна кажа «малізыннік». Ну вось як пра гэтыя словы раскажаш у вершы? Сабраўся матэрыял такі на кніжку, якую назваў — літаратурна-сентыментальнае падарожжа «Думаць вершы».

**— А дзіцячая мова вас падштурхоўвала да творчасці?**

— Мая жонка жартуе: «Маеш двух сыноў і дзве дзіцячыя кніжкі». Так здарылася, калі сыны былі малыя, разам з кожным з іх нараджалася кніжка. Можа, калі да ўнука дажыву, з'явіцца трэцяя.

**— А калі ўлічваць, што вы родам з вёскі, да працы на зямлі не цягне?**

— Я гэтую працу вельмі люблю. Дажыву да такіх гадоў, калі буду вольным ці стану чалавекам матэрыяльна незалежным, я ў горадзе жыць не буду. Паеду... Калі б у мяне сёння была магчымасць, я жыў бы на прыродзе. Увогуле класічны варыянт: летам жыць у вёсцы, а зімой — у горадзе. Не баюся жыцця вясковага. Прыходзіць час, калі трэба быць бліжэй

да зямлі. А паэт у прынцыпе адзінокі чалавек. Каб адчуць прыліў сіл і энергіі, трэба часам застацца сам-насам з сабой, з Богам.

**— Вы адчуваеце гэтую энергію?**

— Ноччу асабліва, калі навокал цішыня. Ёсць нейкае азарэнне. І калі доўга яго не бывае, на душы быццам не тое.

**— Нешта накшталт своеасаблівай «ломкі»?**

— Цяжка меркаваць — апроч цыгарэт і гарэлкі, ніякіх наркотыкаў не ўжываў. Але калі з пункту гледжання своеасаблівага наталення — можа быць. Напрыклад, адзін час я кінуў курыць. Потым сеў за стол, пачаў пісаць — мне захацелася закурыць... Тое, што з'яўляецца новае адчуванне,— безумоўна, толькі яго цяжка перадаць. Музыку ж немагчыма расшчапіць на гукі, хаця кампазітары перажываюць пэўны стан.

**— Сваіх сыноў вы на чым выхоўвалі?**

— У мяне розніца паміж сынамі даволі вялікая. Адзін сын студэнт 1-га курса, а другі — школьнік. Кожную раніцу я адводжу яго ў беларускі клас, там усяго 5 вучняў. Дома нармальная атмасфера, усе размаўляюць па-беларуску. Сын паступіў на менеджмент ва універсітэт культуры. Малы ў шахматы гуляе — у яго матэматычны склад мыслення. Хаця і імкнуўся іх выхоўваць на літаратуры. Максім, пакуль малы быў, кожны год ездзіў са мной на рыбалку. Для яго я адкрыў Бесядзь. Мы былі маладзейшыя, вазілі больш яго ў вёску. І Лёшку яна не чужая, але ён ужо гарадскі чалавек, інакш мысліць. Сённяшні горад робіць людзей больш прагматычнымі. Але ездзім і з ім — грыбы, ягады, рыбалка. Маё стала іхнім, а далей — паглядзім.

**— І процістаянне бацькоў і дзяцей у сям'і няма?**

— Я рады, што так атрымалася. І што вершаў не пішуць, таксама рады. Яны любяць літаратуру, тэатр. Справа тут не ў спадчыннасці. Але не хацеў бы, каб яны пайшлі ў паэты.

**— Позірк паэта звычайна скіраваны на ўласны шлях, у глыб сябе. Ці часта вы гледзіце ў вочы людзям, што праходзяць міма?**

— Па Мінску нельга не хадзіць і не глядзець на людзей, асабліва на жанчын — яны тут самыя прыгожыя ў свеце. Многа нацый пераплялося, можа, гэта і дало такі выбух прыгажосці, як там у Купалы: «На беларускую дзяўчыну... ніхто й шчэ каменем не кінуў і не паважыцца кідаць». Гляджу на людзей. Канешне, зацюканыя, апошнім часам змрочныя. Але нядаўна ехаў ад сябра, жанчына адна спявала — увесь аўтобус быў страшэнна задаволены.

У асноўным твары сёння засяроджаны на сабе, на ўнутранай рабоце. Хацелася б верыць, шукаць надзею... Я па сваёй натуры фаталіст, нават кніжка ёсць пад назвай «Планіда». Мая бабуля Анісся заўсёды мне казала: «Такая, дзіцёнак, твая планіда». Лёс, значыць. Усё праходзіць, пройдзе і гэты складаны час. На жаль, надоўга зацягнуўся. Я не хвалююся — будзе ў нас літаратура, будзе і паэзія. Калі мова беларуская не загінула за столькі гадоў, у такіх варунках перабыла, то ёй наканавана нармальная будучыня.

**— Ці не ператворыцца чалавек у нейкі камп'ютэр, які падлічвае сённяшнія заробкі на хлеб?**

— Ёсць такая пагроза. Чалавек сёння менш чытае, менш ходзіць у тэатр, менш слухае музыку. Мала прасвятляе душу тая культура, якая сама просіцца ў хату. Узяць хаця б сучасную папулярную музыку. Мне здаецца, яна безаблічная ў параўнанні, скажам, з музыкай Уладзіміра Дамарацкага, майго сябра. Я слухаю яго канцэрт для трубы — я не такі вялікі знаўца музыкі, але ў мяне нараджаюцца асацыяцыі, прыходзяць успаміны, мары.

Дарэчы, нармальныя адносіны з людзьмі — зараз найвялікшая каштоўнасць, якая грэе душу.

**— Ці цяжка для вас прасіць прабачэння?**

— Гэта цяжка, здаецца, для ўсіх. Гэта ачышчэнне. Быццам пакаяцца. Відаць, і бяда нашага грамадства ў тым, што не ва ўсіх грахах пакаяліся. У царкву ходзім, молімся — відаць, мала сапраўднай шчырасці ў нашых зваротах.

**— Памятаеце, калі ўпершыню адчулі палёгку ад даравання?**

— У мяне гэта найбольш адчувалася з братам. З дзяцінства. Бывала, сварыліся з ім, я быў старэйшы, здаралася, крыўдзіў яго. Цяпер яго ўжо пакрыўдзіць цяжка — вышэйшы за мяне, моцны хлопец, дырэктар школы. І зараз, бывае, спрачаемся. Напрыклад, па літаратурных пытаннях. Аднойчы так сутыкнуліся з-за Пастарнака, што я ноччу хацеў ехаць з Лапічаў, дзе гасцяваў у брата. Маці з бацькам дзівяцца на нас: знайшлі з-за чаго спрачацца, няўжо гэта галоўныя турботы ў жыцці? Сапраўды, не матэрыяльныя турботы, але калі яны нас да такой ступені ўзрушваюць, значыць, душы жывыя.

*Алена Пісьмянкова*

# «ТАКАЯ Ў НАС ПАГОДА...»

*Працяг літаратурна-сентыментальнага падарожжа Алеся Пісьмянкова «Думаць вершы...»*

## След каля брамы — мама

Твой талент быў ад мамы, ад свекрыві Марыі Сямёнаўны. Яе дабрыня, душэўная чуласць, заўсёдная рупнасць — гэта твой паэтычны пачатак, яе мяккі магілёўскі дыялект — тая крыніца, з якой ты чэрпаў праз усё сваё жыццё. Ты маляваў сваю маленькую прыбесядскую радзіму з сыноўняй пяшчотаю, не шкадуючы фарбаў сваёй паэтычнай паліт-ры. Ты ўлічваў усё: дакладнасць і значнасць слова, гукапіс, рытм, рыфму. Кожны верш твой — адноўлены храм беларускай паэзіі, дзе я і нашы сыны самыя шчырыя вернікі.

## Дождж на ўзроўні Шапэна

Ты ўсё мог, мог даказаць і гэта. Твой лёгкі паэтычны почырк пакідаў на паперы роўненькія радкі, а твар быў, як у Бога,— прасветлы і суровы. Мне сапраўды пашчасціла ў жыцці, пашчасціла бачыць, як нараджаюцца вершы, і, ведаючы, якая гэта пакута, я хвалявалася, а раптам нашы сыны пачнуць пісаць вершы і думаць іх?

У нашых сынах — Максіме і Аляксеі — я пазнаю цябе, твой характар, тваю ўпартасць і настойлівасць у дасягненні мэты, тваю інтэлігентнасць у адносінах з людзьмі, тваю шчырасць і прынцыповую бескампраміснасць. Для іх ты быў і бацька, і сябар. Гаварыць з імі на роўных, любіць іх усёдара-

вальнай бацькоўскай любоўю – для цябе было самым важным. «Усё лепшае – дзецям!» Ты паўтараў гэтыя словы, калі адмаўляў сабе ў новым адзенні, у прысмаках. Вяртаючыся з камандзіроўкі, абавязкова прывозіў Максіму і Лёшку падарункі. Прыкладам табе быў твой бацька. Ты расказваў мне ды і пісаў у вершах, што ён заўсёды прывозіў з паездкі «зайцаў хлеб» – табе і брату Міколу. І яшчэ. Прыгадваючы сваё дзяцінства, свае леты і зімы каля Бесядзі, ты абавязкова ўспамінаў, што ў вашым доме заўсёды было ўключана радыё. Ты з братам Міколам, а пазней і нашы сыны слухалі «Сельскую раніцу», з ёй вы пачыналі свой летні дзень. У ліпеньскую сенакосную пару твая росная сельская раніца пачыналася яшчэ раней.

Ліпень. Цяпер на Пісьмянковым лузе за рэчкай Зубр трава ў пояс. Чые косы сёлета будуць звінець там?

## Для Вас спявае салавей

Калі мы спрачаліся, мы пераходзілі з табой на «вы». Адразу ўзнікала выратавальная мяжа, якую нельга было пераступіць, якая выратоўвала і цябе, і мяне. З гадамі я стала мудрэйшай – проста імгненна знікала з поля твайго зроку, і тады ты выліваў свае пачуцці на паперу, думаў вершы. І ў празаічным жанры ты застаўся Паэтам. Хто не верыць, няхай прачытае тваё літаратурна-сентыментальнае падарожжа «Думаць вершы...».

## Свой астатні грошык не шкадуй на «Вожык»

У рэдакцыі часопіса «Вожык» табе працавалася складана, там быў не твой калектыў, твой калектыў – гэта «ЛіМ». На пасадзе галоўнага рэдактара «ЛіМа» ты літаральна дняваў і начаваў там. Выйдзе «ЛіМ» ці не выйдзе? Тыраж, папера, вёрстка, а самае галоўнае – змест. Ты імкнуўся зрабіць яго літаратурным. І гэта табе ўдавалася. Нічога дзіўнага. Твой галоўны прынцып кіравання – дэмакратычны, ты заўсёды разлічваў на высокую свядомасць журналістаў, і гэта ніколі не падводзіла цябе.

## Мільгне бярэзнік заінелы

Той наш прыезд у Лапічы быў несвоечасовы. Заўсёды гасцінныя гаспадар і гаспадыня — твой брат Мікола і яго жонка Таццяна — былі тады нечым вельмі заклапочаныя. Адразу адчуўшы гэта, мы перайшлі ў залу, бліжэй да кніг. Ты пераглядаў стосік часопісаў на журнальным століку, каменціраваў кожнае выданне і перадаваў мне. Раптам ты адклаў іх і гучна пачаў чытаць Мандэльштама: «Бессонница. Гомер. Тугие паруса. Я список кораблей прочел до середины...» Так жа нечакана спыніў дэкламацыю і спытаў у мяне: «А пра які гэта спіс у вершы?» Я разгублена адказала: «Спіс караблёў быў у «Адысеі» Гамера».

Ніколі не зайздросціла тваім добрым знаёмым і сябрам. Яны былі заўсёды ў форме. У добрай літаратурнай форме. Упершыню [redacted] пазайздросціла 23 красавіка гэтага года маладой аўтарцы, якой ты рэдагаваў вершы. Яна была побач, у рэдакцыі часопіса «Вожык», калі ў цябе пачаўся сардэчны прыступ. Калі б там была я, ведаю дакладна, ты б застаўся жыць.

## І не сцішыш скавыш, і не выпусціш крыж

У тым, што вершы збываюцца, я пераканалася яшчэ раз 24 і 25 красавіка, калі цябе прывезлі з морга на нашу кватэру, калі ты быў апошнюю ноч дома, калі прыходзілі людзі развітацца з табой. Усю ноч мы былі каля цябе — наш сын Максім, я, твой сябар, мая сяброўка. Ішоў дождж, а я сцішалася ад болю: калі цябе вынесуць, кроплі дажджу ўпадуць на твой твар, рукі, крыж.

На Кальварыйскіх могілках з табой развітваліся твой брат Мікола, твае сябры з Саюза пісьменнікаў, з рэдакцый газет, твае і мае родзічы. Было многа-многа людзей.

Мы вярнуліся дамоў, не дачакаўшыся канца памінак у ДЛ, і наш сын Лёшка сказаў мне: «Мама, цяпер я веру, што Хрыстос быў». Я, сынок, веру таксама. Як не верыць? Нас укрыжавалі разам з Табой.

...Ты мог хітраваць з іншымі, толькі не з самім сабою, але нават у самым істотным, жыццёва важным, ты выступаў заўсёды як абаронца.

### «Народ ні ў чым не вінаваты,<br>Такая ў нас пагода...»

Сёння з вышыні пражытага і пражытага разам з удзячнасцю звяртаюся да цябе. Ты быў і застаўся для мяне і нашых сыноў Чалавекам і Паэтам.

Цяпер на Кальварыйскіх могілках шалаш з вянкоў, сёлетнія частыя дажджы яшчэ не паспелі змыць надпісы на жалобных лентах. І я не развітваюся з табой.

*Алесь Марціновіч*

## БЕЛЫ БУСЕЛ НАД БЕСЯДДЗЮ

Запамятаваў ужо, калі дакладна адбылося наша знаёмства. Помню толькі, што гэта было звязана з маімі выступленнямі на тагачаснай радыёстанцыі «Савецкая Беларусь», што адрасавала свае перадачы нашым суайчыннікам за мяжой. Звычайна знаёміў слухачоў з творчасцю якога-небудзь празаіка ці паэта, але з большым задавальненнем кіраўніцтва ставіла ў эфір тыя матэрыялы, у якіх гучаў голас і саміх аўтараў, найперш маладых, якіх я прадстаўляў.

Неяк Мікола Мятліцкі, які разам са мной працаваў у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», прапанаваў для чарговай перадачы сваіх добра знаёмых студэнтаў-філфакаўцаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта Алеся Пісьмянкова і Уладзіміра Мазго. Я з задавальненнем згадзіўся, бо ведаў іх па асобных публікацыях як таленавітых аўтараў. Дый перадача прайшла не горш, чым іншыя.

Калі ж пасля запісу ўтрох дайшлі да плошчы Перамогі, А. Пісьмянкоў прапанаваў: «А можа, разап'ем пляшку віна?» Не сказаць, каб гэта для мяне прагучала нечакана, але ветліва адмовіўся, разважыў-

шы, што з гэтых студэнтаў возьмеш, і так ледзьве канцы з канцамі зводзяць, не маючы капейчыны ў кішэні. А калі развіталіся і мае новыя знаёмцы заспяшаліся ў тралейбус, гледзячы ім услед і чамусьці вылучыўшы сярод іх А. Пісьмянкова (відаць, таму, што ён быў старэйшы), падумаў наконт яго... Аднак думка, што з'явілася ў мяне так раптоўна, была настолькі нечаканая, што адразу адпрэчыў яе, бо хацелася, каб у ягоным лёсе ўсё склалася зусім не так, як мне чамусьці ўявілася ў гэты момант.

...Рэдка хто можа пахваліцца такім раннім і ўдалым творчым дэбютам, як А. Пісьмянкоў. Хіба што можна згадаць яшчэ незабыўную Яўгенію Янішчыц, тады яшчэ школьніцу з вёскі Рудка Пінскага раёна, якая, быццам хуткакрылая ластаўка, узнялася над Палессем, каб адразу ж «прызямліцца» на старонках вельмі аўтарытэтнай на той час газеты (штотыднёвікам яна стане пазней) «Літаратура і мастацтва». Аднак і Алесь Пісьмянкоў быў зусім юным, калі выступіў у чарговым зборніку «Дзень паэзіі», што выйшаў у 1976 годзе. На той час ён вучыўся ўсяго на другім курсе аддзялення беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Як Генадзь Бураўкін верыў у шчаслівую творчую дарогу Я. Янішчыц, прадстаўляючы яе «лімаўскаму» чытачу, гэтаксама Аляксей Пысін быў упэўнены, што ў далейшым хораша складзецца паэтычны лёс ягонага земляка. А ўпэўненасць з'явілася пасля таго, як Аляксей Васільевіч, вельмі ўважлівы да кожнага таленту, які нагадваў сабой яшчэ бутон, што не паспеў належным чынам раскрыцца, але па якім ужо відаць, што квецень абяцае быць яркай і шчодрай, паспеў прачытаць ягоныя творы.

У невялікім уступе-прадмове «У школе матчынай мовы», што папярэднічала вершам паэта-студэнта, А. Пысін прызнаваўся: «На касцюковіцкім семінары (маладых пачаткоўцаў.— *А. М.*) асабліва прыемным было знаёмства з семнаццацігадовым Алесем Пісьмянковым. Нядаўні дзесяцікласнік, ён працаваў карэктарам у раённай газеце, а жыў у сваёй вёсцы Бялынкавічы, якая паблізу. Танклявы, свет-

лавалосы, знешне ён нагадваў гарадскога падлетка, але быў занадта ціхі і сарамлівы. Можа, разумеючы гэта, у сваіх вершах хацеў быць крыху «байчэйшым», надаваў свайму лірычнаму герою больш сталасці і мужнасці. А лепшыя яго вершы па-юнацку шчырыя і непасрэдныя, у іх шмат пачуцця і такой добрай наіўнасці, якая асабліва кранае».

Аляксей Васільевіч спасылаўся на «зусім не хітры, амаль дзіцячы зварот А. Пісьмянкова: «Ну наплач мне, неба, лужу, // Каб пабегчы басанож!» і не хаваў свайго захаплення: «Колькі святла і душэўнай незамутнёнасці ў гэтых радках! І гэта сапраўдная паэзія».

Шчырасць, непасрэднасць, а часам і тая ж «добрая наіўнасць» характарызавалі і вершы, прапанаваныя А. Пысіным для падборкі ў «Дзень паэзіі». Іх усяго чатыры, але разам з тым гэта і нямала, калі прыняць пад увагу, што шмат каму і з ужо добра вядомых паэтаў было адведзена месца ненамнога больш. Ды рэч, вядома, не ў колькасці: вершы А. Пісьмянкова не толькі не губляліся сярод іншых публікацый, а, наадварот, сваёй прасветленасцю, сонечнасцю, я б нават сказаў, нейкай унутранай празрыстасцю, што выклікае ў душы не проста пачуццё замілавання, а і здзіўлення перад нерушавасцю таленту і ўсяляе ўпэўненасць, што ён у далейшым на многае здатны, выклікалі ў сэрцах сапраўдных знаўцаў і прыхільнікаў паэзіі радасць ад усведамлення, што не пабяднела беларуская зямля на яркія дараванні. Аднаго хацелася: каб гэты голас, яшчэ не акрэплы як след, але ўжо такі, які паспеў няблага прарэзацца, з цягам часу не толькі не замоўк, а і набраўся яшчэ большай моцы.

А пісаў А. Пісьмянкоў у сваіх вершах пра тое, што было ягонаму сэрцу люба і дорага, што спадарожнічала яму з маленства, ад нараджэння, і чым была напоўнена яго гэткая ўражлівая, а яшчэ ў большай ступені адкрытая душа. Праўда, гэта нам, чытачам, здавалася (і тады, дый пасля), што ён проста пісаў. А ён і тады, і пасля не пісаў у традыцыйным разуменні гэтага слова. І нават не жыў вершамі, а думаў імі.

Пра гэта мы даведаліся пазней, калі ў друку пачалі з'яўляцца ягоныя развагі, што паступова выліліся, паводле аўтарскага вызначэння, у «літаратурна-сентыментальнае падарожжа» пад назвай «Думаць вершы...». У іх адразу, ледзь узяўся абжывацца ў новым для сябе жанры, прагучала прызнанне, якое, як відаць з ягонага зместу, прыйшло не адразу, а стала вынікам асэнсавання і ўласнага мастакоўскага шляху і разам з тым той дарогі, якую раней прайшлі іншыя, набыўшы пры гэтым куды больш значны, а таму і павучальны ў сваёй сутнасці вопыт:

«Паэты з уласнай практыкі ведаюць, што вершы не пішуць, вершы думаюць, вершы выношваюць і толькі потым запісваюць. Невыпадкова раней у літаратуры існавала дума як жанр. Памятаеце, у Лермантава — «Дума», у Янкі Купалы — «Думка», у Тараса Шаўчэнкі — «Дума»... Я ніколі не пісаў вершаў — я іх думаў».

Вершы думаў ён, крочачы за ваколіцу Бялынкавіч — туды, дзе імклівай стужкай разлілася рака ягонага маленства і рака маленства Аркадзя Куляшова — Бесядзь, творчасць якога цудоўна ведаў і любіў, і, як пасля даведаўся, родная рака яшчэ аднаго выдатнага ўраджэнца тамашніх мясцін — Івана Чыгрынава.

Бесядзь змалку гайдала яго на сваіх хвалях, яна ж калыхала і ягоныя мары, якія сягалі далёка-далёка за небакрай, што хаваўся за мройнасцю абсягаў. І гэтыя дзіўныя сэрцу вобразы не маглі не выліцца ў вершы:

Прысядае сонца нізка
І глядзіць у вочы рэк,
Нібы маці над калыскай,
Нібы добры чалавек.
Ціха-ціха, вечарэе,
А я памяць варушу.
Вечар сум, бы зерне, сее
У адкрытую душу.
Млеюць тонкія рабіны,
У іх — вячэрні сум.
Успаміны, успаміны,
Кветкі мар і кветкі дум.
Развітанні і сустрэчы,
Сум і радасць па чарзе.
Ну, а гэты, гэты вечар,
Што ён сёння прынясе?

Пытанне гучала, але адказ на яго па сутнасці і не патрабаваўся, бо ён, адказ гэты, канешне ж, быў звязаны з усім далейшым жыццём лірычнага героя, з тым жыццём, што пачыналася ў яго з роднай вёскі, ракі, з тых жа даляглядаў, якія памяць ніколі не выкрасліць са сваёй скарбонкі. І яны, гэтыя малюнкі, на завяршэнні верша ажывалі паўторна, цалкам супадаючы з тымі, што гучалі на пачатку твора, быццам абрамляючы, ператвараючы ў тое адзінае цэлае, з чаго немагчыма нічога выкрасліць, іначай паэтычны малюнак страціць сваю завершанасць і вобразна-сэнсавую напоўненасць:

Прысядае сонца нізка
І глядзіць у вочы рэк,
Нібы маці над калыскай,
Нібы добры чалавек.

Гэты безыменны верш, несумненна, робіць гонар любому паэту, таму я здзівіўся, калі не напаткаў яго ў першай Алесевай кнізе «Белы камень», што выйшла ў 1983 годзе. Яшчэ больш здзівіўся, што ён не трапіў і ў ягонае выбранае «Я не памру, пакуль люблю» (2000), годна прадстаўленай у серыі «Беларуская паэзія XX стагоддзя». Тым больш падставы для недаўмення былі, калі прыняць пад увагу, што Алесь, складваючы згаданы аднатомнік, неаднойчы прызнаваўся, што твораў набіраецца не так і шмат. Ва ўсякім разе, да таго аб'ёму, які прапаноўвала выдавецтва «Мастацкая літаратура», кніга не дацягвала. Аднак на мае настойлівыя прапановы ўключыць у выбранае што-небудзь са сваіх ранніх твораў, адказваў катэгарычным «не!». «Адмовіўся» не толькі ад верша «Прысядае сонца нізка...», але і яшчэ ад аднаго з той жа падборкі ў «Дні паэзіі», які, я ўпэўнены, у кнізе «Я не памру, пакуль люблю» не быў бы лішні, таму што лішні раз засведчыў бы аб тым, як хараша, надзіва прачула-лірычна раскрываўся талент паэта ў яго юным узросце:

Мая вёска, мая вёска,
Сонца
мар маіх, надзей,
Усміхаецца бярозка,
Сустракаючы людзей.

Тут і радасць, і трывога,
Кожны кут мне дарагі.
Хлапчуком я басаногім
Рос ля Бесядзі-ракі.
Тут харошымі дзянькамі
Ля зялёных явароў
Я з вясёлымі дзядзькамі
Вудзіў шэрых печкуроў.
Мая вёска, мая вёска,
Сонца
    мар маіх, надзей.
Усміхаецца бярозка,
Сустракаючы людзей.

Ды каб жа толькі раннія публікацыі былі ім тады «адпрэчаны». Не трапілі ў выбранае і асобныя творы з кнігі «Белы камень». Былі старанна «прасеяны» і наступныя: «Чытаю зоры» (1988), «Планіда» (1994), «Вершы» (1997). Усё гэта, безумоўна, сведчанне вялікай патрабавальнасці А. Пісьмянкова да самога сябе, да свайго слова. Часам, як мне падаецца, нават празмернай патрабавальнасці.

Калі разважаць у гэтым накірунку далей, у яго было ўвогуле асаблівае стаўленне да паэтаў. У тым сэнсе, што па сутнасці не прымаў тых з іх, якія пісалі і пішуць шмат. Не абыходзілася, зразумела, і без выключэння. Той жа Куляшоў, Максім Танк і некаторыя іншыя, кім па-сапраўднаму захапляўся. Ды прычына падобнай катэгарычнасці, думаецца,– усё ж не адна патрабавальнасць.

Сам пішучы мала і, трэба прызнаць, марудна, А. Пісьмянкоў і да напісанага іншымі ставіўся толькі з падобнага пункту гледжання. У тым ліку і створанага празаікамі. Мае довады, што такое меркаванне аднабаковае і памылковае, бо як колькасць не заўсёды пераходзіць у якасць, так і нельга адназначна сцвярджаць, што сама па сабе адсутнасць гэтага, груба кажучы, творчага вала, аўтаматычна прыводзіць да з'яўлення высокамастацкіх твораў, нічога не давалі. Алесь настойваў на сваім, называючы прозвішчы тых паэтаў, хто сваёй творчасцю падмацоўваў правільнасць менавіта ягоных меркаванняў. Праўда, і я здавацца не збіраўся, спасылаючыся на прыклады адваротнага характару, даводзячы, што ў кожным канкрэтным выпадку неабходна

зыходзіць са значнасці таго ці іншага таленту, а ўжо як выяўляецца ён – рэч другарадная, галоўнае, каб усё адпавядала высокаму прафесіянальнаму ўзроўню.

Мастакоўская спадчына А. Пісьмянкова (як душа ні працівіцца такому сцвярджэнню, ды ад яго нікуды не дзенешся, бо яно ў дачыненні да напісанага ім паспела стаць рэальнасцю – суровай і разам з тым непазбежнай, і відавочна, што паступова будзе з'яўляцца ўсё большая неабходнасць вызначэння ягонага месца ў сучасным літаратурным працэсе, а пачынаць гэта рабіць трэба ўжо сёння) патрапляе пад вызначэнне: малы залатнік, ды дарагі.

Сапраўды, калі сабраць усё напісанае ім, а гэта не толькі «дарослыя» вершы і згаданыя публіцыстычныя развагі, а і тры кнігі паэзіі для дзяцей, набярэцца ненашмат болей за дзесяць улікова-выдавецкіх аркушаў, але гэта ўсё тое, што з поўным правам трэба аднесці да безумоўных ягоных мастакоўскіх набыткаў, а значыць, і да набыткаў беларускай паэзіі ў цэлым.

Атрымліваецца, што А. Пісьмянкоў усё ж не памыляўся, калі быў перакананы, што той з паэтаў, хто выступае ў друку не часта, нязменна трымае планку мастацкасці на высокім узроўні. Правільна гэта, аднак, найперш у дачыненні да яго самога. Як правільным будзе і сцвярджэнне, што А. Пісьмянкоў – адзін з нямногіх, хто з першых жа сваіх творчых крокаў аказаўся гэтак цесна прывязаны да роднай яму бесядскай зямлі, а яшчэ адразу намацаў тую сцяжыну, што вядзе ў мінуўшчыну роднага краю, кранаецца самых вытокаў, а ўжо з гэтых агледзін даўніны паспяхова перайшоў і да больш глыбокага асэнсавання паняцця Радзімы, Бацькаўшчыны, Беларусі.

Яшчэ тады, калі сёй-той з сённяшніх праўдалюбцаў «прымерваўся» да партыі, малады паэт, не паддаючыся на кан'юнктуру, ва ўвесь голас загаварыў пра самае кроўнае і дарагое яму. У гэты ж час быў напісаны адзін з лепшых ягоных вершаў, што напачатку называўся «Ля карціны П. Сергіевіча «Званар». Пазней назва яго не тое што канкрэтызавалася, а набыла больш шырокі сэнс – «Званар». Пад

званаром А. Пісьмянкоў разумеў абуджальніка народа ад сну нацыянальнага бяспамяцтва.

Алесь вельмі любіў гэты свой твор. Дзе б яму ні даводзілася выступаць, абавязкова чытаў свайго «Званара», і тады яго голас, і такі моцны часам, набываў нават нейкія сталёвыя адценні. Уражанне было такое, што сам паэт кліча народ за сабой, узнімае яго ў абарону Беларусі і беларускасці:

А звон заве ісці на «вы»,
Нібыта голас чалавечы.
Ён Беларусь заве на веча,
Каб адстаяць свае правы.

...Былым павеялі вякі,
І прыгадалася нанова:
Каб у народа вырваць мову,
Ў званоў ірвалі языкі.

У А. Пісьмянкова жыло, напаўняла ягонае сэрца і душу да самых краёў асаблівае стаўленне да свайго народа. Ён не захапляўся ім безаглядна, як гатовы захапляцца тыя, хто клянецца ў вернасці яму. Аднак і не папракаў свой народ за тое, што ён быццам не такі, якім павінен быць. Успрымаў яго такім, які ён ёсць і на самой справе. Калі ж і гатовы быў у чымсьці папракнуць, дык найперш гэты папрок адрасаваў сабе самому, бо пастаянна ўспрымаў сябе сынам свайго народа, сынам Беларусі. І гэтае сваё стаўленне цудоўна выказаў у адным са сваіх твораў, што павінен быў увайсці ў яго новую кнігу:

Год не прыходзіцца на год —
Такая ў нас пагода:
Не наракаю на народ,
Які не стаў народам.

З яго герой і супастат,
І кат з яго, з народа,
Народ ні ў чым не вінават —
Такая ў нас пагода.

Не варта вулей варушыць,
Знайсці б з сабою згоду...
Найлепей жыць, як набяжыць
У гэткую пагоду.

Скажы, скажы, каго тут крыць,
Бо ёсць даўно нагода?
Ды што дарэмна гаварыць,
Я сам, браток, з народа.

А перад усім было жаданне высвятліць свае ўласныя вытокі. І невыпадкова, а сімптаматычна тое, што першая ягоная кніга адкрывалася не якім-небудзь іншым творам, а менавіта «Баладай роду». Аднак не ад уласнага імя пісаў, а падаваў гэтую гісторыю як прамоўленае адным са сваіх дзядоў, і ў выніку такога мастацкага прыёму гаворка набывала яшчэ больш важкі сэнс, бо тое, што ажывала падчас яе, сягала з самых глыбінь даўніны, а тым самым ненавязліва адчувалася сувязь некалькіх пакаленняў, а яшчэ, што таксама важна, паэтаў продак успрымаўся часцінкай усяго народа, які здаўна насяляў гэты куток беларускай зямлі:

— З Дняпра наш продак родам,
З зямлі Машэкаў і Вашчыл.
Гарачы норавам і сэрцам,
Як люд у нашай старане,
Вачэй радзіміцкіх азерцы,
Крыху гарэзінкі на дне.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
З пяром і граматай у згодзе
Ён жыў. І незнарок,
Казалі, князь пры ўсім народзе
Яму імя даў — Пісьмянок.
Ён і пачаў баладу роду,
Вянец ён першы залажыў.

Гэтая повязь пакаленняў яскрава прысутнічае і ў вершы «Дзень нараджэння», змешчаным у кнізе «Чытаю зоры», у якім паэт вяртаецца ў той момант, калі «на трынаццатым годзе // пасля вайны, // калі завіруха зямлю бінтавала, // дзедава хата // пачула мой плач — першы плач, // які ніколі не палохаў...». Хто ні заходзіў у хату, усе ўзіраліся ў партрэты ягоных дзядоў, «знаходзілі ўраз падабенства, // маё падабенства»:

Адзін толькі бацька
маўкліва глядзеў у акно,
глядзеў, як зямлю завіруха бінтуе,

і, саўладаўшы з пякучай слязою,
вымавіў ціха:
— Ён будзе жыць за абодвух —
за Хведара
і Кузьму.

Бачыў А. Пісьмянкоў сваю роднасць і іншага кшталту, звяртаючыся ў вершы «У Каменцы» (таксама з першай кнігі) да падзей, звязаных са знаходжаннем у маёнтку Давыдавых дзекабрыстаў, наведваннем да іх Пушкіна. А для таго каб найлепш выказаць гэтую повязь, знаходзіў нечаканы і надзіва выйгрышны сюжэтны паварот, як бы падкрэсліваючы сваю асабістую прысутнасць у тым часе:

...Яшчэ не б'е Дантэсаў пісталет,
Не ганьбіць свецкая гамонка,
Яшчэ смяюцца звонка-звонка
Мішэль Бястужаў і Паэт.
Яны ідуць пад небам сінім —
Няхай іх сівер не кране,—
Яны гавораць пра Расію
І, можа, нават — пра мяне.

Прадбачу, што сёй-той скептычна ўсміхнецца: знайшоў сабе цытату. Мала што мог напісаць малады паэт, каб гэта некалі гучала ва унісон часу. Памыляецеся, панове: у адрозненне ад многіх А. Пісьмянкоў не пісаў на «злобу дня», а толькі прамаўляў тое, што ім было ўнутрана перажыта, асэнсавана і чымсьці лягло на душу. Як мне здаецца, толькі аднойчы ён здрадзіў гэтаму прынцыпу, калі ў яго з'явіўся верш, у якім згадвалася імя Паўліка Марозава. Вядома ж, у негатыўным святле.

Я папракнуў яго ў адной са сваіх рэцэнзій. Штосьці падобнае заўважыў і падчас нашай сустрэчы. Тады Алесь нічога не адказаў. Адказаў па сутнасці праз некалькі гадоў, калі адзначаўся (пры нашым ужо часе) «круглы» юбілей камсамола. А паколькі А. Пісьмянкоў з'яўляўся лаўрэатам яго, то атрымаў запрашэнне, спачатку вуснае, на маючыя адбыцца ўрачыстасці. Аднак пісьмовага так і не дачакаўся, бо прызнаўся, што мае званне лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, хоць ніколі і нічога пра камсамол не пісаў.

Гаварыў, вядома ж, праўду. А пра лучнасць беларускага і рускага народаў пісаў. Не пабаяўся магчымых папрокаў і ўключыў верш у сваё выбранае. Гэта быў свайго роду ўчынак і быццам падказка іншым, як трэба рабіць і як неабходна дзейнічаць, калі ў нечым бачыш сваю праваду, не зважаючы на тое, падабаецца гэта некаму ці не падабаецца, галоўнае, каб яно адпавядала твайму асабістаму ўспрыманню і разуменню той ці іншай з'явы. Аднак, адстойваючы сваю пазіцыю, А. Пісьмянкоў не збіраўся штосьці даказваць, нешта даводзіць ледзь не з кулакамі.

Як не ўспомніць у сувязі з гэтым ягоны верш «Вам ахвота крычаць...», які мне хацелася прачытаць, развітваючыся з Алесем падчас жалобнай паніхіды. Магчыма, узяў бы і нейкі іншы, але калі наўгад раскрыў выбранае, позірк запыніўся якраз на ім. Ды так і не прачытаў яго.

Прабач, Алесь, за гэта.

Прабач і за тое, што не праводзіў цябе да месца твайго вечнага спачыну.

У аўтобус і машыны, якія ішлі на Кальварыйскія могілкі, рынулася гэтулькі тваіх «сяброў», што я палічыў за лепшае моўчкі развітацца з табой ля твайго роднага дома. Магчыма, трэба было ўсё ж неяк уціснуцца, паехаць на могілкі. Ды верш, твой верш не дазволіў мне зрабіць гэта. Баяўся, што, калі ўсё ж пачну яго чытаць ля свежай магілы, не стрываю, сарвуся, скажу нешта такое, чаго ў падобны момант усё ж не трэба казаць...

Вам ахвота крычаць,
Мне ж — паплакаць крадком,
Мне б крыху памаўчаць
З сябруком Маруком.

І куды мы імчым?
І чаго мы крычым?
Памаўчым над святым,
Аб святым памаўчым.

Слоў разменную медзь
Колькі можна збіраць...
Памаўчаць трэба ўмець,
Трэба ўмець памаўчаць.

Ён меў права так сказаць, бо сам умеў маўчаць. Не ў тым сэнсе, вядома, каб стрымліваць сябе ў гаворцы,– тыя, хто добра ведаў Алеся, сябраваў з ім, ведаюць, што гэта быў сапраўдны вулкан пачуццяў, эмоцый, нейкай неўтаймаванасці. Маецца на ўвазе маўчанне іншага кшталту. Тое маўчанне, за якім хаваецца высокая ўнутраная культура, якая ніколі не дазваляе чалавеку пераступіць праз святое, крэўнае, вечнае. Як і не дазваляе камусьці настойліва навязваць уласныя думкі, выдаючы іх за ісціну ў апошняй інстанцыі. А яшчэ прымушае да таго пастаянства, што само па сабе найлепшым чынам характарызуе чалавека, для якога хамелеонства – не тое што непрымальнае, а проста агіднае:

Не спяшайцеся мяняць
акуляры ружовыя
на звычайныя:
гэта не толькі змена оптыкі
ці перамена колеру –
гэта найперш
перамена поглядаў:
перамога звычайнасці
над узнёсласцю,
раўнадушша
над шчырасцю.
І, нарэшце,
ў акулярах ружовых
вы трошкі мастак...
Не спяшайцеся мяняць
акуляры ружовыя...
Гэта раю вам я –
чалавек
у звычайных акулярах.

«Чытаў зоры», каб лепей спазнаць сваю зямлю.

«Чытаў тапаніміку», каб глыбей пранікнуць у сутнаць назваў, што перадаюцца ад пакалення пакаленню.

І апяваў хараство краявідаў, што з гадамі не толькі не забываліся, а пры кожнай новай сустрэчы з імі яшчэ больш вабілі. Такая любоў настолькі напаўняла паэта, што ягоны лірычны герой, адчуваючы гэтую спаконвечную еднасць, прызнаваўся ў сваіх пачуццях да Бацькаўшчыны, быццам на адным дыханні. Таму ягоныя вершы і такія кароткія.

Алесь прызнаваўся: «Амаль ніколі не пішу — я запісваю. Паэты добра ведаюць, што часта першыя строфы прыходзяць самі, яны нараджаюцца лёгка, без усякай натугі, і дыханне іхняе натуральнае і нязмушанае. Яны як падарунак ад Бога. Іншы раз нават здаецца, што да іхняга з'яўлення на гэты свет ты не маеш ніякага дачынення. Проста табе быў голас аднекуль адтуль, і ты яго ўсяго толькі падслухаў ды запісаў на чысты аркуш паперы».

Падслухаў А. Пісьмянкоў сам сябе і ў гэтым вершы:

Вечар вынырнуў нясмела,
Цені чорныя кладзе.
Сонца яблыкам паспелым
Хутка ў Бесядзь упадзе.

Вінны водар б'е у скроні,
Спелых яблык хмеліць пах.
Уздыхаюць сумна коні
На мядовых берагах.

У туманы клічуць сосны,
Нібы мачты караблёў.
Толькі мне збірацца позна —
Я ўжо сэрца раскалоў.

І, відаць, невыпадкова
Боллю сціснулі ціскі:
Я не той, не свой, вясковы
І зусім не гарадскі.

Ёсць у гэтых радках штосьці ясенінскае. І не толькі ў самой інтанацыі іх, сваяцтва тут і іншага плана. Як і ягоны выдатны рускі папярэднік, А. Пісьмянкоў часта адчуваў сябе адзінокім:

Ад неба блізкі ці далёкі,
Хоць у царкве, хоць на піру —
Паэт заўсёды адзінокі,
Я гаварыў і гавару.

Як і С. Ясенін, ён пастаянна знаходзіўся на свайго роду ростанях, і яго гэтаксама не хацела адпускаць ад сябе вёска. Ды шмат у чым чужым адчуваў сябе і ў горадзе. Падобнае свайго роду раздваенне асобы, душы выклікала пэўную непрыкаянасць,

нараджала няпросты, а часам і пакутлівы роздум. А ўвогуле і ў яговым знешнім выглядзе было штосьці ясенінскае. І гэта не толькі маё назіранне.

Пасля наведвання Польшчы Алесь з гумарам расказваў, як у адным з рэстаранаў нечакана пачуў: «Сережка!» Недаўменна азірнуўся па баках, але яшчэ больш здзівіўся, калі стараваты мужчына на добрым падпітку, кінуўся менавіта да яго.

— Друг мой! — пачаў ён абдымаць А. Пісьмянкова.

Як высветлілася, гэта быў адзін з польскіх акцёраў, а рускую мову ён добра ведаў таму, што нарадзіўся ў Баранавічах. А. Пісьмянкоў, зразумела, узрадаваўся, напаткаўшы земляка. А той пачаў даводзіць, што захапляецца творчасцю Ясеніна, а Алесь, маўляў, вельмі падобны на яго.

Паэзія А. Пісьмянкова не можа не выклікаць захаплення. Калі хто і паставіцца абыякава да створанага ім, дык толькі той, хто ў прыгожым пісьменстве нічога не разумее. Яговая паэзія вабіць да сябе нязмушанасцю радка і адначасова яго надзвычайнай ёмістасцю, што нярэдка пераходзіць у філасофскую напоўненасць. Яна настолькі прачулая, што здаецца, усё, што напісана ім, выплеснута і з тваёй уражлівай душы. У ёй ёсць жыццёвая моц, але яна прываблівае і сваёй духоўнай трываласцю. І гэта пры здзіўляючай лаканічнасці, што месцамі нагадвае сабой нават пэўную эскізнасць, але эскізнасць гэтая — не штрыхавая, а контурна выразная, асязальная, а таму і атрымліваецца паэтычны малюнак такім зрокава выразным і пераканальным.

Хораша прыкмеціў адметнасць паэтычнага пісьма А. Пісьмянкова Барыс Бур'ян: «Паэту ўласціва ёмістае мысленне; ён піша лапідарна, не дазваляе ніякай расплывістасці ў словах і радках.

Музыка лірыкі...

Калі яна працінае верш А. Пісьмянкова, яе плынь адлюстроўвае нават самыя далікатныя пачуцці ў люстры па-майстэрску выкананага мадрыгала. Не, я не перабольшваю, калі кажу: па-майстэрску».

...А тады, падчас нашага знаёмства, са шкадаваннем падумалася: «Пройдзе не так і шмат часу, і трапіць А. Пісьмянкоў па размеркаванню ў якуюнебудзь вёску (як-ніяк, а будучы выкладчык беларускай мовы і літаратуры), і хто яго ведае, як складзецца ў далейшым ягонае творчае жыццё, бо, не жывучы ў сталіцы, усё ж цяжка прабіцца ў выдавецтвы нават і тым, хто паспеў ужо звярнуць на сябе належную ўвагу».

На шчасце, гэтыя мае змрочныя прадчуванні не спраўдзіліся. А. Пісьмянкову пашанцавала, затрымаўся ў Мінску. Дый у далейшым прафесійны, творчы лёс у дачыненні да яго аказаўся спагадны. Атрымаўшы дыплом аб вышэйшай адукацыі, працаваў у аддзеле крытыкі і бібліяграфіі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», перайшоў у часопіс «Полымя» рэдактарам аддзела навукі і мастацтва, выбіраўся сакратаром Саюза пісьменнікаў Беларусі, а потым вярнуўся ў «Полымя» намеснікам галоўнага рэдактара, каб пазней зноў перайсці ў «ЛіМ», цяпер ужо галоўным рэдактарам. Апошнім часам узначальваў рэдакцыю гумарыстычна-сатырычнага часопіса «Вожык».

Многія з творчых людзей па-добраму могуць пазайздросціць такой службовай кар'еры. Чаго не скажаш пра лёс жыццёвы. Ён, у адрозненне ад творчага, выпрабоўваў А. Пісьмянкова жорстка, нават з нейкай садысцкай паслядоўнасцю. Блізкія Алесю людзі адыходзілі адзін за адным, пакідаючы ў ягонай душы глыбокі след, а ў сэрцы — незагойныя раны. А сэрца ён меў хворае, аднак да ўрачоў не тое што не спяшаўся, а ніколі не наведваўся да іх. Мае запэўніванні, што гэта можа кепска скончыцца (перанесены мною інфаркт многаму навучыў), нічога не давалі.

Калі чалавек памірае, найперш падчас ягонага імгненнага адыходу, інакш пачынаеш успрымаць шмат якія ягоныя ранейшыя выказванні, абавязкова шукаючы ў іх нейкі патаемны сэнс, што на адлеглasці ўспрымаецца ўжо як змрочнае прадчуванне. У дачыненні да пісьменніка, прынамсі, зрабіць гэта прасцей, бо ўсё тое, што гняло яго, не давала спа-

кою, выклікала трывожныя думкі, як правіла, занатавана на паперы.

Алесь Пісьмянкоў – не выключэнне. Прытым задумвацца над хуткаплыннасцю жыцця пачаў ён рана. Завельмі рана. Яшчэ ў кнізе «Чытаю зоры» напаткоўваеш верш, у якім ён упершыню спрабуе зазірнуць *туды*, дзе знікае паўсядзённае жыццё і пачынаецца невядомасць. Аднак пакуль гэта ўспрымаецца толькі як тая наканаванасць, у якую хоць і верыш, але цалкам з ёй пагадзіцца не можаш:

> «Я ўжо дома, а ты — ў гасцях...»
> І суцяшэнне, і пагроза.
> Розум
>         пагаджаецца цвяроза,
> А цела —
>               халадок працяў.
> Даруй, паэце невядомы,
> Я напамін твой берагу
> І ўсё ж паверыць —
>                           не магу,
> Што дом мой там,
>                        што я — не дома.

Можна было б палічыць з'яўленне гэтага твора выпадковым, калі б пазней згаданы матыў у рознай інтэрпрэтацыі не пачаў гучаць усё настойлівей, і нагэта пры тым, што сам А. Пісьмянкоў разумеў, наколькі непрадумана сказанае слова можа стаць учынкам:

> Вершы могуць здарацца,
> Вершы могуць прысніцца,
> Могуць плакаць, смяяцца,
> Крычаць і маліцца.
>
> Вершы могуць забыцца,
> У куточак забіцца,
> Замаўчаць, затаіцца,
> Каб аднойчы адбыцца.
>
> І збыцца.

Пра гэта ён сведчыў і ў адной са сваіх размоў «Ці збываюцца вершы?».

Разумеў небяспеку неасцярожна прыведзенага слова і ўсё ж пісаў. Не мог не пісаць, бо недзе глыбока ў душы не давала спакою тое, што ведаў, бадай, толькі ён сам. І трымаў у сабе, каб толькі зрэдку, калі на душы станавілася асабліва нясцерпна (балюча? трывожна? пакутліва? непрыкаяна? — на гэтыя пытанні адказу так і не дасі), што-кольвечы даверыць радкам-споведзі. Той споведзі, якая цяпер з'яўляецца для нас загадкай і гэткай загадкай застанецца назаўсёды. Дый адну са сваіх кніг ён, відаць, невыпадкова назваў «Планіда»:

У кожнага зорка свая,
Кожнаму кубак наліты.
У кожнага доля свая,
Ці, як кажуць,
планіда.
Усе мы ў гасцях на піру,
І званыя ўсе мы нібыта.
Я свой кубак спакойна бяру:
Буду піць —
як наліта.

Загадка і ўся ягоная паэзія. У тым сэнсе, што, як на першы погляд, быццам нічога нечаканага ў ёй няма, матывы цалкам традыцыйныя, а бярэ ж, як кажуць, за жывое, кранаецца самых патаемных душэўных струн. Ды інакш і быць не можа, бо ўсё, напісанае А. Пісьмянковым,— не толькі талентам народжана, а і прапушчана праз ягонае сэрца, напоўненае любоўю да чалавека і безабароннае перад няшчырасцю, двурушнасцю. І некалі прамоўленае ім, сёння ўжо ўспрымаецца і ягоным голасам адтуль. З нематы і вечнасці:

Я прыеду, я вярнуся,
Я прыйду да плыткай рэчкі,
Дзе самотны белы бусел
Думу думае аб вечным.

Як і год, і два, і дзесяць,
Мо яшчэ з сярэднявечча,
Ён вартуе рэчку Бесядзь,
Думу думае аб вечным.

Я вярнуся, пакланюся
І яму, і нашай рэчцы,
Я з ім ціха пажуруся
І падумаю аб вечным.

Пакланюся, пажуруся
І ў тумане знікну заўтра...
Белы бусел, белы бусел –
Мой задумлівы сааўтар.

*Уладзімір Марук*

## «І ВЫРАЙ ЖУРЫЦЦА АПОШНІ...»

«Я ўсё яшчэ плыву без вас, Стрыжак і Рубін»,– пісаў мой найлепшы і незабыўны сябра Алесь Пісьмянкоў, згадваючы нашых агульных сяброў, якія так рана пакінулі гэты тлумны свет. І вось – як нейкае наканаванне – не стала і яго, пайшоў у далёкую незваротную дарогу, каб дзесьці сярод зорак напаткаць сваіх сяброў, хоць і пісаў, што «позна ўжо ляцець да зорак і рана думаць пра пагост». Я ж не магу пераказаць словамі, як мне непрытульна ў жыцці без яго. Пра гэта ведаюць толькі сэрца і душа...

А пазнаёміліся мы з Алесем перад філфакаўскім ганкам, калі паступілі вучыцца ва універсітэт у 1975 годзе. Размеркавалі нас тады па групах, і кучкаваліся мы асобнымі купкамі – хто ў якую групу трапіў. І вось з адной з такіх «не нашых» купак адлучаецца і падыходзіць да мяне светлавалосы прыгожы хлапец і пытаецца:

– Ты, мабыць, Уладзімір Марук?

– Марук... А адкуль ты мяне ведаеш?

– Ды чытаў твае вершы ў «Маладосці», яны мне спадабаліся. А там жа здымак ёсць. Вось і пазнаў. Давай знаёміцца – Алесь Пісьмянкоў. Я таксама вершы пішу, праўда, мала дзе друкаваўся. Ці ведаеш ты паэта Аляксея Пысіна? Ён падтрымаў мяне і надрукаваў мае вершы ў «Магілёўскай праўдзе»...

Я не даў яму больш нічога сказаць:

– Слухай, ды з тваім прозвішчам толькі вершы й пісаць. А я ж вучыўся ў бібліятэчным тэхнікуме ў

Магілёве, а тры мае самыя першыя вершы таксама надрукаваў Пысін...

Алесь адразу здзівіўся, а потым ажно засвяціўся нябачным прыязным святлом, бо яму было вельмі да сэрца, што мяне, брэсцкага хлопца, упершыню заўважыў і надрукаваў яго, калі можна так сказаць, літаратурны бацька. І мне сёння здаецца, што нас тады паяднала нават, можа, не паэзія, а прысутнасць у ёй Аляксея Васільевіча Пысіна, які парадніў нашы лёсы.

Праз хвіліну-другую высветлілася, што ні яму, ні мне не выдзелілі месца ў інтэрнаце, таму разам пайшлі шукаць кватэру і знайшлі на паэтычным праспекце Пушкіна...

Пасля сарака дзён па Алесю крыху ачуняла душа, супакоіліся нервы і я пачаў пісаць цыкл вершаў, прысвечаны памяці сябра, пад назваю «І вырай жу-рыцца апошні...». Гэта ягоныя радкі. Напісаў толькі сем. На большае пакуль што не хапіла душэўнай моцы.

* * *

Быццам мараў воблікі,
Праплываюць воблакі.
Недзе там у Боблаве
Даспяваюць яблыкі.

*Алесь Пісьмянкоў*

Выйшаў з улоння,
як з логава,
Ды не паспеў і ашчэрыцца,
Каб пра пакутнае
Богава
Думаць,
а потым зняверыцца.

Ці ля Сажа,
ці то й побачкі,
Дзе і ўтапіцца не хочацца...
Дзе нават з Боблава воблачкі
Ў гэтакім свеце
гароцяцца.

* * *

Ну дзе ты,
ну дзе ты,
Айчына без сына?!
Ну дзе ты?..
Калі — не дай Бог — анідзе?!

Спытае зямля,
як прысніцца жанчына,
Бы ўтоліць-замружыць
у плыткай вадзе.

Ну дзе ты?..
Знядбаны,
знябыты,
зняверца,
Твой сын,
што апрык і абрыд,
як не сам?..
Калі не паверу,
што вернецца сэрца,
Табе нізавошта сябе не аддам.

* * *

І быў я там,
дзе не спаткаў
Свайго прымроенага следу,
Каб і хацеў —
дык не саткаў
Слязу,
слязінку-распаведу,
Бо ў ёй нізгадачкі няма
Мяне,
зманутага табою...
І калі стане зноў зіма —
То не пакутнай,
ды зімою.

* * *

Ну што там на ўскрайку?..
Жыццё, а ці людзі?
Ну й што там штохвілі —
ці людскае ёсць?
Ці грукні,
ці ляпні
ў нягеглыя грудзі,—
Ну й што?!
Як была —
не забудзецца злосць.

Ну сядзем,
ну ўспомнім
ды вып'ем кілішак
І цвёрдаю моваю скажам:
«Амінь!»
І збудзецца наш непрытульны зацішак,
Ў якім,
як і быў,
застанешся — адзін.

* * *

Лепш не магу расказаць,
як раслі
Кветкі,
якія няможна клясці...
Вунь зааралі той лапік зямлі,
Дзе анічога не хоча расці.

Як ні спрабуюць
цвісці карані,—
Вырасце штось —
не прарок і не хам...
Гэтую праўду як хочаш кляні,—
Тое ж накляцце
пачуеш і сам.

* * *

Як толькі маркоту спаўю сівізною,
Як нельга сабою
ў цішы абазвацца,
Тры калівы цемры
і водбліскі гною
Сплывуць-паплывуць,
каб без Ноя застацца.

У доўтім, таропкім
бязлюддзі-бязглуздзі
Як быў —
і стаю,—
з дзіва-дзіў недарэка...
Калі й прыгадаю,
што вольныя людзі,
Забуду,
як можна спазнаць чалавека.

* * *

Рыпіш?..
Хоць-кольвечы рыпі,
Пакуль нязведаны-нязводны.
Пі — захлынайся...
Раптам — пі,
Бы самы-самы першародны.

А потым —
зноўку,
зноў і зноў
Перацячэ цяплынь у холад,
Ды неспазнанае з высноў
Натоліць
неспатольны голад.

У Мсціслаўлі на святкаванні Дня беларускага пісьменства

У Оршы ля помніка У. Караткевічу з Н. Гальпяровічам і П. Саковічам. 2001 г.



аднаго чалавека (так яго ахарактарызаваў Віктар Карамазаў). На пытанне чалавека: «А ў чым, прабачце, практыкуецеся?» кароткі Алесеў адказ «у вершах» прагучаў так вычарпальна, што не спатрэбілася больш іншых тлумачэнняў, каб азначыць занятак паэта.

Алесь ведаў, што часам напісанае збываецца. І, відаць, не вельмі верыў гэтаму. Неаднойчы запытваў: «Ці збываюцца вершы?», нібыта шукаў адказу ў другіх, ці збудзецца напісанае ім пра сябе і іншых. Мяркую, ён думаў, як напісаць верш пра кагосьці, каб не наклікаць таму шкоды сваімі словамі. І ўсё ж такі адносна сябе не пазбягаў пісаць прарочлівыя вершы, у якіх ёсць прадчуванне сваёй бяды. У росквіце паэтычнага і жыццёвага шляху Алесем было напісана некалькі вершаў трагічна-прадказальных: «На самым дне маёй самоты...» (1993), «Кажуць...» (1997), «Ёсць хлеб. І ёсць віно...» (1991), «Там» (1993)...

Мяркую, што вандроўкі з Іванам Чыгрынавым, які многа ведаў пра Беларусь, натхнілі Алеся на напісанне такіх вершаў, як «Балада роду», «Крычаў», «Піліп з Канапель», «На радзіму сэрца кліча...». Алесь прыслухоўваўся да парады Івана Гаўрылавіча слухаць і запамінаць, бо толькі тады можна стаць сапраўдным пісьменнікам, а не проста членам Саюза. Жарт Івана Чыгрынава наконт добрай жонкі, ранішняга кабінета і вячэрняга буфета Алесь часта ўзгадваў. Аднак, колькі я памятаю, вячэрні буфет не заўсёды быў у Алеся, бо ён заставаўся на працы дапазна, як гэта было ў «Полымі», «ЛіМе», «Вожыку». У свой апошні дзень ён ізноў затрымаўся ў рэдакцыі, чытаючы рукапіс маладой паэткі...

Слоган «Прыгажосць, як і талент, належыць народу» адносна жанчын, якім часта карыстаўся Алесь, меў лёгкі налёт двухсэнсоўнасці. Аднак Алесевы субяседніцы ніколі не крыўдзіліся, бо выказваўся ён з любаваннем жаночай прыгажосцю. Я не памятаю ніводнага выпадку, каб Алесь спрачаўся з жанчынамі. Ён мог толькі ледзь-ледзь скіраваць тэму спрэчкі ў неабходнае рэчышча і поўнасцю пагаджаўся з іхнімі выказваннямі. «Жанчына сама па

сабе ўжо ёсць верш»,— любіў гаварыць Алесь, загадкава і ветліва-ўсмешліва пазіраючы на суразмоўцу.

У размовах Алесь не рэдка цікавіўся: «Як ты думаеш, ці будзе час, калі нашыя палацы і замкі нарэшце адбудуюцца і вернуцца на нашу радзіму ўсе пісьменныя і матэрыяльныя каштоўнасці?» І пытліва паглядаў, як бы чакаў станоўчага адказу...

Алесь крытычна ацэньваў сваю творчасць. Даволі занепакоена гаварыў: «Ці будуць чытаць мае вершы?» і наогул «Ці выжыве беларуская паэзія?». Ён крытычна ставіўся да сітуацыі выкладання і вывучэння паэзіі ў школе («Не пішы, бацька...»). Яго выказванне «...нішто не забівае так любоў да паэзіі, як прымусовае і часам бяздумнае завучванне вершаў на памяць на ўроках літаратуры» магу пацвердзіць. І дадам: асабліва завучванне няўдалых вершаў. Неяк аб гэтым мы размаўлялі з Алесем, і я прывёў яму ў прыклад верш «Махальнік Іваноў», які ў школе давялося вывучваць на памяць. Даваўся ён настолькі цяжка, што я зазубрываў яго некалькі гадзін. І ўрэшце вырашыў, што літаратура — гэта не вельмі добры прадмет. Алесь жа пераканаў мяне ў адваротным, і я, дзякуючы яму, палюбіў паэзію.

*Таццяна Мушынская*

## «Я НЕ ПАМРУ, ПАКУЛЬ ЛЮБЛЮ...»

Як гэта горка, як скрушна ўсведамляць — што яго больш няма... Зусім маладога — яшчэ далёка да 50, такога вясёлага, жартаўлівага. Алесь і чорны колер, Алесь і труна, Алесь і маўклівасць — як гэта дзіка, недарэчна. Так не можа быць! Але, на жаль, гэта рэальнасць...

Мы пазнаёміліся больш за 20 гадоў таму, вясной 1981 года, калі пасля журфака я прыйшла працаваць у «ЛіМ». Пісьмянкоў прыйшоў у штотыднёвік «ЛіМ» незадоўга да таго. Так атрымалася, што сталы нашы знаходзіліся ў адным кабінеце, якраз насупраць. Я рыхтавала артыкулы пра мастакоў. Алесь (разам з Юрасём Свіркам) рыхтаваў прозу і паэзію.

Не сябраваць з Пісьмянковым было проста немагчыма. Добразычлівасць, неверагодны аптымізм і ўменне бачыць жыццё ў гумарыстычных фарбах неяк адразу падкуплялі. Здаралася, Алесь чытаў уголас вершы, як я пазней зразумела, якія былі напісаны нядаўна або напярэдадні ноччу. Яго цікавіла думка слухача, уражанне... Такі давер не мог не кранаць. А гэты густы, «дыяканскі» бас гучаў так сакавіта, з раскатамі! Вочы трохі прыжмураныя, з хітрынкай, пшанічныя вусы натапыраны...

Вакол Пісьмянкова ўвесь час былі вельмі цікавыя людзі. Валодзя Марук, Мікола Пракаповіч, Алесь Каско, Валодзя Ягоўдзік... Кожны ягоны сябра сам быў асобай, яркай і арыгінальнай. Кожны так ці іначай потым спраўдзіў свае мары і рэалізаваў здольнасці ў прыгожым пісьменстве. А тады гэтыя таленты толькі разгортваліся.

Глыбокая павага да Алеся і захапленне ягонай творчасцю падштурхнула напісаць рэцэнзію на першы зборнік ягоных вершаў «Белы камень», які выйшаў у 1983 годзе. Рэцэнзія пісалася яшчэ па карэктуры, выйшла ў «Знамени юности». Памятаю, сам Пісьмянок, як яго ўсе называлі, быў у захапленні: «Ніводнай заўвагі!» Але хто можа рабіць заўвагі паэту, які размаўляе з Богам? У гэтых вершах былі паэтычнасць самога бачання і ўспрымання свету, пранізлівая шчырасць, прыхаваны драматызм. А яшчэ цікавасць да айчыннай гісторыі, мовы, літаратуры. Бясспрэчнай аксіёмай гэтая цікавасць зрабілася потым, праз дзесяцігоддзе. А тады, на пачатку 80-х гадоў, моцна і, здавалася, назаўсёды ўсталяваўся брэжнеўскі застой.

І разам з тым які быў час, якая эпоха! 1982, 1983 гады... Новыя кнігі, новыя спектаклі, выстаўкі, якія потым паклалі пачатак новым накірункам у беларускім мастацтве... Свежы вецер наступнай эпохі пачынаўся менавіта тады.

Людзі, якіх аб'ядноўвае агульная маладосць, агульныя ўражанні, з цягам часу пачынаюць яшчэ больш цаніць адзін аднаго. Я ніколі не адносіла сябе да ліку блізкіх сяброў Пісьмянкова, але лічу, што калі падрабязнасцей замнога, гэта перашкаджае ўбачыць маштабнасць асобы або з'явы.

У Алеся выходзілі кнігі — «Чытаю зоры» (1988), «Планіда» (1994), «Вершы» (1997), «Журавель над студняй» (1998), зборнікі вершаў для дзяцей — «Заўзятары» (1993), «Ласуны-веселуны» (1996). У 2000 годзе, на пераломе двух стагоддзяў, у знакамітай серыі «Беларуская паэзія XX стагоддзя» (дзе друкаваліся пераважна жывыя і нядаўна памерлыя класікі, а таксама майстры, набліжаныя грамадскай думкай да гэтага статусу) выйшла кніга ягонага выбранага «Я не памру, пакуль люблю». Штогод вялікія падборкі вершаў паэта выходзілі ў часопісе «Полымя», газеце «Літаратура і мастацтва».

Пісьмянок ніколі не пісаў «дацкіх» вершаў, прысвечаных пэўным датам, у яго няма паэм. У яго шмат невялікіх вершаў, мініяцюр, замалёвак, але якіх ёмістых! Як трэба любіць сваю зямлю, яе прыгажосць, каб напісаць так:

Узмакрэлы і босы,
Бронзавы ад загару,
Стомлены сенакосам
Ліпень прылёг памарыць.
Мёдам на ўсю Еўропу
Пахнуць стагі і копы.

Шэсць радкоў — увесь верш «Ліпень»...

Я імкнулася не прапускаць нічога з напісанага ім. Бо ведала, што гэта сапраўднае Мастацтва. Музыка слова, глыбіня сэнсу, знітаваная з яснасцю формы, дарылі асалоду:

Люты ў валёнкі абуты,
Апрануты люты ў кажух.
Люты
спрабуе
на лютні
Апошні акорд завірух.
Чуеце
лютага
лютню?
У лютага слых абсалютны.

У паэта таксама абсалютны слых. Пісьмянкоў не гуляў у авангардызм, яго «традыцыйная» паэзія сілкавалася здаровым, народным светаўспрыманнем. На старонках ягоных кніг — пашана да Слова («Малю-

ся слову, // А ў горных высях // Маўчаць сурова // Стральцоў і Пысін»). Пашана да продкаў. Пашана да роднай зямлі. Вось толькі дванаццаць радкоў — верш «Санны след»:

Праз столькі зім, праз столькі лет
Мяне расчуліў санны след.
Знаёмы след, звычайны след,
Як гэты снег, як гэты свет.

Як родны дом, замшэлы дах,
Айчыны дым — радзімы пах...
Куды бяжыць, куды вядзе,
Дзе абрываецца ён, дзе?

Бяжыць праз лес, крычыць праз лёс,
Каб чысціню я ў сэрцы нёс.
...Праз век ракет
Нёс санны след.

Для такіх асоб, як Пісьмянкоў, літаратура — сапраўды справа святая. Яны не клянуцца прылюдна ў любові, не б'юць сябе ў грудзі, але любоўю да Слова і да Радзімы, як цяпер разумееш, мералася ўсё.

Жадаеш таго ці не, але смерць заўсёды падводзіць пэўную рысу. І прымушае на даўно вядомае паглядзець іначай. Паміж тым, што напісана Алесем, і паміж ім самім як асобай існавала нейкая дзівосная гармонія. Ён не расчароўваў пры блізкім знаёмстве, як вельмі часта расчароўваюць зблізку вядомыя людзі. Думаю, што ўладу ягонай абаяльнасці адчувалі на сабе літаральна ўсе, з кім ён быў знаёмы. Абаяльнасць — з'ява невытлумачальная. Цяжка назваць людзей, якія б яго не любілі, ім не захапляліся — як паэтам, як асобай, як сакратаром Саюза пісьменнікаў, як галоўным рэдактарам «ЛіМа».

Як прыемна, як лёгка і светла было сустракацца з ім на літаратурных вечарынах, святах, у «ЛіМе» ці часопісе «Полымя»! Як прыемна было аддаваць яму ў рукі — апавяданне, аповесць, нататкі. Заставалася пачуццё надзейнасці: не прападзе, не згубяць, будзе падтрымана і ўхвалена, калі заслугоўвае ўвагі...

У Алеся быў дзівосны характар. Сярод людзей беларускага мастацтва чамусьці шмат людзей мінорных, засяроджаных на сабе (і на сваім вытанчаным

унутраным свеце). Людзей мажорных — непараўнальна менш. Можа, таму яны адразу кідаюцца ў вочы? Мне заўсёды здавалася, што аптымізму Алеся ніколі не будзе канца, не будзе мяжы. Менавіта тады я напісала верш, прысвечаны яму. Былі ў ім і такія радкі:

Я люблю аптымістаў,
Як Алесь Пісьмянкоў.
Чую ў нотах басовых
Гулы даўніх вякоў.

Чую ў нотах басовых
Гул царкоўнага звона...
Княжы трэба пасад?
До газетнага трона!

Ой, Алесь Пісьмянкоў!
Хітры позірк рыжага ліса.
Пад славы цяжарам
Ты, аптыміст, не схіліся!

Пісьмянок быў тады галоўным рэдактарам «ЛіМа», і да яго бясконца ішлі творчыя людзі. Са сваімі новымі творамі, прапановамі, ідэямі. Было шумна, весела і цікава... Алесь быў сапраўды лідэр. У літаратурным асяроддзі, дзе шмат розных падводных плыняў, розных эстэтычных платформ і напрамкаў, дзе, здараецца, цяжка дамовіцца, ягоны літаратурны аўтарытэт быў калі не бясспрэчны, дык вельмі высокі.

Чаму вакол Пісьмянкова заўсёды аказваліся людзі? Чаму іх было шмат — яркіх, таленавітых? І маладзейшыя за яго. І прызнаныя майстры, у якіх ён умеў і не саромеўся вучыцца. Сярод іх — Анатоль Вялюгін і Міхась Стральцоў, Ніл Гілевіч і Віктар Карамазаў, Сяргей Законнікаў і Анатоль Вярцінскі. Можа, усе, з кім сутыкаўся Алесь, свядома ці падсвядома адчувалі яго самабытнасць, магутнае станоўчае біяполе? Неверагодная добразычлівасць. Абсалютная адсутнасць зайздрасці, дробязнасці. Ён надзіва тонка адчуваў іншых. Умеў падтрымаць, падахвоціць, сказаць уголас і пры ўсіх добрае слова... Чалавек грамадскі іншы, чым чалавек прыватны. Сустрэчы з чытачамі, ванд-

роўкі, размовы — мне здаецца, што для Алеся гэта было натуральна.

Акрамя матэрыялістычнага, цвяроза-медыцынскага тлумачэння («перанёс мікраінфаркт на нагах», «ніколі не звяртаўся да дактароў»), існуе яшчэ і метафізічнае тлумачэнне кожнай трагічнай падзеі. Некалі, вельмі даўно, Сяргей Ясенін, якога Пісьмянкоў любіў (гэтаксама, як Мікалая Рубцова), напісаў пра сябе: «Я — последний деревни поэт...» Думаю, што Алесь, рамантык па ўнутранаму складу душы, не заўсёды ўтульна адчуваў сябе ў паўсядзённым, празаічным і прагматычным жыцці, дзе звычайна выйграюць гандляры, а не паэты. Прагматыкі і цынікі, а не летуценнікі. З кожным годам у жыцці ўсё менш становіцца музыкі, без якой душа паэта не вытрымлівае...

Вазьмі ў мяне поле,
вазьмі ў мяне лес,
І я згіну,
як той Ахілес,
Не ўвайшоўшы ні ў міфы,
ні ў кнігі,
Я сканаю па-нашаму ціха,
Як жораў
у меліярацыю,
Як зямляк
у міграцыі...

Гэтыя радкі напісаны дзесяць гадоў таму. Так «ціха» ён сапраўды і сканаў...

Сам Пісьмянкоў лічыў, што шмат пісаць не трэба, бо кожнае слова павінна быць аплочана пачуццём. Як грошы ў дзяржаве — золатам. А іначай пачынаецца інфляцыя... Цяпер разумееш, чаму так моцна дзейнічалі на свядомасць ягоныя вершы — слова сапраўды было аплочана. Чыстым золатам паэтавай душы. Зразумела, вершы Алеся застаюцца ў хрэстаматыях і школьных падручніках, некалі сябры выдадуць зборнік успамінаў. Магчыма, залічаць да сонму класікаў. Гэта суцяшэнне, але слабое. Жывы, хоць і без рэгалій,— усё роўна лепей...

Алесь Пісьмянкоў. Светлы чалавек, пацалаваны Богам. Белагаловы паэт з вёскі Бялынкавічы. Як шкада... І як цяжка жыць без такіх людзей. Кім і як можна іх замяніць?

*Віктар Патапенка*

## НЕ ЗНІКАЙ...

У тую вечаровую пятніцу ён падняўся з-за рабочага рэдактарскага стала, падышоў да акна, адкрыў фортку і сказаў апошнія словы: «Глядзі ты, на дварэ цяплей, чым тут».

Сапраўды, у той вечар і ў першую палову другога дня маладой вясны было цёпла. І толькі калі яго прывезлі дадому, на кватэру, пайшоў дождж. Ён не сціхаў усю ноч, біў дробным пошчакам па падаконніку, наганяючы тым, хто сядзеў каля труны, яшчэ больш жалю і смутку.

Ліліся божыя слёзы і днём, калі на Кальварыйскіх могілках з Алесем развітваліся родныя і блізкія, сябры і прыхільнікі таленту. Здавалася, сама прырода, зямля, шматкроць апетая ў вершах паэта, абмывала, рыхтавала свежавыкапаны дол, каб прыняць у сваё ўлонне сваё ж дзіця — такое ж чыстае і светлае.

За тыдзень да бяды мы планавалі ехаць з ім на Бацькаўшчыну, на радзіміцкую зямлю роднай Касцюкоўшчыны. Так склалася, што я застаўся тут, у Мінску, Алесь жа, разам з братам, паехаў у Бялынкавічы, каб да Радаўніцы паспець паставіць помнік маці. Апошнія гады Алесь стараўся больш бываць на радзіме, якая давала яго збалеламу сэрцу энергетычны напой.

У радзімым краі,
У зялёным гаі
Буду раны гаіць.

Там крыніца адна
Нават ноччу відна
Аж да самага дна.

Туды прадзед хадзіў,
Дзед душу маладзіў,
Бацька сум саладзіў.

Яна ж мкне ўсё, імкне,
Срэбра свеціць на дне —
Яго хопіць і мне.

Срэбрам ягонай душы, яго багаццем была Беларусь, асабліва родная касцюковіцкая зямля. Яго пявучая, спагадлівая душа сумавала ў апошні час, асабліва калі не стала ў жывых бацькі і маці.

Трэці год не кашу
Я з табою лугі.
Там мянташыць касу
Зараз нехта другі...

...Забяседдзе ў расе.
Над ракой туманок.
Па сваёй паласе
Не ідзе Пісьмянок.

Вось і я, Алесь Пісьмянок, ужо столькі дзён не чую твайго басавітага голасу. І вясна болем студзіць сэрца. Вакол набірае сілу жыццё. Імкнецца да сонца кожная травінка. А цябе няма...

Падчас сваёй апошняй паездкі на радзіму Алесь начаваў у свайго бялынкавіцкага сябра, суседа Аляксандра Скугара. З нашай тэлефоннай размовы я адчуў, што нейкі боль пасяліўся і працінае ягонае сэрца. «Ведаеш,— прызнаўся Алесь,— ноч не мог заснуць, блукаў каля бацькоўскай хаты, а потым, аж да раніцы, прасядзеў на беразе Бесядзі».

Падчас размовы я адчуў, як на тым канцы дроту павіс глыбокі нявыказаны сум.

Эх, маці, маці,
Як пуста ў хаце!
Куды ні глянеш —
Душу параніш.
Як адзінока
Пад поўні вокам,
Як невыносна!

Так за чатыры дні да свайго адыходу, паставіўшы з братам помнік на магіле роднай маці, развітваўся саракасямігадовы паэт са сваёй роднай калыскай. Назаўтра, у чацвер, пасля таго як мастак часопіса «Вожык» Іван Бокій аддаў мне малюнкі для дзіцячай старонкі «Ліманяці», я зайшоў да Алеся. Ён, як заўсёды, шчыра, з усмешкаю прывітаўся, падрабязна яшчэ раз прыгадаў паездку ў родны кут і праводзіў мяне да выхаду з будынка старога Дома друку. На развітанне

сказаў тое, што гаварыў заўсёды: «Не знікай!» Сам жа на другі дзень знічкаю ўзляцеў у нябёсы, пакінуўшы за сабою доўгі шлейф паэтычных радкоў пра Беларусь, родную зямлю, пра Бесядзь.

Летась, якраз гэтай парой, мы былі з ім у Бялынкавічах. Пехатою абышлі ўсю вёску, бярозавы гай, што красуе за Самадумаўкай (так называецца куток вёскі), прайшлі па лузе, дзе ён з бацькам абуджаў звонам касы калісьці ранне, зайшлі ў трохкутнік, утвораны плынню дзвюх рэк (Зубр упадае ў Бесядзь). Алесь не раздумваючы скінуў з сябе вопратку і нырнуў у ваду. Я не рызыкнуў, пабаяўся прастудзіцца, а ён, калі выйшаў на бераг, сказаў: «Вада дае сілы і настрой».

Вёска майго маленства — Калодзезкая — знаходзілася ў сарака кіламетрах ад ягонай. Пасля чарнобыльскай бяды яе пахавалі з-за вялікай радыяцыі. Падчас той паездкі мы з Алесем наведаліся і да маёй калыскі. На былой сядзібе сіратліва цвіў сад, а сярод няскошанай леташняй травы прабівала дарогу маладая зеляніна. Збоч дарогі балюча вымалёўваўся закінуты зруб калодзежа. І толькі крыніца бруілася з-пад зямлі, як тады, у маленстве...

«Арытмічны верш» у Алеся нарадзіўся адразу. На другі дзень ён зачытаў яго мне:

«Ах, якая вада
 ў Калодзезкай,
Хоць бяры ды на продаж вязі!
Калі вып'еш —
Душа амалодзіцца,
Калі вып'еш —
Яшчэ папрасі!»
Гэта з маленства
 мне помніцца,
Гэта адтуль прыплылі
 галасы,
Гэта ходзіць мая бяссонніца
Ля чарнобыльскай
 паласы,
Дзе ні сеецца,
 ні малоціцца,
Дзе ніколі ніхто
 не народзіцца.
Што ж ты,
Сэрца,
Калоцішся
Ля пустога калодзежа?

Яго сэрца глыбока крануў боль страты сотні такіх жыхароў Беларусі, як я, у якіх Чарнобыль забраў самае дарагое і роднае. Па дарозе Алесь жартаваў: «Як жа мы з табой раней не пазнаёміліся? Хадзілі б адзін да аднаго напраскі...» У апошнім слове я адчуў зямляцкую роднасць ягонай тонкай і чулай душы.

Пісьмянкоў, Пісьмянок... Як рана ты пайшоў. Мае знаёмыя пыталі, ці сапраўднае ў цябе прозвішча. Занадта літаратурнае. Можа, гэта псеўданім? «Сапраўднае,— адказваў я.— Даронае прадзедам і Богам». І талент сапраўдны таксама. Твая чыстая, добразычлівая, глыбакалюбячая Душа засталася ў вершах. Значыцца, ты не знік, ты сярод нас. І, мабыць, у гэтыя сорак дзён яна Зоркай лунала там, на Касцюкоўшчыне, над высокім падкавападобным берагам Бесядзі.

За Бесяддзю-ракой
Іржэ мой белы конь.
Вушамі конь стрыжэ...
Трывожна конь іржэ...
Праз вёрсты і гады
Заве мяне туды,
Да той святой вады,
Што горкне ад бяды.

Горка і тваім сябрам, Алесь. Больш слоў, лічу, не патрэбна. Бывай, дружа! Засталася твая сапраўдная нязгасная Паэзія, якую ты падарыў нам на радасць і шчасце, каб у суме і горы не забывалі пра самае святое і добрае на зямлі...

Ён ранкам падкову
знайшоў у расе,
шчаслівчык,
адораны лёсам,
і кожны падумаў:
дамоў панясе!
А ён — шпурлянуў
у нябёсы:

«Будзем, людзі,
шчаслівыя ўсе!»

*Май 2004 года*

*Віктар Шніп*

# «ЁН У ДЫВІЗІЮ АЛЯКСЕЯ ПЫСІНА ПАЙШОЎ...»

Кальварыйскія могілкі ў Мінску... Колькі разоў я тут быў, калі жыў побач. Хадзіў сюды адзін, з жонкай і дзецьмі. І заўсёды наведваў магілу Янкі Лучыны. І зусім не думаў, і ў сне страшным не снілася, што вясной 2004 года ў кальварыйскую зямлю ў свае сорак сем гадоў ляжа Алесь Пісьмянкоў. Не дапісаўшы, не дарабіўшы, не далюбіўшы, не дакурыўшы апошняй цыгарэты... Амаль пяць гадоў з Алесем як з галоўным рэдактарам [redacted] прапрацаваў у «ЛіМе». Не ведаю, як каму, а мне з ім было добра. Ён давяраў лімаўцам, і лімаўцы давяралі яму. Ён за «ЛіМ» перажываў, і асабліва калі пры ім давялося скарачаць амаль напалову штат рэдакцыі. Матэрыялы, якія рыхтаваліся да друку, ён не вельмі любіў чытаць, але калі за нешта браўся, то клікаў мяне да сябе ў кабінет і, чытаючы ўслых, не проста нешта правіў, а раіўся, як тое ці іншае зрабіць лепей. Радаваўся чужым поспехам, перажываў няўдачы іншых. За пяць гадоў сумеснай працы дзе мы толькі разам не перабылі! І на днях нараджэння, і на пахаваннях, і на творчых сустрэчах... І ўсюды былі побач. І цяпер, калі я рыхтую да друку рукапіс яго кнігі «Думаць вершы...», адчуваю і нават бачу Алеся побач з сабой. Ён спакойна сядзіць на крэсле, сядзіць моўчкі, з верай у вачах, што мы, яго сябры, давядзём пачатую ім справу да канца і кніга, якую ён абяцаў прынесці ў выдавецтва 26 красавіка, за чатыры дні да смерці, выйдзе ў свет. Ды няхай бы новай кнігі не было зусім, а лепей быў бы жывы Алесь Пісьмянкоў! Але тое, што адбылося, ніхто ўжо не перайначыць.

Праз чатыры месяцы пасля смерці Алеся Пісьмянкова памёр Юрась Свірка. Алесь яго называў вучыцелем. І цяпер, успамінаючы ўзаемаадносіны Алеся і Юрася Мікалаевіча, адчуваю, што з іх смерцю адыходзіць ад нас калі не эпоха шчырых настаўнікаў і вучняў у літаратуры, то сярод пісьменнікаў розных пакаленняў парвалася яшчэ адна светлая нітачка, нітка Арыядны, дзякуючы якой мы ўсе ішлі праз

гады разам, паважаючы адзін аднаго і разумеючы, што нас мала. Алесь умеў даражыць сяброўствам як з маладымі літаратарамі, так і са старэйшымі. Асабліва ён цаніў сваіх землякоў, і яны адказвалі яму ўзаемнасцю... Пішу гэтыя радкі і лаўлю сябе на думцы, што я, відаць, паўтараю ўсіх, хто пісаў пра Алеся Пісьмянкова, піша ці збіраецца напісаць. «Быў выдатным паэтам, добрым сябрам, таварышам. Любіў вясёлыя кампаніі, падарожжы...» — гучыць у маёй душы, і я не магу далей, слізгаючы па паверхні былога, паўтараць іншых, бо мае ўспаміны (а ёсць і дзённікавыя запісы) пра Алеся яшчэ наперадзе, а пакуль няхай будуць вершы, прысвечаныя яму.

## БАЛАДА АЛЕСЯ ПІСЬМЯНКОВА

Ведайце: калі мяне не стане —
Я ў сваю дывізію пайшоў.

*Аляксей Пысін*

Мы ідзём праз спёку і снягі,
Праз надзею, веру і любоў.
Як раку трымаюць берагі,
Мы жывём душою між сяброў.

І ніхто не ведае, хто з нас
Першым скажа вечнае: «Бывай...»
Нібы смерць, ляціць за намі час,
Як жыццё, прад намі родны край.

Ты гаворыш: «Будзем доўга жыць,
Як жывуць надзея і любоў...»
Ды за намі, як трава, крыжы
Прабіваюцца з зямлі сярод крыжоў.

Нечаканасць, як агонь, як стрэл,
Праз цябе — і ўжо цябе няма,
Толькі дождж і кветкі на двары,
Холад, бы вярнулася зіма.

На пытанне, што гучыць прыцішана:
«Дзе паэт? Дзе Саша Пісьмянкоў?»

Чуецца з нябёс узвышана:
«Ён да Аляксея Пысіна
У яго дывізію пайшоў...»

* * *

*Памяці Алеся Пісьмянкова*

Цяпер нябёсы, нібы шкло, між намі,
Дзе зоры — залатыя матылі,
Якія толькі лётаюць начамі,
Як да агню, імкнуцца да зямлі.

І ўжо нікому не сказаць нічога,
І ўжо нічога болей не пачуць,
І Млечны Шлях, нібыта шлях да Бога,
Дзе нашы душы плачуць і пяюць.

І ноч міне, і новы дзень пачнецца,
І будзе ўсё, нібыта як было.
Мая ж душа, як птушка, зноўку б'ецца
Аб неба і самоту, як аб шкло...

*Іван Карэнда*

## ЗАПОЗНЕНЫЯ КВЕТКІ

Паэты паміраюць
без пары.
Раптоўна, нечакана
і заўчасна.
Такая доля —
сведчаць дактары —
Іх сэрцы разрываюцца
на часткі.

Свет пакідаюць рана
песняры
Зямной красы, любові
і надзеі,

Трывог, бяды
і гора званары,
Нястомныя руплівцы-
дабрадзеі.

Бясстрашныя спрадвеку
ваяры
На полі ратным пры любой
уладзе,
Паэты паміраюць
без пары,
Ратуючы планету
ад бязладдзя.

Калі віхураць чорныя віры,
Спраўляе баль нахабная
мярзота,
Паэты не хаваюцца
ў нары,
А першымі кідаюцца
на дзоты.

Не падхалімы
і не гандляры
Сяброўствам, гонарам,
сумленнем...
...Запозненыя кветкі
на жвіры
Не гояць раны, не даюць
збавення...

Паэты паміраюць
без пары.
Яны — святыя вартавыя
часу...
...Шчыруйце на іх ніве,
друкары,
Каб свет засеяць дабрынёй
і шчасцем!

*Уладзімір Мазго*

## ПАМЯЦІ АЛЕСЯ ПІСЬМЯНКОВА

Ну наплач мне, неба, лужу,
Каб пабегчы басанож!

*Алесь Пісьмянкоў*

Плача неба...
Плача дождж...
На магіле
мокне глеба.
А душа ўжо
басанож
Па зямлі бяжыць
на неба.
Столькі слёз
наплакаў дождж,
Што ўсё неба —
быццам лужа,
У якое
басанож
Скачуць шмат
разутых душаў.

*Мікола Шабовіч*

## НА РАЗВІТАННЕ З АЛЕСЕМ ПІСЬМЯНКОВЫМ

...І заплакала неба,
як ты адляцеў, нібы птах,
У заўчасны свой вырай,
адкуль немагчыма вярнуцца.
Быў да болю кароткі
твой лёсам адмераны шлях.
Ты нібыта заснуў,
толькі сілы не маеш прачнуцца.
Ты сябе не бярог,
быў аддэаны бацькоўскай зямлі,
Ты радком спавядаў чысціню,
дабрыню, чалавечнасць.
Ты прабач, калі мы цябе не зберaглі.
Нам сказаў: «Не знікай...» —
сам жа знічкай знікаеш у Вечнасць.

* * *

Крыж — нібы маўклівы
некралог.
Кветкі — на грудок
незатравелы.
Нават красавік тады не мог
Заглушыць сваю бяду залевай.

Строфы недапісаных радкоў
Хай буслы над Бесяддзю
завершаць,
А святой Кальварыі спакой
Хай не перашкодзіць
думаць вершы.

*Эдуард Акулін*

## ДУМАЕШ ВЕРШЫ...

Я не памру, пакуль люблю...
*Алесь Пісьмянкоў*

Я не веру, што адлюбіў.
Я не веру, што ты памёр...
Белым камнем у сіні вір
твае сэрца ляціць да зор.

Толькі ты іх умеў чытаць
і Планіду пісаў, як мог...
Буду ў госці цябе чакаць
у Нямках — як адпусціць Бог.

Ты ж казаў мне заўжды:
— Браток,
у нас рэчка з табой адна.
Мы — радзімічы,
наш выток —
ад радзінных крыніц святла.

А на Бесядзі — ой, разліў!
Не было шчэ такіх, Алесь.
Я не веру, што адлюбіў,—
проста думаеш вершы дзесь...

## *Павел Саковіч*

* * *

*Алесю Пісьмянкову.*
*Яшчэ жываму.*
*Заўжды жываму*

Крылатыя вершы
і думкі твае,
А голас на плошчу,
на волю імкнецца.
Хоць ён да аблокаў,
нябёс дастае,
Пачуйце, як сэрца
паэтава б'ецца!

Ад шчасця і прагі
любіць і тварыць
На сцэне, здаецца,
якраз разарвецца.
Ажно мікрафон
захлынуўся — фаніць...
І вось ва ўнісон
б'ецца тысяча сэрцаў!

Як быццам ударылі
храмы ў званы,
Якія то радасць,
то сум навяваюць...
А там, на радзіме,
салоўкі з вясны
На вершы Алесевы
песні спяваюць.

*2002*

## САМОТНЫ ВЕРШ

*Светлай памяці*
*Алеся Пісьмянкова*

Не пацячэ назад рачулка,
Ды раптам запаволіць плынь.
І гай працяглым стогнам гулкім
Сустрэне горшую з навін.

Асірацела рэчка Бесядзь,
І родны край знямеў, прыціх.
Блукае толькі рэха дзесьці
Алесева ў лясах грыбных.

Прысуд заўчасны і суровы —
Плыць Стыксам, мёртваю ракой,
Але душа яго і слова
Зліліся з Бесяддзю жывой.

Што сэрцу міла, ім апета
З любоўю шчырай назаўжды.
А песня ўсё ж яго не спета,
Пакуль яна з т а г о Сусвету
Гучыць праз межы нематы.

### *Васіль Зуёнак*

* * *

*Алесю Пісьмянкову*

А было такое:
Лета ў звон гуло,
Бесяддзю-ракою
Да Сажа плыло.

Спрыту не хавалі —
Пад узмах рукі
«На сажонкі» хвалю
Бралі хлапчукі.

Сох пракос сажнёвы,—
Водар мурагоў
Аж да Магілёва
Далятаў з лугоў.

Зверху ж, у нябёсах,
Клопаты свае:
Дождж перапялёсы
Сыпануць ці не?

Колераў сем столак
Гром у пас звязаў —
Беседна вясёлак
Арэлі разгайдаў...

Сожна і мурожна,
Мёдна, як з вулля,
І травінкай кожнай
Цешыла зямля...

Заблукаўся ў леце
Пісьмянкова спеў
Ды і не прыкмеціў,
Як зіму сустрэў.

Бесядзь не ў бяседзе,
І, нібы ў бярлог,
Гром старым мядзведзем
У сумёт залёг.

Ды малюнак строгі —
Не сваяк нудзе,
І марозік ногі
Лёгка ў лес вядзе.

Ранкам заінелым
Аж звініць лядок!..
Рытмы чорна-бела
Просяцца ў радок...

Не ляцяць арэлі,
Чуйна спяць грамы...—
Лета акварэлі...
Графіка зімы...

*23.10.2001*

*Леанід Дранько-Майсюк*

* * *

Мы з Пісьмянковым Алесем
Неяк сышліся на тым,
Што золата шлюбу жалезам
Робіцца не залатым.

Не залатое жалеза —
Сімвал шчаслівай тугі,
Тваёй і маёй паэзіі...
Ах, мой Алесь дарагі!

*Васіль Макарэвіч*

## З ЛЮБОЎЮ І ЖАЛЕМ

*Светлай памяці*
*Алеся Пісьмянкова*

Ды не! Ён не быў
Салаўём з салаўёў,
Хоць чулі яго пад Браслаўем і Копысем.
Ён паруснік з музай ўпэўнена вёў
Між зорных караляў, без лоцый
І компаса.

Стаяў рулявым
Ля стырна ён штодня,
Сабой каранасты, падобны да шкіпера.
І бачыў, як бёрнамі цяжка са дна
Каціліся хвалі стагоддзя
У кіпені.

Не згледзеў і сам,
Як узбор'ем нябёс
Прайшоўся пярун і загрукаў парубшчыкам,
Каб чыркнуць па сэрцы маланкай наўскос,
Ды потым адкласціся тоненькім
Рубчыкам.

Калі ж метэораў
Сплывалі дажджы
І ноччу каметы з пагрозаю зіркалі,
Было хоць у джунглі ад болю збяжы,
Што вочы сляпіў бліскавіцаю
Зыркаю.

Ды што́ гэты боль!
Для яго — трын-трава!
Ускормлены з бедаў ён вострага кончыка.
Адно толькі сэрца прасіў: патрывай!
Магчыма, пакуты да раніцы
Скончацца!

Быў рады,
Што скарб наш ніхто не размёў,
Хаця і пабыў ён не раз пад паразаю.
І шчырай любові славянскім вязьмом
Стаяў ён на ржышчы вякоў
Падперазаны!

Прыносіў дамоў
Ён радок, як трафей,
Аперaны сілай і жывасцю птахавай.
Ды водгалас чуўся і ў жытняй страфе
Журлівай, бы кнігаўкі плач,
Эпітафіі.

Насіў пахвалу,
Як чужую скулу.
І з жалем глядзеў на прарокаў і скептыкаў.
І раптам аб зорную — з лёту! — скалу!
І паруснік з музай — на друзкі
З аскепкамі...

Аб века
Грукочаць зямлі камякі —
Для родных чуць грукат
Не дай жа ты, Божачка! —
Бы ў дзверы малоцяць яго сваякі,—
Ды толькі наўрад ці разбудзяць
Нябожчыка...

*Браніслаў Спрынчан*

* * *

Дзе лукавіна, як падкова,
Звініць і весніцца бруя...
Хаджу і зноў, за словам
слова,
Смакую я.

Гамонім, як з жывым,
з паэтам,
Знікае вечнасці мяжа,
А азараецца пры гэтым
Яго душы святлом
адметным
Мая душа.

Калёраў лёгкія адценні,
Штрых першародны,
трапяткі,
І вабяць тайнай
летуценняў,
Нібыта зорнае мігценне,
Яго радкі.

Быў росквіт яркі
ў паўналецці!
І час, што здолеў ён спыніць
Сваім пяром, не згіне
ў Леце,
І між людзей на белым свеце
Ён будзе жыць.

*Пераклаў з рускай мовы*
*Васіль Зуёнак*

# ЗМЕСТ



## КАРАНІ І КРЫЛЫ

### *З нізкі «Партрэты»*



### *З юнацкіх вершаў*



### *Настрой харошы даражэй за грошы...*

## ДУМАЦЬ ВЕРШЫ...

### *З літаратурна-сентыментальнага падарожжа*

## НЕ ЗНІКАЙ...

**Пісьмянкоў А.**

П35 Думаць вершы...: вершы, эсэ, успаміны / Алесь Пісьмянкоў; уклад. В. Шніпа.—Мн.: Маст. літ., 2005.— 214 с. [6] л. іл.

ISBN 985-02-0734-5.

Алесь Пісьмянкоў (1957—2004) — адзін з самых яркіх паэтаў, што прыйшлі ў літаратуру ў 70-я гады мінулага стагоддзя. На жаль, кніга «Думаць вершы...» — апошняя кніга, якую напісаў паэт. У яе ўвайшлі літаратурныя эсэ пра пісьменнікаў і вершы, якія яшчэ раз пацвярджаюць, якім цудоўным паэтам і чалавекам быў Алесь Пісьмянкоў.

У раздзеле «Не знікай...» змешчаны ўспаміны пра самога аўтара.

**УДК 821.161.3-8**
**ББК 84(4Беи)**

Літаратурна-мастацкае выданне

**ПІСЬМЯНКОЎ Алесь Уладзіміравіч**

**ДУМАЦЬ ВЕРШЫ...**

*Вершы, эсэ, успаміны*

У кнізе выкарыстаны фотаздымкі з архіва
А. Пісьмянкова і яго сяброў

Рэдактар *В. А. Шніп*
Мастак *В. В. Катовіч*
Мастацкі рэдактар *Л. М. Рудакоўская*
Тэхнічны рэдактар *В. Ю. Серчанка*
Стылістычныя рэдактары *Л. А. Дзядзюля, Д. Р. Лосік*

Падпісана да друку 23.12.04. Фармат 84×100[1]/[32]. Папера афсетная.
Гарнітура Гарамон. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 10,53 + 0,58 укл.
Улік.-выд. арк. 10,27. Тыраж 2000 экз. Заказ 4002.

Выдавецкае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0056778 ад 17.02.2004.
220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Рэспубліканскае унітарнае паліграфічнае прадпрыемства «Баранавіцкая ўзбуйненая друкарня». 225409, Баранавічы, вул. Савецкая, 80.